58.7.6

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ
ПРАЦАСЬВЕТЫ
БССР

№ 2
1933

ЗЯРЖАЎНАЕ
ЫДАВЕЦТВА
ЕЛАРУСІ

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

О.-А. D У. К.
С.-А.Г.П.Б
Инв. 454429

3ок-1
1420

# Камуністычнае выхаваньне

Бл 1234

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ
ПРАЦАСЬВЕТЫ
БССР

ЛЮТЫ
№ 2
1933

ДЗЯРЖАУНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

# Вынікі першай пяцігодкі

*(Даклад т. Сталіна на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК Усе КП(б) 7 студзеня 1933 г.)*

## I. Міжнароднае значэньне пяцігодкі

Таварышы! Пры зьяўленьні ў сьвет пяцігадовага пляну наўрад ці меркавалі людзі, што пяцігодка можа мець вялізарнае міжнароднае значэньне. Наадварот, многія думалі, што пяцігодка ёсьць прыватная справа Савецкага саюзу, справа важная і сур'ёзная, але ўсё-такі прыватная, нацыянальная справа Савецкага саюзу.

Гісторыя, аднак, паказала, што міжнароднае значэньне пяцігодкі невымяральна. Гісторыя паказала, што пяцігодка зьяўляецца ня прыватнай справай Савецкага саюзу, а справай усяго міжнароднага пролетарыяту.

Яшчэ задоўга да зьяўленьня пяцігадовага пляну, у пэрыод, калі мы канчалі барацьбу з інтэрвэнтамі і пераходзілі на рэйкі гаспадарчага будаўніцтва,—яшчэ ў гэты пэрыод Ленін гаварыў, што наша гаспадарчае будаўніцтва мае глыбокае міжнароднае значэньне, што кожны крок уперад савецкай улады па шляху гаспадарчага будаўніцтва сустракае глыбокі водгук у самых рознастайных пластох капіталістычных краін і раскалвае людзей на два лягеры—лягер староньнікаў пролетарскай рэволюцыі і лягер яе праціўнікаў.

Ленін гаварыў тады:

> «Зараз галоўную сваю ўзьдзейнасьць на міжнародную рэволюцыю мы аказваем сваёй гаспадарчай палітыкай. Усе на Савецкую расійскую рэспубліку глядзяць, усе працоўныя ва ўсіх краінах сьвету бяз усякага выключэньня і бяз усякага перапаўялічэньня. Гэта дасягнута... На гэтай арэне барацьба перанесена ў сусьветным маштабе. Вырашым мы гэту задачу—і тады мы выйгралі ў міжнародным маштабе напэўна і канчаткова. Таму пытаньні гаспадарчага будаўніцтва набываюць для нас значэньне зусім выключнае. На гэтым фронце мы павінны атрымаць перамогу паволным, паступовым,—шпаркім нельга,—але няўхільным павышэньнем і рухам уперад» (Ленін, 3-е выд., т. XXVI, стар. 410—411).

Гэта было сказана ў той пэрыод, калі мы канчалі вайну з інтэрвэнтамі, калі ад ваеннай барацьбы з капіталізмам мы пераходзілі да барацьбы на гаспадарчым фронце, да пэрыоду гаспадарчага будаўніцтва.

З таго часу прайшло шмат год, і кожны крок савецкай улады ў галіне гаспадарчага будаўніцтва, кожны год, кожны квартал бліскуча пацьвярджалі правільнасьць гэтых слоў т. Леніна.

Але самае бліскучае пацьвярджэньне правільнасьці слоў Леніна даў пяцігадовы плян нашага будаўніцтва, узьнікненьне гэтага пляну, яго разьвіцьцё, яго ажыцьцяўленьне. Сапраўды, здаецца, ні адзін крок па шляху гаспадарчага будаўніцтва ў нашай краіне не сустракаў такога водгуку ў самых рознастайных пластох капіталістычных краін Эўропы, Амэрыкі, Азіі, як пытаньне аб пяцігадовым пляне, аб яго разьвіцьці, аб яго ажыцьцяўленьні.

У першыя часы пяцігадовы плян быў спатканы з боку буржуазіі і яе друку насьмешкай. «Фантазія» «брэд» «утопія»— так яны ахрысьцілі тады наш пяцігадовы плян. Потым, калі пачало выясьняцца, што ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну дае рэальныя рэзультаты,—яны сталі біць у набат, сьцьвярджаючы, што пяцігадовы плян пагражае існаваньню капіталістычных краін, што яго ажыцьцяўленьне прывядзе да запаўненьня эўрапейскіх рынкаў таварамі, да ўзмацненьня дэмпінгу і паглыбленьня беспрацоўя. Потым, калі і гэты трук, скарыстаны супроць савецкай улады, ня даў чаканых рэзультатаў— адкрылася сэрыя падарожжаў у СССР розных прадстаўнікоў усякага роду фірм, органаў друку, таварystваў рознага роду і т. д. з мэтай разгледзець сваімі ўласнымі вачыма—што-ж, уласна кажучы, робіцца ў СССР. Я не гавару тут аб рабочых дэлегацыях, якія з самага пачатку зьяўленьня пяцігадовага пляну выказвалі сваё захапленьне пачынаньнямі і посьпехам савецкай улады і праяўлялі сваю гатоўнасьць падтрымаць рабочую клясу СССР.

З гэтага часу і пачаўся раскол так званай грамадзкай думкі, буржуазнага друку, буржуазных таварystваў усякага роду і г. д. Адны сьцьвярджалі, што пяцігадовы плян пацярпеў поўны крах і бальшавікі стаяць на краю пагібелі. Другія, наадварот, запэўнялі, што хоць бальшавікі дрэнныя людзі,—з пяцігадовым плянам у іх усё-ж выходзіць справа і яны, як відаць, даб'юцца сваёй мэты.

Магчыма ня лішнім будзе, калі я падам водгукі рознага роду органаў буржуазнага друку.

Возьмем, напрыклад, амэрыканскую газэту «Нью-Ёрк Таймс». У канцы лістапада 1932 году гэта газэта піша:

«Пяцігадовы прамысловы плян, які паставіў сваёй мэтай зрабіць выклік пачуцьцю пропорцыі і які імкнецца да сваёй

мэты «незалежна ад выдаткаў», як часта з гонарам пахвалялася Масква, не зьяўляецца ў сапраўднасьці плянам. Гэта—спэкуляцыя».

Выходзіць, што пяцігодка нават ня плян, а пустая спэкуляцыя.

А вось водгук ангельскай буржуазнай газэты «Дэйлі тэлеграф», даны ў канцы лістапада 1932 году:

«Калі разглядаць плян, як пробны камень для «плянуемай экономікі», то мы павінны сказаць, што ён пацярпеў поўны крах».

Водгук «Нью-Ёрк Таймс» у лістападзе 1932 году:

«Колектывізацыя ганебна правалілася. Яна прывяла Расію на грань голаду».

Водгук буржуазнай газэты ў Польшчы «Газэта польска», даны летам 1932 году:

«Становішча паказвае як быццам, што ўрад Саветаў зайшоў са сваёй політыкай колектывізацыі вёскі ў тупік».

Водгук ангельскай буржуазнай газэты «Фінаншыэль Таймс» даны ў лістападзе 1932 году:

«Сталін і яго партыя ў рэзультаце сваёй політыкі аказваюцца перад тварам краху сыстэмы пяцігадовага пляну і правалу ўсіх задач, якія ён павінен быў ажыцьцявіць».

Водгук італьянскага журналу «Політыка»:

«Было-б недарэчнасьцю думаць, што чатыры гады работы народу, які складаецца са 160 мільёнаў чалавек, чатыры гады звышчалавечага экономічнага і політычнага напружаньня з боку рэжыму такой сілы, якую прадстаўляе сабою бальшавіцкі рэжым, нічога не стварылі. Наадварот, яны стварылі шмат... І тым ня менш катастрофа ў наяўнасьці, яна зьяўляецца фактам відавочным для ўсіх. У гэтым пераканаліся прыяцелі і ворагі, бальшавікі і антыбальшавікі, опозыцыянэры справа і зьлева».

Нарэшце, водгук амэрыканскага буржуазнага журналу «Керрэнт гісторыі»:

«Агляд цяперашняга становішча справы ў Расіі такім чынам вядзе да заключэньня, што пяцігадовая програма правалілася як у адносінах абвешчаных мэтаў і яшчэ больш грунтоўна ў адносінах яе асноўных соцыяльных прынцыпаў.

Наўрад ці варта крытыкаваць аўтараў гэтых водгукаў. Я думаю, што ня варта, бо гэтыя «цьвёрдалобыя» людзі належаць да парод выкапняў сярэднявяковага пэрыоду, як-бы не ажыцьцяўляўся ў нас пяцігадовы плян,—яны ўсёроўна будуць цьвярдзіць сваё.

Пяройдзем да водгукаў іншых органаў друку, якія ідуць з таго-ж буржуазнага лягеру.

Вось водгук вядомай буржуазнай газэты ва Францыі «Тан», даны ў студзені 1932 году:

> «СССР выйграў першы тур, індустрыялізуючыся без дапамогі чужаземнага капіталу».

Водгук той-жа «Тан», даны летам 1932 году:

> «Комунізм гіганцкімі тэмпамі завяршае рэконструкцыю, у той час, як капіталістычны лад дазваляе рухацца толькі павольнымі крокамі... Ва Францыі, дзе зямельная ўласнасьць падзелена да бясконцасьці паміж паасобнымі ўласьнікамі, немагчыма мэханізаваць сельскую гаспадарку; саветы-ж, індустрыялізуючы сельскую гаспадарку, здолелі вырашыць проблему... У спаборніцтве з намі бальшавікі аказаліся пераможцамі».

Водгук ангельскага буржуазнага журналу «Раунд Тэйбль»:

> «Дасягненьні пяцігадовага пляну прадстаўляюць сабою зьдзіўляючае зьявішча. Трактарныя заводы Харкаву і Сталінграду, аўтамабільны завод АМО ў Маскве, аўтамабільны завод у Н.-Ноўгарадзе, Дняпроўская гідраэлектрычная станцыя, грандыёзныя сталяліцейныя заводы ў Магнітагорску і Кузьнецку, цэлая сетка машынабудаўнічых і хімічных заводаў на Урале, які ператвараецца ў Савецкі Рур,—усе гэтыя і іншыя прамысловыя дасягненьні ва ўсёй краіне сьведчаць, што якавы-б ня былі труднасьці, савецкая прамысловасьць, як добра абводненая расьліна, расьце і ўмацоўваецца... Пяцігадовы плян залажыў асновы будучага разьвіцьця і надзвычайна ўзмоцніў магутнасьць СССР».

Водгук ангельскай буржуазнай газэты «Фінаншыэль Таймс»:

> «Посьпехі, дасягнутыя ў машынабудаўнічай прамысловасьці, не падлягаюць ніякім сумненьням. Усхваленьні гэтых посьпехаў у друку і ў прамовах зусім не зьяўляюцца неўгрунтаванымі. Ня трэба забываць, што раней Расія вырабляла толькі самыя простыя машыны і прылады. Праўда, і цяпер абсолютныя лічбы ўвозу машын і інструмантаў павялічваюцца; але пропорцыянальная доля імпортаваных

машын параўнальна з тымі, якія былі выраблены ў самым СССР, бязупынна зьмяншаецца. СССР цяпер выра6ляе ўсё абсталяваньне, неабходнае для сваёй мэталюргічнай і электрычнай прамысловасьці. Ён здолеў стварыць сваю ўласную аўтомобільную прамысловасьць. Ён стварыў вытворчасьць прылад і інструмантаў, якая ахапляе ўсю гаму—ад самых маленькіх інструмантаў вялікай дакладнасьці і аж да найбольш цяжкіх прэсаў. Што-ж датычыць сельскагаспадарчых машын, дык СССР ужо не залежыць ад увозу з-за граніцы. Разам з тым, савецкі ўрад прымае меры да таго, каб спазьненьне ў продукцыі вугалю і жалеза не перашкаджала ажыцьцяўленьню пяцігодкі за чатыры гады. Не падлягае сумненьню, што нанова пабудаваныя вялізарныя заводы гарантуюць значны рост продукцыі цяжкай прамысловасьці».

Водгук аўстрыйскай буржуазнай газэты «Нэйе фрэйе прэсэ», даны ў пачатку 1932 году:

«Бальшавізм можна праклінаць, але яго трэба ведаць. **Пяцігодка гэта новы волат,** які неабходна браць пад увагу і ва ўсякім выпадку ў гаспадарчы разьлік».

Водгук ангельскага капіталіста Гібсона Джарві, старшыні банку «Юнайтэд Дамініён», даны ў кастрычніку 1932 году:

«Я хачу растлумачыць, што я не комуніст і не бальшавік, я—выразны капіталіст і індывідуаліст... Расія ідзе ўперад у той час, як надта многа нашых заводаў бязьдзейнічаюць і прыкладна тры мільёны нашага народу шукаюць ў роспачы работы. Пяцігодку высьмейвалі і прадракалі яе правал. Але вы можаце лічыць нясумненым, што ва ўмовах пяцігадовага пляну зроблена больш, чым намячалася...

Ва ўсіх прамысловых гарадох, якія я наведваў, узьнікаюць новыя раёны, пабудаваныя паводле пэўнага пляну, з шырокімі вуліцамі, упрыгожаныя дрэвамі і сквэрамі, з дамамі найбольш сучаснага тыпу, школамі, больніцамі, рабочымі клюбамі і нямінучымі дзіцячымі яслямі і дзіцячымі дамамі, дзе клапоцяцца аб дзецях, маткі якіх працуюць... Не прабуйце надаацэньваць рускіх плянаў і не рабіце памылкі, спадзяючыся, што савецкі ўрад можа праваліцца... Сёнешняя Расія—краіна з душой і ідэалам. Расія—краіна дзівоснай актыўнасьці. Я веру, што імкненьні Расіі зьяўляюцца здаровымі... Быць можа самае важнае ў тым, што ўся моладзь і рабочыя ў Расіі маюць адну рэч, якой, на жаль, не хапае сёньня ў капіталістычных краінах, а іменна—надзею».

Водгук амэрыканскага буржуазнага журналу «Нэйшэн», даны ў лістападзе 1932 году:

«Чатыры гады пяцігадовага пляну прынесьлі з сабой сапраўды **зьдзіўляючыя дасягненьні.** Савецкі саюз працаваў з інтэсыўнасьцю ваеннага часу над творчай задачай пабудовы асноў новага жыцьця. **Твар краіны зьмяняецца літаральна да непазнаванасьці...** Гэта правільна адносна Масквы з яе сотнямі занава асфальтаваных вуліц і сквэраў, новых будынкаў, з новымі прыгарадамі і кардонамі новых фабрык на яе акраінах. Гэта правільна і ў адносінах менш значных гарадоў. Новыя гарады ўзьнікалі ў стэпах і ў пустынях, не якія-небудзь некалькі гарадоў, а па меншай меры 50 гарадоў з насельніцтвам ад 50 да 250 тысяч чалавек. Усе яны ўзьнікалі ў апошнія чатыры гады, кожны з іх зьяўляецца цэнтрам новага прадпрыемства або раду прадпрыемстваў, пабудаваных для распрацоўкі прыродных рэсурсаў.

Сотні новых раённых электрастанцый і цэлы рад гігантаў падобна Днепрабуду паступова ажыцьцяўляюць формулу Леніна: **«Соцыялізм ёсьць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя»...** Савецкі саюз арганізаваў масавы выбар бясконцага мноства прадметаў, якіх Расія ніколі раней не выраблёла: трактароў, комбайнаў, высокаякасных сталяй, сынтэтычнага каучука, шарыкападшыпнікаў, магутных дызэляў, турбін з 50000 кілёват, тэлефоннага абсталяваньня, электрычных машын для горнай прамысловасьці, самалётаў, аўтамабіляў, вэлёсыпэдаў і некалькіх соцень тыпаў новых машын...

Упяршыню ў гісторыі Расія здабывае алюміні, магнэзіт, апатыты, ёд, паташ і многія іншыя каштоўныя прадукты. Шляхаводнымі пунктамі савецкіх раўнін не зьяўляюцца больш крыжы і купалы цэркваў, а збожжавыя элеватары і сілосныя вежы. Колгасы будуюць дамы, хлявы, сьвінарнікі. Электрычнасьць пранікае ў вёску, радыё і газэты заваявалі яе. Рабочыя вучацца працаваць на навейшых машынах. Сялянскія хлапцы вырабляюць і абслугоўваюць сельскагаспадарчыя машыны, якія больш і складаней, чым тое, што бачыла калі-небудзь Амэрыка. **Расія пачынае «мысьліць машынамі».** Расія шпарка пераходзіць ад веку дрэва да веку жалеза, сталі, бэтону і мотораў».

Водгук «лева»-рэформісцкага журналу ў Англіі «Форвард», даны ў верасьні 1932 году:

«Кідаецца ў вочы вялізарная работа, якая адбываецца ў СССР. Новыя заводы, новыя школы, новыя кіно, новыя клюбы, новыя вялізарныя дамы—усюды новыя будоўлі.

Многія з іх ужо скончаны, другія яшчэ акружаны рыштаваньнямі. Цяжка расказаць ангельскаму чытачу, што зроблена за апошнія два гады і што робіцца далей. Трэба ўсё гэта бачыць для таго, каб гэтаму паверыць. Нашы ўласныя дасягненьні, ажыцьцёўленыя намі за час вайны,—толькі глупства ў параўнаньні з тым, што робіцца ў СССР. Амэрыканцы прызнаюць, што нават у пэрыод самай імклівай творчай гарачкі ў Заходніх штатах, там ня было нічога падобнага да цяперашняй ліхаманкавай творчай дзейнасьці ў СССР. За апошнія два гады ў СССР адбылося так шмат зьмен, што адмаўляешся нават уяўляць сабе, што-ж будзе ў гэтай краіне яшчэ праз дзесяць год... Выкіньце з галавы фантастычныя страшныя гісторыі, якія расказваюцца ангельскімі газэтамі, якія так упарта і так бязглузда хлусяць аб СССР. Выкіньце таксама з галавы ўсю тую палавінную праўду і ўражаньні, якія грунтуюцца на неразуменьні і якія пушчаны ў ход дылетанствуючымі інтэлігэнтамі, якія звысока глядзяць на СССР скрозь акуляры сярэдняй клясы, але якія ня маюць ні малейшага ўяўленьня аб тым, што адбываецца там... СССР будуе новае грамадзтва на здаровых асновах. Каб ажыцьцявіць гэту мэту, трэба рызыкаваць, трэба працаваць з энтузіязмам, з такой энэргіяй, якой сьвет да гэтага часу ня ведаў, трэба змагацца з вялізарнейшымі труднасьцямі, нямінучымі пры імкненьні пабудаваць соцыялізм у неабсяжнай краіне, ізаляванай ад астатняга сьвету.

Але, наведаўшы гэту краіну другі раз за два гады, я атрымаў уражаньне, што яна ідзе па шляху моцнага прогрэсу, плянуе, творыць і будуе ўсё гэта ў такім маштабе, які зьяўляецца яркім выклікам па адрасу варожага капіталістычнага сьвету».

Такавы разнагалосіца і раскол у лягеры буржуазных колаў, з якіх адны стаяць за зьнішчэньне СССР з яго нібы праваліўшымся пяцігадовым плянам, а другія, як відаць, за гандлёвае супрацоўніцтва з СССР, разьлічваючы, як відаць, на тое, што з посьпехаў пяцігадовага пляну можна будзе атрымаць для сябе некаторую выгаду.

Асобна стаіць пытаньне аб адносінах рабочай клясы капіталістычных краін да пытаньня аб пяцігодцы, да пытаньня аб посьпехах соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Можна было-б тут абмежавацца падачаю водгуку аднэй са шматлікіх рабочых дэлегацый, якія штогодна прыяжджаюць у СССР, хаця-б, напрыклад, бэльгійскай рабочай дэлегацыі. Водгук гэты тыповы для ўсіх бяз выключэньня рабочых дэлегацый, усёроўна, ці ідзе гутарка аб ангельскай ці францускай дэлегацыі, аб гер-

манскай ці амэрыканскай, або аб дэлегацыях іншых краін. Вось ён:

«Мы захоплены тым вялізарным будаўніцтвам, якое мы наглядалі ў часе нашага падарожжа. У Маскве, як і ў Макееўцы, Горлаўцы, Харкаве і Ленінградзе, мы маглі канстатаваць, з якім энтузіязмам там працуюць. Усе машыны навейшай конструкцыі. На заводах чыстата, шмат паветра і сьвятла. Мы бачылі, як у СССР рабочым аказваецца мэдыцынская і санітарная дапамога.

Рабочыя кватэры пабудаваны блізка ад заводаў. У рабочых гарадках арганізаваны школы і ясьлі, дзеці акружаны самымі пільнымі клопатамі. Мы малі бачыць розьніцу паміж старымі і нанова пабудаванымі заводамі, паміж старымі і новымі кватэрамі. Усё, што мы бачылі, дало нам яснае ўяўленьне аб вялізарнай сіле працоўных, якія будуюць новае грамадзтва пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Мы наглядалі ў СССР вялікі культурны ўздым, у той час, як у іншых краінах пануе заняпад ва ўсіх галінах, пануе беспрацоўе. Мы маглі бачыць, якія страшныя труднасьці савецкія працоўныя сустракаюць на сваім шляху. Мы тым у большай ступені разумеем гонар, з якім яны паказваюць нам свае перамогі. Мы пераконаны, што яны пераможуць усе перашкоды».

Вось вам міжнароднае значэньне пяцігодкі. Варта было нам прарабіць будаўнічую работу на працягу якіх-небудзь 2—3 год, варта было паказаць першыя посьпехі пяцігодкі, каб увесь сьвет раскалоўся на два лягеры—на лягер людзей, якія брэшуць на нас бяз стомы, і лягер людзей, якія зьдзіўлены посьпехам пяцігодкі, не гаворачы ўжо аб тым, што ёсьць і ўзмацняецца наш уласны лягер ва ўсім сьвеце—лягер рабочай клясы капіталістычных краін, які радуецца посьпехам рабочай клясы СССР і гатовы аказаць ёй падтрыманьне на страх буржуазіі ўсяго сьвету.

Што гэта значыць?

Гэта значыць, што міжнароднае значэньне пяцігодкі, міжнароднае значэньне яе посьпехаў і заваеваньняў не падлягае сумненьню.

Гэта значыць, што капіталістычныя краіны чрэваты пролетарскай рэволюцыі і іменна таму, што яны чрэваты пролетарскай рэволюцыяй, буржуазія хацела-б пачарпнуць у няўдачах пяцігодкі новы аргумант супроць рэволюцыі і, наадварот, пролетарыят стараецца пачарпнуць і сапраўды чэрпае ў посьпехах пяцігодкі новы аргумант за рэволюцыю супроць буржуазіі ўсяго сьвету.

Посьпехі пяцігодкі мобілізуюць рэволюцыйныя сілы рабочай клясы ўсіх краін супроць капіталізму,—такі бясспрэчны факт.

Ня можа быць сумненьня, што міжнароднае рэволюцыйнае значэньне пяцігодкі сапраўды невымяральна.

Тым з большай увагай павінны мы аднесьціся да пытаньня аб пяцігодцы, аб зьмесьце пяцігодкі, аб асноўных задачах пяцігодкі.

Тым з большай стараннасьцю мы павінны прааналізаваць вынікі пяцігодкі, вынікі выканаьньня і ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну.

## II. Асноўная задача пяцігадовага пляну і шлях яе ажыцьцяўленьня

Пяройдзем да пытаньня аб пяцігадовым пляне па сутнасьці.

Што такое пяцігадовы плян?

У чым заключалася асноўная задача пяцігадовага пляну?

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб перавесьці нашу краіну з яе адсталай, часамі сярэднявяковай тэхнікай на рэйкі новай, сучаснай тэхнікі.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб ператварыць СССР з краіны аграрнай і немачнай, залежнай ад капрызаў капіталістычных краін,—у краіну індустрыяльную і магутную, зусім самастойную і незалежную ад капрызаў сусьветнага капіталізму.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб, ператвараючы СССР у краіну індустрыяльную, выцесьніць да канца капіталістычныя элемэнты, расшырыць фронт соцыялістычных форм гаспадаркі і стварыць экономічную базу для зьнішчэньня клясаў у СССР, для пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб стварыць у нашай краіне такую індустрыю, якая была-б здольна перазброіць і рэорганізаваць ня толькі прамысловасьць у цэлым, але і транспорт, але і сельскую гаспадарку на базе соцыялізму.

Асноўная задача пяцігодкі заключался ў тым, каб перавесьці дробную і раздробненую сельскую гаспадарку на рэйкі буйнай колектыўнай гаспадаркі, забясьпечыць тым самым экономічную базу соцыялізму ў вёсцы і ліквідаваць такім чынам магчымасьць аднаўленьня капіталізму ў СССР.

Нарэшце, задача пяцігадовага пляну заключалася ў тым, каб стварыць у краіне ўсе неабходныя тэхнічныя і экономічныя прадпасылкі для максымальнага ўзьняцьця абароназдольнасьці краіны, якая дае магчымасьць організаваць рашучы адпор усім і ўсякім спробам ваеннай інтэрвэнцыі звонку, усім і ўсякім спробам ваеннага нападу звонку.

Чым дыктавалася гэта асноўная задача пяцігодкі, чым яна ўгрунтоўвалася?

Неабходнасьцю ліквідацыі тэхніка-эканомічнай адсталасьці Савецкага саюзу, якая асуджае яго на незавіднае існаваньне, неабходнасьцю стварыць у краіне такія прадпасылкі, якія далі-б ёй магчымасьць ня толькі дагнаць, але з часам і перагнаць у тэхніка-эканомічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

Меркаваньнем аб тым, што савецкая ўлада ня можа доўга трымацца на базе адсталай прамысловасьці, што толькі сучасная буйная прамысловасьць, якая ня толькі не ўступае, але можа з часам перавысіць прамысловасьць капіталістычных краін, можа служыць сапраўдным і надзейным фундамантам для савецкай улады.

Меркаваньнем аб тым, што савецкая ўлада ня можа доўга базавацца на дзьвюх процілеглых асновах—на буйнай соцыялістычнай прамысловасьці, якая **зьнішчае** капіталістычныя элементы, і на дробнай аднаасобнай сялянскай гаспадарцы, якая **параджае** капіталістычныя элемэнты.

Меркаваньнем аб тым, што пакуль не падведзена пад дробную сялянскую гаспадарку база буйнай вытворчасьці, пакуль не аб'яднаны дробныя сялянскія гаспадаркі ў буйныя колектыўныя гаспадаркі,—небясьпека аднаўленьня капіталізму ў СССР зьяўляецца самай рэальнай небясьпекай з усіх магчымых небясьпек.

Ленін гаварыў:

> «Рэволюцыя зрабіла тое, што за некалькі месяцаў Расія па сваім **політычным** ладзе дагнала перадавыя краіны. Але гэтага мала. Вайна няўмольна, яна ставіць пытаньне з бязьлітаснай рэзкасьцю: або загінуць, або дагнаць перадавыя краіны і перагнаць іх таксама і **эканомічна...** Або загінуць, або на ўсіх парах імкнуцца ўперад. Так пастаўлена пытаньне гісторыяй» (Л е н і н, 3-е выд., т. XXI, стар. 191).

Ленін гаварыў:

> «Пакуль мы жывем у дробнасялянскай краіне, для капіталізму ў Расіі ёсьць больш моцная эканомічная база, чым для комунізму. Гэта неабходна запамятаць. Кожны, хто ўважліва наглядаў за жыцьцём вёскі ў параўнаньні з жыцьцём гораду, ведае, што мы карэньняў капіталізму ня вырвалі і фундамант, аснову ва ўнутранога ворага не падарвалі. Апошні трымаецца на дробнай гаспадарцы і, каб падарваць яе, ёсьць адзін сродак — перавесьці гаспадарку краіны, у тым ліку і земляробства, на новую тэхнічную базу, на тэхнічную базу сучаснай буйнай вытворчасьці... Толькі тады, калі краіна будзе электрыфікавана, калі пад прамысловасьць, сельскую гаспадарку і транспорт будзе

> падведзена тэхнічная база сучаснай буйнай прамысловасьці, толькі тады мы пераможам канчаткова» (Ленін, 3-е выд., т. XXVI, стар. 46—47).

Гэтыя палажэньні і ляглі ў аснову тых меркаваньняў партыі, якія прынялі да выпрацоўкі пяцігадовага пляну, якія прывялі да вызначэньня асноўнай задачы пяцігадовага пляну.

Так стаіць справа з асноўнай задачай пяцігодкі.

Але ажыцьцяўленьне такога грандыёзнага пляну нельга пачынаць уроскід, з чаго папала. Каб ажыцьцявіць такі плян, трэба перш за ўсё знайсьці асноўнае зьвяно пляну, бо толькі знайшоўшы асноўнае зьвяно і ўхапіўшыся за яго, можна было выцягнуць усе астатнія зьвеньні пляну.

У чым заключалася асноўнае зьвяно пяцігадовага пляну?

Асноўнае зьвяно пяцігадовага пляну заключалася ў цяжкай прамысловасьці з яе сэрцавінай — машынабудаўніцтвам. Бо толькі цяжкая прамысловасьць здольна рэканструяваць і паставіць на ногі і прамысловасьць у цэлым, і транспорт, і сельскую гаспадарку. З яе і трэба было пачаць ажыцьцяўленьне пяцігодкі. Значыць, адбудаваньне цяжкай прамысловасьці трэба было пакласьці ў аснову ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну.

Мы маем указаньні Леніна і на гэты прадмет:

> «Выратаваньнем для Расіі зьяўляецца ня толькі добры ўраджай у сялянскай гаспадарцы,—гэтага яшчэ мала,— і ня толькі добры стан лёгкай прамысловасьці, што пастаўляе сялянству прадметы спажываньня,—гэтага таксама яшчэ мала,—нам неабходна таксама **цяжкая** індустрыя... Без выратаваньня цяжкай прамысловасьці, без яе адбудаваньня мы ня зможам пабудаваць ніякай прамысловасьці, а без яе мы наогул загінем, як самастойная краіна... Цяжкая індустрыя патрабуе дзяржаўных субсыдый. Калі мы іх ня знойдзем, то мы, як цывілізаваная дзяржава,—я ўжо не гавару, як соцыялістычная,—загінулі» (Ленін, 3-е выд., т. XXVII, стар. 349).

Але адбудаваньне і разьвіцьцё цяжкай індустрыі, асабліва ў такой адсталай і небагатай краіне, якой была наша краіна ў пачатку пяцігодкі, зьяўляецца самай цяжкай справай, бо цяжкая індустрыя патрабуе, як вядома, вялізарных фінансавых затрат і наяўнасьці пэўнага мінімуму вопытных тэхнічных сіл, без чаго, наогул кажучы, немагчыма адбудаваньне цяжкай індустрыі. Ці ведала аб гэтым партыя і ці ўяўляла сабе гэта? Так, ведала, і ня толькі ведала, але заяўляла аб гэтым галасна. Партыя ведала, якім шляхам была пабудавана цяжкая індустрыя ў Англіі, Германіі, Амэрыцы. Яна ведала, што цяжкая індустрыя была пабудавана ў гэтых краінах або пры дапамозе буйных пазык, або шляхам абрабленьня іншых краін, або і тым

і іншым шляхам адначасова. Партыя ведала, што гэтыя шляхі закрыты для нашай краіны. На што-ж яна разьлічвала? Яна разьлічвала на ўласныя сілы нашай краіны. Яна разьлічвала на тое, што, маючы савецкую ўладу і апіраючыся на нацыяналізацыю зямлі, прамысловасьці, транспорту, банкаў, гандлю, мы можам праводзіць найстражэйшы рэжым эканоміі для таго, каб накапляць дастатковыя сродкі, неабходным для адбудаваньня і разьвіцьця цяжкай індустрыі. Партыя проста гаварыла, што гэтая справа патрабуе сур'ёзных афяр і што мы павінны пайсьці на гэтыя афяры адкрыта і сьвядома, калі хочам дабіцца мэты. Партыя разьлічвала ўзьняць гэтую справу ўнутранымі сіламі нашай краіны без кабальных крэдытаў і пазык звонку.

Вось што гаварыў Ленін наконт гэтага:

«Мы павінны пастарацца пабудаваць дзяржаву, у якой рабочыя захавалі-б сваё кіраўніцтва над сялянамі, давер'е сялян у адносінах да сябе, і з найвялікшай эканоміяй выгналі-б са сваіх грамадзкіх адносін усялякія сьляды якіх-бы там ні было зьлішаства ў.

Мы павінны зьвесьці наш дзяржаўны апарат да максымальнай эканоміі. Мы павінны выгнаць з яго ўсе сьляды зьлішаства ў, якіх у ім засталося так многа ад царскай Расіі, ад яе бюрократычна-капіталістычнага апарату.

Ці ня будзе гэта царствам сялянскай абмежаванасьці?

Не. Калі мы захаваем за рабочай клясай кіраўніцтва над сялянствам, то мы атрымаем магчымасьць цаной найвялікшай і найвялікшай эканоміі гаспадаркі ў нашай дзяржаве дабіцца таго, каб усякае малейшае зьберажэньне захаваць для разьвіцьця нашай буйнай машыннай індустрыі, для разьвіцьця электрыфікацыі, гідраторфу, для пабудовы Волхаўбуду і інш.

У гэтым, і толькі ў гэтым, будзе наша надзея. Толькі тады мы будзем у стане перасесьці, кажучы фігуральна, з аднаго каня на другога. Іменна з каня сялянскага, мужыцкага, зьбяднелага, з каня эканомій, разьлічаных на зруйнаваную сялянскую краіну—на каня, якога шукае і ня можа ня шукаць для сябе пролетарыят, на каня буйнай машыннай індустрыі, электрыфікацыі, Волхаўбуду і т. д.» (Ленін, 3-е выд., т. XXVII, стар. 417).

Перасесьці са зьбяднелага мужыцкага каня на каня буйнай машыннай індустрыі,—вось якую мэту мела партыя, выпрацоўваючы пяцігадовы плян і дабіваючыся яго ажыцьцяўленьня.

Устанавіць самы строгі рэжым эканоміі і накапляць сродкі, патрэбныя для фінансаваньня індустрыялізацыі нашай краіны,—вось на які шлях, трэба было стаць, каб дабіцца адбудаваньня цяжкай індустрыі і ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну.

Сьмелая задача? Цяжкі шлях? Але наша партыя таму і завецца ленінскай партыяй, што яна ня мае права баяцца труднасьцяй.

Больш таго, упэўненасьць партыі ў ажыцьцёўнасьці пяцігодкі і вера ў сілы рабочай клясы былі да таго моцнымі, што партыя знайшла магчымым паставіць сабе задачу ажыцьцявіць гэтую цяжкую справу не за пяць год, як гэтага патрабаваў пяцігадовы плян, а за чатыры гады, уласна,—чатыры гады і тры месяцы, калі дадаць асобны квартал.

На гэтай аснове і нарадзіўся выдатны лёзунг: «Пяцігодка-- за чатыры гады».

І што-ж?

Факты потым паказалі, што партыя мела рацыю.

Факты паказалі, што бяз гэтай сьмеласьці і веры ў сілы рабочай клясы партыя не магла-б дабіцца той перамогі, якою ганарымся мы цяпер па праве.

## III. Вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне прамысловасьці

Пяройдзем цяпер да пытаньня аб выніках ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну.

Якавы вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне **прамысловасьці?**

Ці дабіліся мы перамогі ў гэтай галіне?

Так, дабіліся. І ня толькі дабіліся, а зрабілі больш, чым мы самі чакалі, чым маглі чакаць самыя гарачыя галовы ў нашай партыі. Гэтага не адмаўляюць цяпер нават ворагі. Тым больш ня могуць гэтага адмаўляць нашы прыяцелі.

У нас ня было чорнай мэталюргіі, асновы індустрыялізацыі краіны. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было трактарнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было аўтомобільнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было варштатабудаўніцтва. У нас яно ёсьць цяпер.

У нас ня было сур'ёзнай і сучаснай хімічнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было сапраўднай і сур'ёзнай прамысловасьці па вырабу сучасных сельскагаспадарчых машын. У нас яна ёсьць цяпер.

У нас ня было авіяцыйнай прамысловасьці. У нас яна ёсьць цяпер.

У сэнсе выпрацоўкі электрычнай энэргіі мы стаялі на самым апошнім месцы. Цяпер мы выйшлі на адно з першых месц.

У сэнсе дабываньня нафтавых продуктаў і вугалю мы стаялі на апошнім месцы. Цяпер мы выйшлі на адно з першых месц.

У нас была толькі адна адзіная вугольна-мэталюргічная база—на Украіне, з якою мы ледзь спраўляліся. Мы дабіліся таго, што ня толькі паднялі гэтую базу, але стварылі яшчэ новую вугальна-мэталюргічную базу—на Ўсходзе, якая зьяўляецца гонарам нашай краіны.

Мы мелі толькі адну адзіную базу тэкстыльнай прамысловасьці—на поўначы нашай краіны. Мы дабіліся таго, што будзем мець у бліжэйшы час дзьве новыя базы тэкстыльнай прамысловасьці—у Сярэдняй Азіі і Ўсходнім Сібіры.

І мы ня толькі стварылі гэтыя новыя вялізарныя галіны прамысловасьці, але мы іх стварылі ў такім маштабе і ў такіх разьмерах, перад якімі бляднеюць маштабы і разьмеры эўропейскай індустрыі.

А ўсё гэта прывяло да таго, што капіталістычныя элемэнты выцесьнены з прамысловасьці канчаткова і беспаваротна, а соцыялістычная прамысловасьць стала адзінай формай індустрыі ў СССР.

А ўсё гэта прывяло да таго, што краіна наша з аграрнай стала індустрыяльнай, бо ўдзельная вага прамысловай продукцыі ў адносінах сельскагаспадарчай узьнялася з 48 проц. у пачатку пяцігодкі (1928 г.) да 70 проц. пад канец чацьвертага году пяцігодкі (1932 г.).

А ўсё гэта прывяло да таго, што пад канец чацьвертага году пяцігодкі нам удалося выканаць програму агульнай прамысловай вытворчасьці, разьлічаную на пяць год, на 93,7 проц., узьняўшы аб'ём прамысловай продукцыі больш чым у тры разы параўнальна з даваенным узроўнем і больш чым у два разы параўнальна з узроўнем 1928 г. Што-ж датычыць програмы вытворчасьці па цяжкай прамысловасьці, то мы выканалі пяцігадовы плян на 108 проц. Праўда, мы тут недавыканалі агульную програму пяцігодкі на 6 проц. Але гэта тлумачыцца тым, што з прычыны адмаўленьня суседніх краін падпісаць з намі пакты аб ненападзе і ўскладненьняў на Далёкім Усходзе нам прышлося на сьпех пераключыць рад заводаў, у мэтах узмацненьня абароны, на выраб сучасных прылад абароны. Ну, а пераключэньне гэта, з прычыны неабходнасьці прайсьці некаторы падрыхтоўчы пэрыод, прывяло да таго, што заводы гэтыя спынілі выраб продукцыі на працягу чатырох месяцаў, што не магло не адбіцца на выкананьні агульнай програмы вытворчасьці па пяцігадоваму пляну на працягу 1932 году. Опэрацыя гэта прывяла да таго, што мы папоўнілі цалкам і поўнасьцю прабелы ў справе абароназдольнасьці краіны. Але яна не магла не адбіцца адмоўна на выкананьні програмы вытворчасьці па пяцігадоваму пляну. Ня можа быць ніякага сумненьня, што бяз гэтай прыўваходзячай акалічнасьці мы ня толькі выка-

налі-б, але напэўна перавыканалі-б лічбовую частку пяцігадовага пляну.

Нарэшце, усё гэта прывяло да таго, што з краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны Савецкі саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абароназдольнасьці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, у краіну здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя прылады абароны і забясьпечыць імі сваю армію ў выпадку нападу звонку.

Такавы ў агульным вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне прамысловасьці.

Цяпер мяркуйце самі: чаго варта пасьля ўсяго гэтага балбатня буржуазнай прэсы аб «правале» пяцігодкі ў галіне прамысловасьці.

А як стаіць справа з капіталістычнымі краінамі, якія перажываюць зараз жорсткі крызіс у сэнсе росту іх прамысловай продукцыі?

Вось усім вядомыя афіцыяльныя даныя.

У той час, як аб'ём прамысловай продукцыі СССР пад канец 1932 году вырас у параўнаньні з даваенным узроўнем да 334 проц. аб'ём прамысловай продукцыі ПАЗШ зьнізіўся за той-жа пэрыод да 84 проц. даваеннага ўзроўню, Англіі—да 75 проц., Германіі—да 62 проц.

У той час, як аб'ём прамысловай продукцыі СССР вырас пад канец 1932 году ў параўнаньні з узроўнем 1928 г. да 219 проц., аб'ём прамысловай продукцыі ПАЗШ зьнізіўся за той-жа пэрыод да 56 проц., Англіі—да 80 проц., Германіі—да 55 проц., Польшчы—да 54 проц.

Аб чым гавораць гэтыя даныя, як не аб тым, што капіталістычная сыстэма прамысловасьці ня вытрымала экзамену ў цяжбе з савецкай сыстэмай, што савецкая сыстэма прамысловасьці мае ўсе перавагі перад сыстэмай капіталістычнай.

Нам гавораць, што ўсё гэта добра, што пабудавана шмат новых заводаў, закладзены асновы індустрыялізацыі. Але было-б значна лепш адмовіцца ад політыкі індустрыялізацыі, ад політыкі пашырэньня вырабу сродкаў вытворчасьці, або, прынамсі, адкласьці гэту справу на задні плян з тым, каб вырабляць больш паркалю, абутку, вопраткі і іншых прадметаў шырокага ўжытку. Прадметаў шырокага ўжытку выпушчана менш, чым трэба, а гэта стварае пэўныя затрудненьні.

Але тады трэба ведаць і трэба ўявіць сабе, да чаго прывяла-б нас падобная політыка адсоўваньня на задні плян задач індустрыялізацыі. Зразумела, мы маглі-б з паўтара мільярдаў рублёў валюты, патрачаных за гэты пэрыод на абсталяваньне нашай цяжкай прамысловасьці, адкласьці палову на імпорт бавоўны, скуры, воўны, каучука і т. д. У нас тады было-б больш паркалю, абутку, вопраткі. Але ў нас ня было-б тады ні трактарнай, ні аўтомобільнай прамысловасьці, ня было-б колькі-небудзь сур'ёзнай чорнай мэталюргіі, ня было-б мэталю для вырабу ма-

шын,—і мы былі-б бяззбройнымі перад тварам узброенага новай тэхнікай капіталістычнага акружэньня. Мы пазбавілі-б тады сябе магчымасьці забясьпечваць сельскую гаспадарку трактарамі і сельгасмашынамі,—стала быць, мы сядзелі-б бяз хлеба. Мы пазбавілі-б сябе магчымасьці атрымаць перамогу над капіталістычнымі элемэнтамі ў краіне,—стала быць мы неймаверна павысілі-б шансы на рэстаўрацыю капіталізму. Мы ня мелі-б тады ўсіх сучасных сродкаў абароны, без якіх немагчыма дзяржаўная незалежнасьць краіны, без якіх краіна ператвараецца ў об'ект ваенных опэрацый замежных ворагаў. Наша становішча было-б тады больш ці менш анолёгічна становішчу цяперашняга Кітаю, які ня мае сваёй цяжкай прамысловасьці, ня мае сваёй ваеннай прамысловасьці і які клююць усе, каму толькі не лянота.

Адным словам, мы мелі-б у такім выпадку ваенную інтэрвэнцыю, не пакты аб ненападзе, а вайну, вайну небясьпечную і сьмяротную, вайну крывавую і няроўную, бо ў гэтай вайне мы былі-б амаль што бяззбройнымі перад ворагамі, якія маюць у сваім распараджэньні ўсе сучасныя сродкі нападу.

Вось як абарачваецца справа, таварышы!

Ясна, што паважаючая сябе дзяржаўная ўлада, паважаючая сябе партыя не магла стаць на такі пагібельны пункт гледжаньня. І іменна таму, што партыя адкінула такую антырэволюцыйную ўстаноўку,—іменна яна дабілася рашаючай перамогі ў справе выкананьня пяцігадовага пляну ў галіне прамысловасьці.

Ажыцьцяўляючы пяцігодку і організуючы перамогу ў галіне прамысловага будаўніцтва, партыя праводзіла політыку найбольш паскораных тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці. Партыя, як-бы падхлёставала краіну, паскараючы яе бег уперад.

Ці правільна рабіла партыя, праводзячы політыку найбольш паскораных тэмпаў?

Так, бязумоўна правільна.

Нельга не падганяць краіну, якая адстала на сто год і якой пагражае з-за адсталасьці сьмяротная небясьпека. Толькі такім чынам можна было даць краіне магчымасьць насьпех пераўзброіцца на базе новай тэхнікі і выйсьці, нарэшце, на шырокую дарогу.

Далей, мы не маглі ведаць, у які дзень нападуць на СССР імпэрыялісты і перапыняць наша будаўніцтва. А што яны маглі напасьці ў любы момант, карыстаючыся тэхніка-экономічнай слабасьцю нашай краіны, у гэтым не магло быць сумненьня. Таму партыя была прымушана падхлёстваць краіну, каб ня ўпусьціць часу скарыстаць да дна перадышку і пасьпець стварыць у СССР асновы індустрыялізацыі, якія прадстаўляюць базу яго магутнасьці. Партыя ня мела магчымасьці чакаць і манэўраваць, яна павінна была праводзіць політыку найбольш паскораных тэмпаў.

Нарэшце, партыя павінна была пакончыць у магчыма кароткі тэрмін са слабасьцю краіны ў галіне абароны. Умовы моманту,

Б4 1234

рост узбраеньняў у капіталістычных краінах, правал ідэі раззбраеньня, нянавісьць міжнароднай буржуазіі да СССР,—усё гэта штурхала партыю на тое, каб форсаваць справу ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, асновы яе незалежнасьці.

Але ці мела партыя рэальную магчымасьць ажыцьцяўляць політыку найбольш паскораных тэмпаў? Так, мела. Яна мела гэту магчымасьць ня толькі таму, што яна пасьпела сваячасова раскачаць краіну ў духу шпаркага прасоўваньня ўперад, але перш за ўсё таму, што яна магла абаперціся ў справе шырокага новага будаўніцтва на старыя або абноўленыя заводы і фабрыкі, якія былі ўжо асвоены рабочымі і інжынэрна-тэхнічным пэрсоналам і якія давалі, з прычыны гэтага, магчымасьць ажыцьцяўляць найбольш паскораныя тэмпы разьвіцьця.

Вось на якой аснове вырасьлі ў нас у пэрыод першай пяцігодкі шпаркі ўздым новага будаўніцтва, пафос разгорнутага будаўніцтва, героі і ўдарнікі новабудоўляў, практыка бурных тэмпаў разьвіцьця.

Ці можна сказаць, што ў другой пяцігодцы прыдзецца праводзіць такую-ж дакладна політыку найбольш паскораных тэмпаў?

Не, нельга гэтага сказаць.

П а-п е р ш а е, у рэзультаце пасьпяховага правядзеньня пяцігодкі мы **ўжо выканалі** ў асноўным яе галоўную задачу—падвядзеньне базы новай сучаснай тэхнікі пад прамысловасьць, транспорт, сельскую гаспадарку. Ці варта пасьля гэтага падхлістваць і падганяць краіну? Ясна, што няма ў гэтым цяпер неабходнасьці.

П а-д р у г о е, у рэзультаце пасьпяховага выкананьня пяцігодкі нам **удалося ўжо** .падняць абароназдольнасьць краіны на належную вышыню. Ці варта пасьля гэтага падхліствацъ і падганяць краіну? Ясна, што цяпер у гэтым няма патрэбы.

Нарэшце, у рэзультаце пасьпяховага выкананьня пяцігодкі нам удалося пабудаваць дзесяткі і сотні новых вялікіх заводаў і комбінатаў, якія маюць новую складаную тэхніку. Гэта азначае, што ў аб'ёме прамысловай продукцыі ў другой пяцігодцы асноўную ролю будуць адыгрываць ужо не старыя заводы, тэхніка якіх ужо асвоена, як гэта мела месца ў пэрыод першай пяцігодкі, а новыя заводы, тэхніка якіх яшчэ не асвоена і якую трэба асвоіць. Але асваеньне новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі прадстаўляе значна больш труднасьцяй, чым скарыстаньне старых або абноўленых заводаў і фабрык, тэхніка якіх ужо асвоена. Яно патрабуе больш часу для таго, каб падняць кваліфікацыю рабочых і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу і набыць новыя навыкі для поўнага скарыстаньня новай тэхнікі. Ці ня ясна пасьля ўсяго гэтага, што калі-б мы нават і хацелі, мы не маглі-б ажыцьцявіць у пэрыод другой пяцігодкі, асабліва ў першыя два-тры гады другой пяцігодкі, політыку **найбольш** паскораных тэмпаў разьвіцьця.

Бд 1234

Вось чаму я думаю, што для другой пяцігодкі нам прыдзецца ўзяць менш паскораныя тэмпы росту прамысловай продукцыі. У пэрыод першай пяцігодкі штогодны прырост прамысловай продукцыі складаў у сярэднім 22 проц. Я думаю, што для другой пяцігодкі прыдзецца ўзяць 13-14 проц. штогоднага прыросту прамысловай продукцыі ў сярэднім. Для капіталістычных краін такі тэмп прыросту прамысловай продукцыі зьяўляецца недасяжным ідэалам. І ня толькі такі тэмп прыросту прамысловай продукцыі,—нават 5 проц. штогоднага сярэднага прыросту складае для іх цяпер недасяжны ідэал. Але на тое яны і капіталістычныя краіны. Іншая справа—савецкая краіна з савецкай сыстэмай гаспадаркі. Пры нашай сыстэме гаспадаркі мы маем поўную магчымасьць і мы павінны ажыцьцявіць 13—14 проц. штогоднага прыросту продукцыі, **як мінімум.**

У пэрыод першай пяцігодкі мы здолелі організаваць энтузіязм, пафос **новага будаўніцтва** і дабіліся рашаючых посьпехаў. Гэта вельмі добра. Але цяпер гэтага недастаткова. Цяпер гэту справу мы павінны дапоўніць энтузіязмам, пафосам **асваеньня** новых заводаў і новай тэхнікі, сур'ёзным узьняцьцем продукцыйнасьці працы, сур'ёзным скарачэньнем сабекошту. **У гэтым цяпер галоўнае.** Бо толькі на гэтай базе мы можам дабіцца, скажам, да другой паловы другой пяцігодкі новага магутнага розьбегу як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне прыросту прамысловай продукцыі.

Нарэшце, некалькі слоў аб самых тэмпах і процантах штогоднага прыросту продукцыі. Нашы прамыслоўцы мала займаюцца гэтым пытаньнем. А між тым гэта вельмі цікавае пытаньне. Што такое проценты прыросту продукцыі і што, уласна, крыецца за кожным процантам прыросту? Возьмем, напрыклад, 1925 год, пэрыод адбудоўчы. Гадавы прырост продукцыі быў тады 66 проц. Валавая продукцыя прамысловасьці складала 7 700 млн. руб. 66 проц. прыросту складала тады ў абсолютных лічбах 3 млрд. з лішкам. Стала быць, кожны процант прыросту раўняўся тады 43 млн. руб. Возьмем цяпер 1928 год. Ён даў 26 проц. прыросту, г. зн. амаль у тры разы менш у процантных адносінах, чым 1925 год. Валавая продукцыя прамысловасьці складала тады 15 500 млн. руб. Увесь прырост на год складаў у абсолютных лічбаў 3 280 млн. руб. Стала быць, кожны процант прыросту раўняўся тады 120 млн. руб., г. зн. складаў амаль у тры разы большую суму, чым у 1925 годзе, калі мы мелі 66 проц. прыросту. Возьмем, нарэшце, 1931 год. Ён даў 22 проц. прыросту, г. зн. у тры разы менш, чым у 1925 г. Валавая продукцыя прамысловасьці складала тады 30 800 млн. руб. Увесь прырост даў у абсолютных лічбах 5 600 млн. з лішкам. Стала быць, кожны процант прыросту складаў звыш 250 млн. руб., г. зн. у шэсьць разоў больш, чым у 1925 годзе, калі мы мелі 66 проц. прыросту і ў два разы больш, чым у 1928 годзе, калі мы мелі 26 з лішкам процантаў прыросту.

Аб чым усё гэта сьведчыць? Аб тым, што пры вывучэньні тэмпаў прыросту продукцыі нельга абмяжоўвацца разглядам аднэй толькі агульнай сумы процантаў прыросту,—трэба яшчэ ведаць, што хаваецца за кожным процантам прыросту і якая агульная сума гадовага прыросту продукцыі. Мы бярэм, напрыклад, для 1933 году 16 проц. прыросту, г. зн. у чатыры разы менш, чым у 1925 годзе. Але гэта яшчэ ня значыць, што прырост продукцыі за гэты год будзе таксама ў чатыры разы менш. Прырост продукцыі ў 1925 годзе ў абсолютных лічбах склаў 3 млрд. з лішкам, а кожны процант раўняўся 43 млн. руб. Няма падстаў сумнявацца ў тым, што прырост продукцыі ў 1933 г. у абсолютных лічбах пры норме 16 проц. прыросту складзе ня менш 5 млрд. руб., г. зн. амаль у два разы больш, чым у 1925 годзе, кожны процант прыросту будзе раўняцца, прынамсі, 320—340 млн. руб., г. зн. будзе складаць, прынамсі, у 7 разоў большую суму, чым кожны процант прыросту ў 1925 г.

Вось як абарачваецца справа, таварышы, калі разглядаць пытаньне аб тэмпах і процантах прыросту конкрэтна.

Так стаіць справа з вынікамі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне прамысловасьці.

## IV. Вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі

Пяройдзем да пытаньня аб выніках пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі.

Пяцігодка ў галіне сельскай гаспадаркі ёсьць пяцігодка колектывізацыі. З чаго выходзіла партыя, праводзячы колектывізацыю? Партыя выходзіла з таго, што для ўмацаваньня дыктатуры пролетарыяту і пабудовы соцыялістычнага грамадзтва, апрача індустрыялізацыі, неабходзен яшчэ пераход ад дробнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі да буйнай колектыўнай сельскай гаспадаркі, забясьпечанай трактарамі і сучаснымі сельскагаспадарчымі машынамі, як адзіна моцнай асновы савецкай улады на вёсцы.

Партыя выходзіла з таго, што без колектывізацыі немагчыма вывесьці нашу краіну на шырокую дарогу пабудовы эканомічнага фундаманту соцыялізму, немагчыма выбавіць шматмільённае працоўнае сялянства ад галечы і невуцтва.

Ленін гаварыў, што:

> «Дробным гаспадаркам з галечы ня выйсьці» (Ленін, 3-е выд, т. XXIV, стар. 540).

Ленін гаварыў, што:

> «Калі мы будзем сядзець па-старому на дробных гаспадарках, хоць і вольнымі грамадзянамі на вольнай зямлі,

нам усёроўна паграджае няміnучая загібель» (Ленін, 3-е выд., т. XX, стар. 417).

Ленін гаварыў, што:

«Толькі пры дапамозе агульнай, арцельнай, таварыскай працы можна выйсьці з таго тупіку, у які загнала нас імпэрыялісцкая вайна» (Ленін, 3-е выд., т. XXIV, стар. 537).

Ленін гаварыў, што:

«Неабходна перайсьці да агульнай апрацоўкі ў буйных узорных гаспадарках; бяз гэтага выйсьці з тэй разрухі, а таго проста такі роспачлівага становішча, у якім знаходзіцца Расія, нельга» (Ленін, 3-е выд., т. XX, стар. 418).

Выходзячы з гэтага Ленін прышоў да наступнага асноўнага вываду:

«Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагі грамадзкай, колектыўнай, таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскай арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочая кляса, якая трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды, дакажа селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і сапраўдным чынам шматмільённую сялянскую масу» (Ленін, 3-е выд., т. XXIV, стар. 579—580).

З гэтых палажэньняў Леніна выходзіла партыя, праводзячы програму колектывізацыі сельскай гаспадаркі, програму пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі.

У сувязі з гэтым задача пяцігодкі па сельскай гаспадарцы заключалася ў тым, каб аб'яднаць разрозьненыя і дробныя індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, пазбаўленыя магчымасьці скарыстаць трактары і сучасныя сельскагаспадарчыя машыны,—у буйныя колектыўныя гаспадаркі, узброеныя ўсімі сучаснымі прыладамі высока разьвітай сельскай гаспадаркі, а свабодныя землі пакрыць узорнымі дзяржаўнымі гаспадаркамі—саўгасамі.

Задача пяцігодкі па сельскай гаспадарцы заключалася ў тым, каб ператварыць СССР з краіны дробнасялянскай і адсталай у краіну буйнай сельскай гаспадаркі, якая організавана на базе колектыўнай працы і дае найбольшую таварнасьць.

Чаго дабілася партыя, праводзячы програму пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі? Выканала яна гэту програму ці пацярпела крах?

Партыя дабілася таго, што на працягу якіх-небудзь трох год яна здолела організаваць больш 200 000 колектыўных гаспадарак і каля 5 000 саўгасаў збожжавага і жывёлагадоўчага напрамку,

дабіўшыся адначасова пашырэньня пасеўных плошчаў за чатыры гады на 21 млн. гектараў.

Партыя дабілася таго, што колгасы яднаюць цяпер звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак з ахопам звыш 70 проц. усіх сялянскіх плошчаў, што азначае **перавыкананьне** пяцігодкі ў тры разы.

Партыя дабілася, таго, што замест 500—600 млн. пудоў таварнага збожжа, якое загатаўлялася ў пэрыод пераважаньня індывідуальнай сялянскай гаспадаркі, яна мае цяпер магчымасьць загатаўляць 1 200—1 400 млн. пудоў збожжа штогод.

Партыя дабілася таго, што кулацтва як кляса разгромлена, хоць і недабіта яшчэ, працоўнае сялянства вызвалена ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі і пад савецкую ўладу падведзена моцная экономічная база ў вёсцы, база колектыўнай гаспадаркі.

Партыя дабілася таго, што СССР ператвораны ўжо з краіны дробнай сялянскай гаспадаркі ў краіну самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце.

Такія ў агульным вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі.

Мяркуйце цяпер самі: чаго варта пасьля ўсяго гэтага балбатня буржуазнай прэсы аб «краху» колектывізацыі, аб «правале» пяцігодкі ў галіне сельскай гаспадаркі.

А як стаіць справа з сельскай гаспадаркай у **капіталістычных** краінах, якія перажываюць зараз жорсткі сельскагаспадарчы крызіс?

Вось усім вядомыя офіцыяльныя даныя.

Скарочаны пасеўныя плошчы ў асноўных збожжавытвараючых краінах на 8—10 проц., скарочаны пасеўныя плошчы па бавоўне ў ПАЗШ на 15 проц., па цукровых бураках у Германіі і Чэха-Славакіі—на 22—30 проц., па ільну ў Літве і Латвіі—на 25—30 проц.

Паводле даных амэрыканскага сельскагаспадарчага дэпартаманту кошт валавой продукцыі сельскай гаспадаркі ў ПАЗШ зьнізіўся з 11 млрд. даляраў у 1929 годзе да 5 млрд. у 1932 годзе, г. зн. больш чым на 50 проц. Па збожжы там-жа кошт валавой продукцыі зьнізіўся з 1 288 млн. даляраў у 1929 годзе да 391 млн. даляраў у 1932 годзе, г. зн. больш чым на 68 проц. Па бавоўне там-жа зьніжэньне з 1 389 млн. даляраў у 1929 годзе да 397 млн. даляраў у 1932 годзе, г. зн. зьніжэньне больш чым на 70 проц.

Ці-ж не гавораць усе гэтыя факты аб перавагах савецкай сыстэмы сельскай гаспадаркі перад сыстэмай капіталістычнай? Ці-ж не гавораць гэтыя факты аб тым, што колгасы зьяўляюцца больш жыцьцяздольнай формай гаспадаркі, чым аднаасобныя і капіталістычныя гаспадаркі.

Гавораць, што колгасы і саўгасы ня зусім рэнтабэльны, што яны паглынаюць безьліч сродкаў, што трымаць такія прадпрыемствы няма ніякага рэзону, што больш мэтазгодна было-б распусьціць іх, пакінуўшы толькі рэнтабэльныя з іх. Але так могуць гаварыць толькі людзі, якія нічога не разумеюць у пытаньнях на-

роднай гаспадаркі, у пытаньнях эканомікі. Больш паловы тэкстыльных прадпрыемстваў некалькі год таму назад былі нерэнтабэльнымі. Адна частка нашых таварышоў прапаноўвала нам тады закрыць гэтыя прадпрыемствы. Што было-б з намі, калі-б мы паслухалі іх? Мы зрабілі-б найвялікшае злачынства перад краінай, перад рабочай клясай, бо мы разбурылі-б гэтым нашу ўзрастаючую прамысловасьць. Як-жа мы паступілі тады? Мы пачакалі год з лішкам і дабіліся таго, што ўся тэкстыльная прамысловасьць стала рэнтабэльнай. А наш аўтозавод у г. Горкім? Таксама-ж нерэнтабэльны пакуль што. Ці не загадаеце закрыць яго? Або наша чорная мэталюргія, якая таксама пакуль што нерэнтабэльная? Ці не закрыць яе, таварышы? Калі так глядзець на рэнтабэльнасьць, дык мы павінны былі-б разьвіваць ва ўсю толькі некаторыя галіны прамысловасьці, якія даюць найбольшую рэнту, напрыклад—кандытэрскую прамысловасьць, мукамольную прамысловасьць, парфумэрную, трыкатажную, прамысловасьць дзіцячых цацак і т. д. Я, зразумела, ня супроць разьвіцьця гэтых галін прамысловасьці. Наадварот, яны павінны быць разьвіты, бо яны таксама патрэбны для насельніцтва. Але, папершае, яны ня могуць быць разьвіты без абсталяваньня і апалу, якія дае ім цяжкая індустрыя. Па-другое, на іх немагчыма базаваць індустрыялізацыю. Вось у чым справа, таварышы.

На рэнтабэльнасьць нельга глядзець па-гандлярску, з пункту погляду данай мінуты. Рэнтабэльнасьць трэба браць з пункту гледжаньня агульна-народнай гаспадаркі ў разрэзе некалькіх год. Толькі такі пункт гледжаньня можа быць назван сапраўды ленінскім, сапраўды марксысцкім. І гэты пункт гледжаньня абавязковы ня толькі ў адносінах да прамысловасьці, але яшчэ ў большай ступені ў адносінах да колгасаў і саўгасаў. Вы толькі падумайце: за якія-небудзь тры гады мы стварылі больш 200 000 колгасаў і каля 5 000 саўгасаў, г. зн. мы стварылі зусім новыя буйныя прадпрыемствы, якія маюць такое значэньне для сельскай гаспадаркі, як заводы і фабрыкі для прамысловасьці. Назавеце краіну, якая здолела-б стварыць на працягу трох год ня 205 тыс. новых буйных прадпрыемстваў, а хоць-бы 25 000 такіх прадпрыемстваў. Вы не назавеце, бо няма і ня бывала такой краіны. А мы стварылі 205 тыс. новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы. І вось ёсьць, аказваецца, на сьвеце людзі, якія патрабуюць, каб гэтыя прадпрыемствы сталі адразу рэнтабэльнымі, а калі яны ня стануць адразу рэнтабэльнымі, то зруйнаваць і распусьціць іх. Ці ня ясна, што лаўры Герастрата не даюць спаць гэтым больш чым дзіўным людзям?

Гаворачы аб нерэнтабэльнасьці колгасаў і саўгасаў, я зусім не хачу сказаць, што яны ўсе нерэнтабэльныя. Нічога падобнага. Усім вядома, што ўжо цяпер ёсьць цэлы рад высока-рэнтабэльных колгасаў і саўгасаў. У нас ёсьць тысячы колгасаў і дзесяткі саўгасаў зусім рэнтабэльных ужо цяпер. Гэтыя колгасы і саўгасы зьяўляюцца гонарам нашай партыі, гонарам савецкай улады.

Колгасы і саўгасы, зразумела, ня ўсюды аднолькавыя. Сярод колгасаў і саўгасаў ёсьць старыя, новыя і зусім маладыя. Гэта яшчэ слабыя, ня зусім адлітыя гаспадарчыя організмы. Яны перажываюць у сваім організацыйным будаўніцтве прыблізна той-жа пэрыод, які перажывалі нашы заводы і фабрыкі ў 1920—21 гг. Зразумела, што яны ня могуць быць яшчэ рэнтабэльнымі ў сваёй большасьці. Але што яны стануць рэнтабэльнымі на працягу 2—3 год таксама, як сталі рэнтабэльнымі нашы фабрыкі і заводы пасьля 1921 г., у гэтым ня можа быць ніякага сумненьня. Адмовіць ім у дапамозе і падтрыманьні на той падставе, што ня ўсе яны рэнтабэльныя ў дадзеную мінуту,—значыць зрабіць найвялікшае злачынства перад рабочай клясай і сялянствам. Толькі ворагі народу і контррэволюцыянэры могуць ставіць пытаньне аб непатрэбнасьці колгасаў і саўгасаў.

Ажыцьцяўляючы пяцігодку па сельскай гаспадарцы, партыя праводзіла колектывізацыю паскоранымі тэмпамі. Ці правільна зрабіла партыя, праводзячы політыку паскораных тэмпаў колектывізацыі? Так, бязумоўна, правільна, хоць і не абышлася тут справа без некаторых захапленьняў. Праводзячы політыку ліквідацыі кулацтва як клясы і выкарчоўваючы кулацкія гнёзды, партыя не магла спыніцца на паўдарозе,—яна павінна была давесьці да канца гэтую справу. Гэта—па-першае. Па-другое, маючы ў сваім распараджэньні трактары, сельгасмашыны, з аднаго боку, і карыстаючыся адсутнасьцю прыватнай уласнасьці на зямлю (нацыяналізацыя зямлі!), з другога боку, партыя мела ўсе магчымасьці фарсаваць колектывізацыю сельскай гаспадаркі. І яна сапраўды дабілася ў гэтай галіне найвялікшага посьпеху, бо перавыканала програму пяцігодкі па колектывізацыі ў тры разы.

Ці значыць гэта, што мы павінны праводзіць політыку фарсаваных тэмпаў колектывізацыі і ў пэрыод другой пяцігодкі? Не, ня значыць. Справа ў тым, што мы ўжо **закончылі ў асноўным** колектывізацыю асноўных раёнаў СССР. Стала быць зрабілі больш у гэтай галіне, чым можна было чакаць. І ня толькі скончылі ў асноўным колектывізацыю. Мы дабіліся таго, што ва ўсьведамленьні вялізарнай большасьці сялянства колгасы сталі найбольш ужытнай формай гаспадаркі. Гэта—вялізарнае заваяваньне, таварышы. Цяпер пытаньне стаіць ужо не аб тым, быць ці ня быць колгасам,—гэта пытаньне ўжо вырашана станоўча. Колгасы замацаваны і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць колгасы **організацыйна,** вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць сапраўдныя правераныя бальшавіцкія кадры для колгасаў і зрабіць колгасы сапраўды бальшавіцкімі.

У гэтым цяпер галоўнае.

Так стаіць справа з пяцігодкай за чатыры гады ў галіне сельскай гаспадаркі.

## V. Вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне паляпшэньня матэрыяльнага становішча рабочых і сялян

Я гаварыў вышэй аб посьпехах у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, аб уздыме прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў СССР. Якія рэзультаты атрымаліся ад гэтых посьпехаў з пункту гледжаньня паляпшэньня матэрыяльнага становішча рабочых і сялян? У чым заключаюцца асноўныя рэзультаты нашых посьпехаў у галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі з пункту гледжаньня карэннага паляпшэньня матэрыяльнага становішча працоўных?

Яны заключаюцца, па-першае, **у зьнішчэньні беспрацоўя** і ліквідацыі няўпэўненасьці ў заўтрашнім дні сярод рабочых.

Яны заключаюцца, па-другое, у абхваце колгасным будаўніцтвам амаль усёй сялянскай беднаты, у падрыве на гэтай аснове рассластаваньня сялянства на кулакоў і беднякоў і **ў зьнішчэньні ў сувязі з гэтым зьбядненьня і паўпэрызму ў вёсцы.**

Гэта—вялізарнае заваяваньне, таварышы, аб якім ня можа марыць ні адна буржуазная дзяржава, хоць гэта будзе самая «дэмократычная» дзяржава.

У нас, у СССР, рабочыя даўно ўжо забылі аб беспрацоўі. Гадоў тры таму назад мы мелі каля паўтара мільёнаў беспрацоўных. Вось ужо два гады, як зьнішчылі мы беспрацоўе. І рабочыя пасьпелі ўжо забыць за гэты час аб беспрацоўі, аб яго гнёце, аб яго жудасьцях. Паглядзеце на капіталістычныя краіны, якія жудасьці творацца там на глебе беспрацоўя. У гэтых краінах ёсьць цяпер ня менш 30—40 мільёнаў беспрацоўных. Што гэта за людзі? Аб іх звычайна гавораць, што гэта—«кончаныя людзі». Яны кожны дзень дамагаюцца работы, шукаюць работы, гатовы прыняць амаль любыя ўмовы работы, але іх ня прымаюць на работу, бо яны «лішнія» людзі. І гэта ў той час, калі вялізарныя масы тавараў і продуктаў кідаюцца на вецер дзеля капрызаў пястуноў лёсу, сынкоў капіталістаў і памешчыкаў. Беспрацоўным адмаўляюць у харчох, таму што ім няма чым плаціць за продукты, ім адмаўляюць у кватэрах, таму што ім няма чым плаціць за яе. Чым і дзе яны жывуць? Яны жывуць жабрачымі падачкамі з панскага стала, раскопваньнем сьметнікаў, дзе яны знаходзяць гнілыя рэшткі ежы, жывуць у трушчобах вялікіх гарадоў, а больш за ўсё ў хібарках за горадам, насьпех пабудаваных беспрацоўнымі з дошак ад скрынь і драўлянай кары. Але гэта ня ўсё. Ад беспрацоўя церпяць ня толькі беспрацоўныя. Ад яго церпяць таксама і рабочыя, якія яшчэ маюць работу. Церпяць, бо вялікая колькасьць беспрацоўных стварае для іх няўстойлівае становішча на вытворчасьці, няўпэўненасьць у заўтрашнім дні. Сёньня яны працуюць на прадпрыемстве, але яны няўпэўнены, што, прачнуўшыся заўтра, не даведаюцца, што яны ўжо разьлічаны.

Адно з асноўных заваяваньняў пяцігодкі за чатыры гады за-

ключаецца ў тым, што мы зьнішчылі беспрацоўе і пазбавілі рабочых СССР ад яго жудасьцяй.

Тое-ж самае трэба сказаць пра сялян. Яны таксама забылі аб распластаваньні сялян на кулакоў і беднякоў, аб эксплёатацыі бедноты з боку кулакоў, аб руйнаваньні, якое кожны год пускала па сьвеце сотні тысяч і мільёны бедноты. Гадоў 3—4 таму назад у нас мелася беднякоў сярод сялян ня менш 30 проц. усяго сялянскага насельніцтва. Гэта складала больш дзесятку мільёнаў людзей. А яшчэ раней, да Кастрычніцкай рэволюцыі, беднякі складалі ня менш 60 проц. сялянскага насельніцтва. Што такое беднякі? Гэта такія людзі, у якіх звычайна не хапала для гаспадаркі або насеньня, або каня, або прылад, або не хапала ўсіх гэтых рэчаў разам узятых. Беднякі—гэта такія людзі, якія жылі ўпрогаладзь і, як правіла, знаходзіліся ў кабале ў кулакоў, а ў старыя часы і ў кулакоў, і ў памешчыкаў. Яшчэ зусім нядаўна каля паўтара мільёну, а то і цэлых два мільёны беднякоў накіроўвалася штогод на заработкі на Поўдзень—на Паўночны Каўказ і Украіну ў найміты да кулакоў, а яшчэ раней—да кулакоў і памешчыкаў. Яшчэ больш прыходзіла іх штогод да заводзкіх брам, запаўняючы рады беспрацоўных. І ня толькі беднякі знаходзіліся ў такім незавідным становішчы. Добрая палова серадпякоў знаходзілася ў той-жа галечы і няхватках, як і беднякі. Пра ўсё гэта пасьпелі ўжо забыць сяляне.

Што дала пяцігодка за чатыры гады беднякам і ніжэйшым пластом серадпякоў? Яна падарвала і разьбіла кулацтва як клясу, вызваліўшы беднякоў і добрую палову серадпякоў ад кулацкай кабалы. Яна ўцягнула іх у колгасы і стварыла для іх моцнае становішча. Яна зьнішчыла тым самым магчымасьць распластаваньня сялянства на эксплёататараў кулакоў і эксплёатуемых беднякоў. Яна ўзьняла бедноту і ніжэйшыя пласты серадпякоў у колгасах на становішча людзей забясьпечаных, зьнішчыўшы тым самым процэс руйнаваньня і зьбядненьня сялянства. Цяпер ужо няма ў нас такіх выпадкаў, каб мільёны сялян зрываліся штогод з сваіх месц і ішлі на заработкі ў далёкія краі. Да таго, каб выцягнуць селяніна на работу куды-небудзь за яго ўласны колгас, цяпер трэба падпісаць дагавор з колгасам, ды яшчэ забясьпечыць колгасьніку дармовы праезд па чыгунцы. Цяпер ужо няма ў нас такіх выпадкаў, каб сотні тысяч і мільёны сялян руйнаваліся і абівалі парогі фабрык і заводаў. Гэта справа была, але яна ўжо даўно сплыла. Цяпер селянін—забясьпечаны гаспадар, член колгасу, які мае ў сваім распараджэньні трактары, сельгасмашыны, насенныя фонды, запасныя фонды і т. д. і да т. п.

У рэзультаце гэтых асноўных заваяваньняў у галіне паляпшэньня матэрыяльнага становішча рабочых і сялян, мы маем за першую пяцігодку:

а) рост колькасьці рабочых і служачых буйнай прамысловасьці **ў два разы ў параўнаньні з 1928 годам, што дае перавыкананьне пяцігадовага пляну на 57 проц.;**

ГИЗ Сух-Ла

б) рост народнага даходу—стала быць, рост даходаў рабочых і сялян,—які дасягнуў у 1932 годзе 45,1 млрд. руб., што дае павялічэньне на 85 проц. у параўнаньні з 1928 годам;

в) рост сярэднягадавой заработнай платы рабочых і служачых буйнай прамысловасьці на 67 проц. у параўнаньні з 1928 годам, што дае перавыкананьне пяцігодкі на 18 проц.;

г) рост фонду соцыяльнага страхаваньня на 292 проц. у параўнаньні з 1928 годам (4 120 млн. руб. у 1932 годзе, супроць 1 050 млн. руб. у 1928 годзе), што дае перавыкананьне пяцігадовага пляну на 111 проц.;

д) рост грамадзкага харчаваньня з ахопам звыш 70 проц. рабочых рашаючых галін прамысловасьці, што дае перавыкананьне пяцігодкі ў шэсьць разоў.

Зразумела, мы яшчэ не дабіліся таго, каб поўнасьцю забясьпечыць матэрыяльныя запатрабаваньні рабочых і сялян. І наўрад ці мы даб'ёмся гэтага ў бліжэйшыя гады. Але мы бязумоўна дабіліся таго, што матэрыяльнае становішча рабочых і сялян паляпшаецца ў нас з году ў год. У гэтым могуць сумнявацца хіба толькі заклятыя ворагі савецкай улады, або быць можа некаторыя прадстаўнікі буржуазнага друку, у тым ліку і адна частка карэспондэнтаў гэтага друку ў Маскве, якія разумеюць у экономіцы народаў і ў становішчы працоўных наўрад ці больш, чым, скажам, абісінскі кароль у вышэйшай матэматыцы.

А як стаіць справа са становішчам рабочых і сялян у капіталістычных краінах?

Вось офіцыяльныя даныя.

Катастрафічна ўзрасла колькасьць беспрацоўных у капіталістычных краінах. У ПАЗШ, паводле офіцыяльных даных, па адной толькі апрацоўчай прамысловасьці колькасьць занятых рабочых зьменшылася з 8,5 мільёнаў чалавек у 1928 годзе да 5,5 млн. у 1932 годзе. Паводле-ж даных амэрыканскай фэдэрацыі працы, колькасьць беспрацоўных у ПАЗШ ва ўсёй прамысловасьці даходзіць у канцы 1932 году да 11 млн. чал. У Англіі колькасьць беспрацоўных, паводле даных офіцыяльнай статыстыкі, ўзрасла з 1 290 тыс. у 1928 годзе да 2,8 млн. чал. у 1932 годзе. У Германіі, паводле офіцыяльных даных, колькасьць беспрацоўных ўзрасла з 1 376 тыс. у 1928 г. да 5,5 млн. у 1932 годзе. Такі-ж малюнак назіраецца ва ўсіх капіталістычных краінах, прычым офіцыяльная статыстыка, як правіла, пераўмяншае даныя аб беспрацоўных, колькасьць якіх хістаецца ў капіталістычных краінах ад 35 да 40 млн. чал.

Сыстэматычна праводзіцца зьніжэньне заработнай платы рабочых. Паводле офіцыяльных даных, зьніжэньне сярэднямесячнай зарплаты ПАЗШ дасягнула 35 проц. у параўнаньні з узроўнем 1928 году. У Англіі за той-жа тэрмін—15 проц., а ў Германіі—нават 50 проц. Паводле падлікаў амэрыканскай фэдэрацыі

працы страты амэрыканскіх рабочых у рэзультаце зьніжэньня зарплаты ў 1930—31 г. склалі больш 35 млрд. даляраў.

Значна скарочаны і без таго нязначныя фонды страхаваньня рабочых у Англіі і Германіі. У ПАЗШ і ва Францыі зусім адсутнічаюць або амаль адсутнічаюць якія-б там ні было формы страхаваньня беспрацоўных, з прычыны чаго надзвычай расьце лік бяздомных рабочых і бяспрытульных дзяцей, асабліва ў ПАЗШ.

Ня лепш стаіць справа са становішчам сялянскіх мас у капіталістычных краін, дзе сельскагаспадарчы крызіс у корані падрывае сялянскую гаспадарку і пускае мільёны зруйнаваных сялян і фэрмараў па сьвеце.

Такавы вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне паляпшэньня матэрыяльнага становішча працоўных СССР.

## VI. Вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне тавараабароту паміж горадам і вёскай

Пяройдзем цяпер да пытаньня аб выніках пяцігодкі за чатыры гады ў галіне росту тавараабароту паміж горадам і вёскай.

Вялізарны рост продукцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, рост таварных лішкаў як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы, нарэшце, рост патрэбнасьцяй рабочых і сялян,— усё гэта не магло ня прывесьці і сапраўды прывяло да ажыўленьня і пашырэньня тавараабароту паміж горадам і вёскай.

Вытворчая змычка паміж горадам і вёскай ёсьць асноўная форма змычкі. Але аднэй толькі вытворчай змычкі недастаткова. Яе трэба дапоўніць змычкай тварнай для таго, каб сувязь паміж горадам і вёскай стала моцнай і непарыўнай. Гэтага можна дабіцца толькі праз разгортваньне колгаснага гандлю. Было-б няправільна думаць, што савецкі гандаль можна разгарнуць праз які-небудзь адзін канал, напрыклад, праз коопэрацыю. Для разгортваньня савецкага гандлю неабходна выкарыстаць усе каналы—і коопэрацыйную сетку, і дзяржаўна-гандлёвую сетку, і колгасны гандаль.

Некаторыя таварышы думаюць, што разгортваньне савецкага гандлю, асабліва-ж разгортваньне колгаснага гандлю, ёсьць зварот да першай стадыі нэпу. Гэта зусім няправільна.

Паміж савецкім гандлем, у тым ліку колгасным гандлем, і гандлем першай стадыі нэпу існуе карэнная розьніца. На першай стадыі нэпу мы дапускалі ажыўленьне капіталізму, дапускалі прыватны тавараабарот, дапускалі «дзейнасьць» прыватных гандляроў, капіталістаў, спэкулянтаў. Гэта быў больш ці менш свабодны гандаль, абмежаваны толькі рэгулюючай роляй дзяржавы. Тады прыватна-капіталістычны сэктар у тавараабароце краіны займаў досыць вялікае месца. Я ўжо не гавару аб тым, што тады

ня было ў нас ні такой разьвітай прамысловасьці, як цяпер, ні колгасаў, ні саўгасаў, працуючых па пляну і даючых у распараджэньне дзяржавы вялізарныя рэзэрвы сельгаспродуктаў і гарадзкіх вырабаў.

Ці можна сказаць, што мы зараз маем такое-ж становішча? Зразумела, нельга гэтага сказаць.

Па-першае, савецкі гандаль нельга ставіць на адну дошку з гандлем на першай стадыі нэпу, які хаця-б і рэгуляваўся дзяржавай. Калі гандаль на першай стадыі нэпу дапускаў ажыўленьне капіталізму і функцыянаваньне прыватна-капіталістычнага сэктару ў тавараабароце, то савецкі гандаль выходзіць з адмаўленьня як таго, так і другога. Што такое савецкі гандаль? Савецкі гандаль ёсьць гандаль без капіталістаў—малых і вялікіх, гандаль без спэкулянтаў—малых і вялікіх. Гэта асобнага роду гандаль, якога ня ведала да гэтага часу гісторыя і які практыкуем толькі мы, бальшавікі, ва ўмовах савецкага разьвіцьця.

Па-другое, мы маем цяпер досыць разьвітую дзяржаўную прамысловасьць і цэлую сыстэму колгасаў і саўгасаў, якія забясьпечваюць дзяржаве вялізарныя рэзэрвы сельскагаспадарчых і прамысловых тавараў для развароту савецкага гандлю. Гэтага ня было і не магло быць ва ўмовах першай стадыі нэпу.

Па-трэцяе, мы дабіліся таго, што за апошні пэрыод вышыблі зусім з тавараабароту прыватных гандляроў, купцоў, пасярэднікаў усякага роду. Зразумела гэта не выключае таго, што могуць зноў зьявіцца ў тавараабароце па закону атавізму прыватныя гандляры і спэкулянты, скарыстоўваючы для гэтага найбольш зручнае для іх поле, а іменна колгасны гандаль. Больш таго, самі колгасьнікі іншы раз не ад таго, каб пусьціцца ў спэкуляцыю, што не зьяўляецца для іх, зразумела, гонарам. Але супроць гэтых нездаровых зьявішч у нас ёсьць нядаўна выданы закон савецкай улады аб мерах перасячэньня спэкуляцыі і пакараньня спэкулянтаў. Вы ведаеце, зразумела, што закон гэты не асабліва мяккі. Вы зразумееце, вядома, што такога закону ня было і не магло быць ва ўмовах першай стадыі нэпу.

Вы бачыце, што гаварыць пасьля ўсяго гэтага аб звароце да гандлю першай стадыі нэпу—значыць нічога, зусім нічога не разумець у нашай савецкай экономіцы.

Нам гавораць, што немагчыма разгарнуць гандаль, калі нават ён зьяўляецца савецкім гандлем, без здаровай грашовай гаспадаркі і здаровай валюты, што трэба перш за ўсё лячыць грашовую гаспадарку і нашу савецкую валюту якая нібы не прадстаўляе ніякай каштоўнасьці. Так гавораць нам экономісты капіталістычных краін Я думаю, што гэтыя паважаныя экономісты разумеюць у політычнай экономіі ня больш, чым, скажам, кентэрбэрыйскі архібіскуп у антырэлігійнай прапагандзе. Як можна сьцьвярджаць, што наша савецкая валюта не прадстаўляе ніякай каштоўнасьці? Ці-ж гэта ня факт, што на гэту валюту мы буда-

валі Магнітабуд, Днепрабуд, Кузьнецкбуд, Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя заводы, Горкаўскі і Маскоўскі аўтомобільныя заводы, сотні тысяч колгасаў і тысячы саўгасаў? Ці ня думаюць гэтыя паны, што ўсе гэтыя прадпрыемствы пабудаваны з саломы або з гліны, а не з сапраўдных матэрыялаў, якія маюць пэўную каштоўнасьць? Чым забясьпечваецца ўстойлівасьць савецкай валюты, калі мець на ўвазе, зразумела, організаваны рынак, які мае рашаючае значэньне ў тавараабароце краіны, а ня рынак неорганізаваны, які мае толькі падпарадкаванае значэньне? Зразумела, ня толькі залатым запасам. Устойлівасьць савецкай валюты забясьпечваецца перш за ўсё вялізарнай колькасьцю таварных мас у руках дзяржавы, што пускаюцца ў тавараабарот па ўстойлівых цэнах. Хто з экономістаў можа адмаўляць, што такое забесьпячэньне, якое мае месца толькі ў СССР, зьяўляецца больш рэальным забесьпячэньнем устойлівасьці валюты, чым любы залаты запас? Ці зразумеюць калі-небудзь экономісты капіталістычных краін, што яны канчаткова заблыталіся з тэорыяй залатога запасу, як адзінага забесьпячэньня ўстойлівасьці валюты?

Так стаіць справа з пытаньнямі, зьвязанымі з разгортваньнем савецкага гандлю.

Чаго дабіліся мы ў рэзультаце правядзеньня пяцігодкі ў галіне разгортваньня савецкага гандлю?

У выніку пяцігодкі мы маем:

а) павялічэньне продукцыі лёгкай прамысловасьці, якая паднялася да 187 проц. у параўнаньні з 1928 годам;

б) рост раздробнага коопэрацыйна-дзяржаўнага тавараабароту, які складае зараз у цэнах 1932 году 39,6 млрд. руб., г. зн. павялічэньне таварнай масы ў раздробным гандлі да 175 проц. у параўнаньні з 1928 годам;

в) рост дзяржаўна-коопэрацыйнай гандлёвай сеткі на 158 тыс. крам і магазынаў у адносінах да 1929 году;

г) усё ўзрастаючае разгортваньне колгаснага гандлю і сельскагаспадарчых загатовак, паасобных дзяржаўных і коопэрацыйных організацый.

Такавы факты.

Зусім іншы малюнак прадстаўляе становішча тавараaботу ўнутры капіталістычных краін, дзе крызіс прывёў да катастрофічнага скарачэньня гандлю, масавага закрыцьця прадпрыемстваў і зруйнаваньня дробных і сярэдніх гандляроў, банкруцтва буйных гандлёвых фірм і затаварваньня гандлёвых прадпрыемстваў пры далейшым бязупынным зьніжэньні пакупной здольнасьці працоўных мас.

Такавы вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне разьвіцьця тавараабароту.

## VII. Вынікі пяцігодкі за чатыры гады ў галіне барацьбы з рэшткамі варожых клясаў

У выніку ажыцьцяўленьня пяцігодкі ў галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і гандлю мы ўмацавалі ва ўсіх сфэрах народнай гаспадаркі прынцып социялізму, выгнаўшы адтуль капіталістычныя элемэнты.

Да чаго гэта павінна было прывесьці ў адносінах капіталістычных элемэнтаў і да чаго яно на самай справе прывяло?

Гэта прывяло да таго, што аказаліся вышыбленымі з каляіны апошнія рэшткі паміраючых клясаў: прамыслоўцы і іх лёкаі, гандляры і іх прысьпешнікі, былыя дваране і папы, кулакі і падкулачнікі, былыя белыя афіцэры і ўраднікі, былыя паліцэйскія і жандары, усякага роду буржуазныя інтэлігенты шовіністычнага толку і ўсе іншыя антысавецкія элемэнты.

Будучы вышыбленымі з каляіны і раскідаўшыся па ўсім СССР, гэтыя былыя людзі распаўзьліся па нашых заводах і фабрыках, па нашых установах і гандлёвых арганізацыях, па прадпрыемствах чыгуначнага і воднага транспорту і галоўным чынам—па колгасах і саўгасах. Распаўзьліся і схаваліся яны там, накінуўшы маску «рабочых» і «сялян», прычым сёй-той з іх пралез нават у партыю.

З чым яны прышлі туды? Зразумела, з пачуцьцём нянавісьці да савецкай улады, з пачуцьцём лютай варожасьці да новых форм гаспадаркі, быту, культуры.

Пайсьці ў простую атаку супроць савецкай улады гэтыя паны ўжо ня ў сілах. Яны і іх клясы некалькі разоў вялі ўжо такія атакі, але былі разьбіты і расьсеяны. Таму адзінае, што застаецца ім рабіць,—гэта паскудзіць і шкодзіць рабочым, колгасьнікам, савецкай уладзе, партыі. І яны паскудзяць, як толькі могуць, дзейнічаючы ціхай сапай. Падпальваюць склады і ломяць машыны. Арганізуюць саботаж. Арганізуюць шкодніцтва ў колгасах, у саўгасах, прычым некаторыя з іх, у ліку якіх ёсьць і сякія-такія профэсары, у сваім шкодніцкім парыве даходзяць да таго, што прышчапляюць жывёле ў колгасах і саўгасах чуму, сібірскую язву, садзейнічаюць пашырэньню мэнінгіту сярод коняй і т. д.

Але галоўнае ня ў гэтым. Галоўнае ў «дзейнасьці» гэтых былых людзей заключаецца ў тым, што яны арганізуюць масавае зладзейства і раскрадваньне дзяржаўнай маёмасьці, коопэрацыйнай маёмасьці, колгаснай уласнасьці. Зладзейства і раскрадваньне на фабрыках і заводах, зладзейства і раскрадваньне чыгуначных грузаў, зладзейства і раскрадваньне ў складах і гандлёвых прадпрыемствах,—асабліва зладзейства і раскрадваньне ў саўгасах і колгасах,—такава асноўная форма «дзейнасьці» гэтых былых людзей. Яны адчуваюць нібы клясавым інстынктам, што асноваю савецкай гаспадаркі зьяўляецца грамадзкая ўласнасьць, што іменна гэту аснову трэба расхістаць, каб нашкодзіць савецкай

уладзе,—і яны сапраўды стараюцца расхістаць грамадзкую ўласнасьць шляхам арганізацыі масавага зладзейства, раскрадваньня.

Для арганізацыі раскрадваньняў яны выкарыстоўваюць прыватнаўласьніцкія навыкі і перажыткі колгасьнікаў, учарайшых аднаасобнікаў, а цяпер членаў колгасаў. Вы, як марксысты, павінны ведаць, што сьвядомасьць людзей адстае ў сваім разьвіцьці ад фактычнага іх становішча. Колгасьнікі па становішчы ўжо не аднаасобнікі, а колектывісты, але сьвядомасьць у іх пакуль што яшчэ старая, прыватнаўласьніцкая. І вось былыя людзі з радоў эксплёататарскіх клясаў скарыстоўваюць прыватнаўласьніцкія прывычкі колгасьнікаў, каб арганізаваць раскрадваньне грамадзкай маёмасьці і тым пахіснуць аснову савецкага ладу,—грамадзкую ўласнасьць.

Многія нашы таварышы дабрадушна глядзяць на падобныя зьявішчы, не разумеючы сэнсу і значэньня фактаў масавага зладзейства і раскрадваньня. Яны, як сьляпыя, праходзяць міма гэтых фактаў, мяркуючы, што «тут нічога няма асаблівага». Але яны, гэтыя таварышы, глыбока памыляюцца. Асновай нашага ладу зьяўляецца грамадзкая ўласнасьць таксама, як асновай капіталізму—уласнасьць прыватная. Калі капіталісты абвясьцілі прыватную ўласнасьць сьвяшчэннай і недатыкальнай, дабіўшыся ў свой час умацаваньня капіталістычнага ладу, дык мы, комуністы тым больш павінны абвясьціць грамадзкую ўласнасьць сьвяшчэннай і недатыкальнай, каб замацаваць тым самым новыя соцыялістычныя формы гаспадаркі ва ўсіх галінах вытворчасьці і гандлю. Дапускаць зладзейства і раскрадваньне грамадзкай уласнасьці,—усёроўна ці справа ідзе аб уласнасьці дзяржаўнай ці ўласнасьці коопэрацыйнай і колгаснай,—і праходзіць міма падобных контррэволюцыйных агіднасьцяй,—значыць спрыяць падрыву савецкага ладу, які апіраецца на грамадзкую ўласнасьць як на сваю базу. З гэтага выходзіў наш савецкі ўрад, калі ён выдаў нядаўна закон аб ахове грамадзкай уласнасьці. Гэты закон ёсьць аснова рэволюцыйнай законнасьці ў цяперашні момант. А неабходнасьць найстражэйшага правядзеньня яго ў жыцьцё зьяўляецца першым абавязкам кожнага комуніста, кожнага рабочага і колгасьніка.

Кажуць, што рэволюцыйная законнасьць нашых часоў нічым не адрозьніваецца ад рэволюцыйнай законнасьці першага пэрыоду нэпу, што рэволюцыйная законнасьць нашых часоў ёсьць зварот да рэволюцыйнай законнасьці першага пэрыоду нэпу. Гэта зусім няверна. Рэволюцыйная законнасьць першага пэрыоду нэпу накіроўвалася сваім лёзам галоўным чынам супроць крайнасьці ваеннага комунізму, супроць «незаконных» конфіскацый і пабораў. Яна гарантавала прыватнаму гаспадару-капіталісту захавальнасьць яго маёмасьці пры ўмове самага строгага захаваньня ім савецкіх законаў. Зусім інакш стаіць справа з рэволюцыйнай законнасьцю ў нашы часы. Рэволюцыйная законнасьць

нашых часоў накіравана сваім лёзам супроць зладзеяў і шкоднікаў, супроць хуліганаў і раскрадвальнікаў грамадзкай уласнасьці. Асноўны клопат рэволюцыйнай законнасьці ў нашы часы заключаецца ў ахове грамадзкай уласнасьці, а ня ў чым-небудзь іншым.

Вось чаму барацьба за ахову грамадзкай уласнасьці, барацьба ўсімі мерамі і ўсімі сродкамі, якія прадстаўляюцца ў наша распараджэньне законамі савецкай улады,— зьяўляецца аднэй з асноўных задач партыі.

Моцная і магутная дыктатура пролетарыяту—вось што нам патрэбна цяпер для таго, каб разьвеяць ушчэнт апошнія рэшткі паміраючых клясаў і разьбіць іх зладзейскія махінацыі.

Некаторыя таварышы зразумелі тэзіс аб зьнішчэньні клясаў, аб стварэньні бясклясавага грамадзтва і адміраньні дзяржавы, як апраўданьне ляноты і дабрадушша, апраўданьне контррэволюцыйнай тэорыі патуханьня клясавай барацьбы і аслабленьня дзяржаўнай улады. Няма чаго і казаць, што такія людзі ня могуць мець нічога агульнага з нашай партыяй. Гэта перараджэнцы, або двурушнікі, якіх трэба гнаць вон з партыі. Зьнішчэньне клясаў дасягаецца ня шляхам патуханьня клясавай барацьбы, а шляхам яе ўзмацненьня. Адміраньне дзяржавы прыдзе не праз аслабленьне дзяржаўнай улады, а праз яе максымальнае ўзмацненьне, неабходнае для таго, каб дабіць рэшткі паміраючых клясаў і арганізаваць абарону супроць капіталістычнага акружэньня, якое далёка яшчэ ня зьнішчана і ня хутка яшчэ будзе зьнішчана.

У рэзультаце ажыцьцяўленьня пяцігодкі мы дабіліся таго, што вышыблі канчаткова апошнія рэшткі варожых клясаў з іх вытворчых позыцый, разграмілі кулацтва і падрыхтавалі глебу для яго зьнішчэньня. Такі вынік пяцігодкі ў галіне барацьбы з апошнімі атрадамі буржуазіі. Але гэтага недастаткова. Задача заключаецца ў тым, каб вышыбіць гэтых былых людзей з нашых-жа ўласных прадпрыемстваў і ўстаноў і канчаткова іх абясшкодзіць.

Нельга сказаць, каб гэтыя былыя людзі маглі што-небудзь зьмяніць сваімі шкодніцкімі і зладзейскімі махінацыямі ў цяперашнім становішчы СССР. Яны надта слабыя і немачныя для таго, каб процістаяць мерапрыемствам савецкай улады. Але калі нашы таварышы ня ўзброяцца рэволюцыйнай пільнасьцю і ня выганяць з практыкі абывацельска-дабрадушныя адносіны да фактаў зладзейства і раскрадваньня грамадзкай уласнасьці, то былыя людзі могуць нарабіць ня мала брыдот.

Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасьці савецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленьне апошніх рэштак паміраючых клясаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апэлююча да адсталых пластоў насельніцтва і мобілізуючы іх супроць савецкай улады. Няма такой брыдоты і паклёпу, якіх-бы гэтыя былыя людзі не ўзьвялі на савецкую ўладу і вакол якіх не папрабавалі-б мобілізаваць ад-

сталыя элемэнты. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разьбітыя групы старых контррэволюцыйных партый: эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтру і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных опозыцыйных элемэнтаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, зразумела, ня страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элемэнтамі хутка і без асаблівых афяр.

Вось чаму рэволюцыйная пільнасьць зьяўляецца тэй самай якасьцю, якая асабліва неабходна цяпер бальшавікам.

## VIII. Агульныя вывады

Такавы асноўныя вынікі правядзеньня ў жыцьцё пяцігадовага пляну ў галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, у галіне паляпшэньня быту працоўных і разьвіцьця тавараабароту, у галіне ўмацаваньня савецкай улады і разгортваньня клясавай барацьбы супроць рэштак і перажыткаў аджываючых клясаў.

Такавы посьпехі і заваяваньні савецкай улады за апошнія чатыры гады.

Было-б памылковым думаць на падставе гэтых посьпехаў, што ўсё абстаіць у нас добра. Зразумела, у нас ня ўсё яшчэ абстаіць добра. Недахопаў і памылак у нашай рабоце ёсьць даволі. Безгаспадарчасьць і бесталкоўшчына ўсё яшчэ маюць месца ў нашай практыцы. Я, на жаль, не магу зараз спыніцца на недахопах і памылаках, бо рамкі даручанага мне падагульваючага дакладу не даюць для гэтага прастору. Але справа цяпер ня ў гэтым. Справа ў тым, што, ня гледзячы на недахопы і памылкі, наяўнасьці якіх ніхто з нас не адмаўляе, мы дабіліся такіх сур'ёзных посьпехаў, якія выклікаюць захапленьне ў рабочай клясе ўсяго сьвету, мы дабіліся такой перамогі, якая мае сапраўды сусьветнагістарычнае значэньне.

Што магло адыгрываць і што сапраўды адыграла галоўную ролю ў тым, што, ня гледзячы на памылкі і недахопы, партыя дабілася ўсё-ж рашаючых посьпехаў у справе правядзеньня пяцігодкі за чатыры гады?

Дзе тыя асноўныя сілы, якія забясьпечылі нам гэтую гістарычную перамогу, ня гледзячы ні на што?

Гэта перш за ўсё актыўнасьць і самаафярнасьць, энтузіязм і ініцыятыва мільёнаў мас рабочых і колгасьнікаў, якія разьвілі разам з інжынэрна-тэхнічнымі сіламі вялізарную энэргію па разгортваньню соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Ня можа быць сумненьня, што бяз гэтай акалічнасьці мы не маглі-б дабіцца мэты, не маглі-б рушыцца ўперад ні на крок.

Гэта, па-другое, цьвёрдае кіраўніцтва партыі і ўраду, якія заклікалі масы ўперад і перамаглі ўсе і ўсякія труднасьці на шляху да мэты.

Гэта, нарэшце, асобыя вартасьці і перавагі савецкай сыстэмы гаспадаркі, якая тоіць у сабе вялізарныя магчымасьці, неабходныя для перамаганьня ўсіх і ўсякіх труднасьцяй.

Такавы тры асноўныя сілы, вызначыўшыя гістарычную перамогу СССР.

Агульныя вывады:

1. Вынікі пяцігодкі перакулілі цьверджаньне буржуазных і соцыял-дэмократычных дзеячоў аб тым, што пяцігадовы плян ёсьць фантазія, брэд, неажыцьцёўная мара. Вынікі пяцігодкі паказалі, што пяцігадовы плян ужо ажыцьцёўлен.

2. Вынікі пяцігодкі разьбілі вядомы буржуазны «сымболь веры» аб тым, што рабочая кляса няздольна будаваць новае, што яна здольна толькі разбурыць старое. Вынікі пяцігодкі паказалі, што рабочая кляса здольна таксама добра будаваць новае, як і разбураць старое.

3. Вынікі пяцігодкі разьбілі тэзіс соцыял-дэмократаў аб тым, што немагчыма пабудаваць соцыялізм у аднэй, асобна ўзятай краіне. Вынікі пяцігодкі паказалі, што зусім магчыма пабудаваць у аднэй краіне соцыялістычнае грамадзтва, бо экономічны фундамант такога грамадзтва пабудаваны ўжо ў СССР.

4. Вынікі пяцігодкі перакулілі цьверджаньне буржуазных экономістаў аб тым, што капіталістычная сыстэма гаспадаркі зьяўляецца найлепшай сыстэмай, што ўсякая іншая сыстэма гаспадаркі нямоцная і няздольная вытрымаць экзамен перад тварам труднасьцяй экономічнага разьвіцьця. Вынікі пяцігодкі паказалі, што капіталістычная сыстэма гаспадаркі бязгрунтоўная і нямоцная, што яна ўжо аджывае свой век і павінна ўступіць сваё месца другой вышэйшай савецкай соцыялістычнай сыстэме гаспадаркі, што адзіная сыстэма гаспадаркі, якая не баіцца крызісаў і здольна перамагчы труднасьці, невырашальныя для капіталізму,— гэта савецкая сыстэма гаспадаркі.

5. Нарэшце, вынікі пяцігодкі паказалі, што партыя непераможна, калі яна ведае, куды весьці справу і не баіцца труднасьцяй. **(Бурныя, працяжныя аплёдысмэнты, якія пераходзяць у авацыю; заля, стоячы, вітае т. Сталіна).**

---

# ПАЛІТЭХНІЧНАЯ ШКОЛА—ДА БАЛЬШАВІЦКАЙ СЯЎБЫ

*Хв. Сьцепанюк*

## Культасьветныя ўстановы на барацьбу за правядзеньне веснавога севу

### Чарговыя задачы веснавой пасеўкампаніі

Падыходзіць веснавая пасеўная кампанія першага году другой пяцігодкі. Гэтая пасеўная кампанія мае важнейшае гаспадарча-палітычнае значэньне. Яна зьяўляецца рашаючым фактарам у выкананьні народна-гаспадарчага пляну першага году другой пяцігодкі, асабліва ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці.

Першы бальшавіцкі сеў другой пяцігодкі будзе праходзіць у зусім новых умовах, пры новых складанейшых задачах. Новыя ўмовы, новыя задачы чотка і яскрава акрэсьлены гістарычнай прамовай т. Сталіна і вызначаны Студзеньскім Аб'яднаным Пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б), а таксама Сьнежаньскім Пленумам ЦК і ЦКК ПК(б)Б.

Гэтыя новыя ўмовы заключаюцца ў тым, што «партыя дабілася таго, што на працягу якіх-небудзь трох год змагла арганізаваць больш 200 тысяч калектыўных гаспадарак і каля 5 тысяч саўгасаў, збожжавага і жывёлагадоўчага напрамку, дабіўшыся адначасова пашырэньня пасеўных плошчаў за 4 гады на 21 мільён гэктараў.

Партыя дабілася таго, што калгасы яднаюць цяпер звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак з ахопам звыш 70 проц. усёй сялянскай плошчы. Партыя дабілася таго, што замест 500—600 мільёнаў пудоў таварнага хлеба, які загатаўляўся ў пэрыяд пераважна індывідуальнай сялянскай гаспадаркі, яна мае цяпер магчымасьць загатаўляць 1200—1400 мільёнаў пудоў збожжа штогодна.

Партыя дабілася таго, што кулацтва як кляса разгромлена, хаця і не дабіта яшчэ, працоўнае сялянства вызвалена ад кулац-

кай кабалы і эксплёатацыі і пад савецкую ўладу падведзена моцная эканамічная база ў вёсцы, база калектыўнай гаспадаркі.

Партыя дабілася таго, што СССР ужо ператвораны з краіны дробна-сялянскай гаспадаркі ў краіну самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце».

(З дакладу І. Сталіна на пленуме ЦК УсеКП(б).

Пасеўная кампанія будзе праходзіць ва ўмовах вялізарнай тэхнічнай узброенасьці сельскай гаспадаркі—яе сацыялістычнага сэктару (калгасаў і саўгасаў).

Сельская гаспадарка ўступае ў пасеўную пры наліччы 2446 па Саюзе і 57 па БССР Машына-Трактарных станцый з магутным трактарным паркам (звыш 120 тысяч трактароў) з забесьпячэньнем усімі складанымі с.-г. машынамі, інвэнтаром і прыладамі.

Гэтыя новыя абставіны ствараюць непамерна спрыяючыя ўмовы для пасьпяховага правядзеньня веснавога севу і зьяўляюцца зарукай поўнага ажыцьцяўленьня пастаўленых партыяй і ўрадам задач барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці, якасьць сельскагаспадарчай вытворчасьці, за аўладаньне агратэхнікай, за разгортваньне на больш шырокай аснове барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

На аснове атрыманых вялізарных посьпехаў у галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, уздыму сельскай гаспадаркі ў напрамку пашырэньня пасеўплошчы на 21 мільён га па Саюзе за 4 гады і на 1.240 тысяч га па БССР, асабліва пад тэхнічныя культуры, у напрамку тэхнічнай узброенасьці—створаны вялізарныя прадпасылкі для ўзьняцьця ўраджайнасьці на больш высокую ступень.

«Надышоў час, калі ад росту гаспадаркі ўшырыню шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна павярнуць да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця.

(З пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці, як цэнтральнай задачы, набывае выключна важнае значэньне для БССР, як рэспублікі галоўным чынам інтэнсыўных культур.

Сьнежаньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б і пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 1/II-33 г. устанавілі цьвёрдыя сярэднія нормы павышэньня ўраджайнасьці на 1933 год. Так, па збожжу—8 цэнтн. з аднаго га, па ільну—2,4 цэнт. з га, па бульбе—100 цэнт. з га.

На бальшавіцкае ажыцьцяўленьне пастаўленых пленумам ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б задач аб арганізацыі і правядзеньні веснавой сяўбы неабходна «пераключыць работу ўсіх партыйна-савецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых

у галіне сельскай гаспадаркі—у напрамку падвышэньня ўраджайнасьці па ўсіх бяз выключэньня культурах, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант».

(З пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб узьняцьці ураджайнасьці)

Падвышэньне ўраджайнасьці сацыялістычных палёў патрабуе ўзьняцьця якасьці ўсёй работы, узьняцьця прадукцыйнасьці працы. Высокі ўраджай вырашае задачу падвышэньня таварнасьці, рэнтабельнасьці гаспадаркі, а гэта значыць—арганізацыйнага гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, палепшаньня матар'яльна-бытавых культурных умоў жыцьця і працы калгасных мас.

Выкананьне вышэйпералічаных задач, поўнае выкананьне пасеўных плянаў ў максымальна-кароткія тэрміны правядзеньня сяўбы, барацьба за добраякаснае насеньне, за палепшаньне якасьці апрацоўкі глебы і г. д. патрабуе неадкладнага разгортваньня падрыхтоўчай работы, барацьбы за арганізацыю і правядзеньне веснавой сяўбы.

ЦК КП(б)Б і СНК у сваёй пастанове аб мерапрыемствах па арганізацыі сяўбы адзначылі, што «як у цэнтры, так і на мясцох, мае месца апартуністычны самацёк (асабліва на мясцох)».

ЦК КП(б)Б і СНК у сваёй пастанове сыгналізавалі, «што ўжо зараз ёсьць у наяўнасьці праяўленьне адкрыта-кулацкага антысавецкага сабатажу і шкодніцтва, накіраванага на зрыў веснавой сяўбы, адмаўленьне ад пляну сяўбы» і што «рад раённых партыйных, камсамольскіх, савецкіх і зямельных арганізацый ня робяць належных вывадаў і ўрокаў з загатоўчай кампаніі».

ЦК і СНК падкрэсьліваюць, што «разгром кулацкіх, антысавецкіх, шкодніцкіх элемэнтаў і чыстка партыйных радоў ад варожых, прымазаўшыхся, перарадзіўшыхся элемэнтаў павінна з усёй рашучасьцю і яшчэ большай настойлівасьцю працягвацца».

Супакойвацца на тым, што «яшчэ час цярпець», значыцца, пусьціць адну з важнейшых спраў, якой зьяўляецца сяўба—на апартуністычны самацёк, а гэта значыць аказаць вялікую ўслугу кулаку, контррэвалюцыйным сілам у простым сабатажы і шкодніцтве правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі.

Тут самацёку, дэмабілізаваным настроям няма месца.

Самацёк, усялякія дэмабілізаваныя настроі «павінны разглядацца, як просты сабатаж падрыхтоўкі да сяўбы».

Гэтыя простыя бальшавіцкія патрабаваньні ЦК КП(б)Б і СНК датычаць ня толькі паасобных арганізацый, але яны зьяўляюцца абавязковымі патрабаваньнямі абсалютна ўсіх арганізацый і ўстаноў у прыватнасьці і асаблівасьці для ўсіх зьвеньняў арганізацыі культасьветных устаноў сыстэмы нарасьветы.

Культасьветныя ўстановы: ВНУ, тэхнікумы, школы, дамы культуры, клюбы, бібліятэкі, музэі, тэатры і інш. павінны зараз-жа ўключыцца ў падрыхтоўку і арганізацыю веснавой пасеўнай кампаніі.

## У чым заключаюцца асноўныя задачы культасьветных устаноў?

Першая задача. На аснове правядзеньня разгорнутай масавай арганізацыйна-растлумачальнай работы давесьці пастановы Сьнежаньскага, Студзеньскага пленумаў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, пастановы ЦК КП(б)Б і СНК ад 1/II-33 г., пастановы ЦК КП(б)Б і СНК саюзу аб арганізацыі сяўбы на Паўночным Каўказе, аб здачы збожжа дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі. Давесьці пляны, заданьні па сяўбе да кожнага калгасу, брыгады да сялянскага двара; на аснове паказаных пастаноў мабілізаваць шырокія рабочыя, калгасныя і бядняцка-серадняцкія масы на канкрэтнае выкананьне плянаў і заданьняў веснавой сяўбы.

Другая задача. Арганізаваць масавую палітычна-выхаваўчую работу сярод рабочых МТС, саўгасаў, калгасаў, а таксама сярод бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў.

Навакол канкрэтных задач і мерапрыемстваў, пастаўленых перад кожным саўгасам, калгасам, вытворчай брыгадай і перад кожным рабочым калгасьнікам неабходна весьці штодзенную, упартую выхаваўчую работу за сацыялістычныя адносіны да калгаснай грамадзкай маёмасьці, за сьвядомую працоўную дысцыпліну, за падвышэньне вытворчасьці і ўзьняцьце якасьці працы, узьнімаючы клясавую пільнасьць, непрымірымую барацьбу з клясаварожымі, антысавецкімі элемэнтамі (кулаком, былымі афіцэрамі, папамі,ураднікамі, аканомамі і іх дзецьмі), якія пралезьлі ў калгас для шкодніцкай, антысавецкай работы, па разбурэньні калгасаў; неабходна ўмець заўсёды «разгледзіць такога лоўкага ворага і не паддацца дэмагогіі, уладаць рэвалюцыйнай пільнасьцю, уладаць здольнасьцю сарваць маску з ворага і паказаць калгасьнікам яго сапраўдны контррэвалюцыйны твар».

(Сталін. З прамовы на Студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б).

Трэцяя задача. Узброіць шырокія рабочыя і калгасныя масы агра-зоатэхнікай і аказаць калгасам канкрэтную дапамогу па ўнядрэньні агра-зоатэхнічных (як складаных, так і асабліва, прасьцейшых, усім даступных) мерапрыемстваў.

Неабходна асвоіць і поўнасьцю скарыстаць усе перавагі калектыўнай формы вядзеньня сельскагаспадарчай вытворчасьці, магутную вытворча-тэхнічную базу і тыя вялізарныя ўнутраныя сілы і сродкі, якія створаны ў калгасе. Трэба зразумець, што без аўладаньня і ўнядрэньня агра-зоатэхнікі, без асваеньня ўсіх вялізарных вытворча-тэхнічных сродкаў немагчыма вырашыць пастаўленых партыяй і ўрадам задач у вясновую пасеўную кампанію першага году другой пяцігодкі.

Чацьвертая задача. Аказаньне практычнай дапамогі калгасам у падрыхтоўцы і арганізацыі сяўбы. Збор, захаваньне насенных фондаў, ачыстка насеньня, складаньне вытворчых плянаў, арганізацыя вытворчых брыгад, расстаноўка сіл, рамонт с.-г. машын, інвэнтару, збор попелу і г. д.

Пятая задача. Арганізацыя масавага культасьветнага абслугоўваньня рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас. Разгортваньне культасьветнай работы непасрэдна ў вытворчай брыгадзе. Арганізацыя сеці дашкольных устаноў у саўгасах, калгасах. Забесьпячэньне калгасных мас кнігамі, газэтамі; правядзеньне дакладаў, лекцый, гутарак; выданьне насьценных газэт, газэт-ільлічовак, арганізацыя агра-заатэх-выставак і г. д.

## Як арганізаваць работу культасьветных устаноў?

Абавязак кожнай культасьветнай установы заключаецца ў тым, каб зараз-жа, не адкладваючы ні на дзень, ні на гадзіну ўключыцца ў падрыхтоўку да сяўбы. На аснове раённых, сельскіх, калгасных плянаў распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па ўдзеле кожнай установы ў падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі.

Аддзелы народнае асьветы павінны ўзначаліць гэту работу канкрэтным апэрацыйным кіраўніцтвам. НКАсьветы даручыў РайАНА на працягу лютага месяца правесьці шырокія раённыя, куставыя, а таксама сельскія нарады, канфэрэнцыі, зьлёты, як загадчыкаў школ, дамоў культуры, бібліятэк, так і непасрэдна ўсю культармію асьветнікаў, палітасьветнікаў, дашкольных устаноў, чырвонакутнікаў і саміх культармейцаў.

Для правядзеньня гэтых нарад, канфэрэнцый, зьлётаў усёй культурнай арміі мы павінны мабілізаваць усе культсілы гораду і вёскі навакол задач і мерапрыемстваў веснавой сяўбы, даць правільны напрамак і вызначыць канкрэтныя шляхі (формы, мэтады і зьмест) удзелу кожнай установы.

Неабходна падкрэсьліць той факт, што ў правядзеньні масавых кампаній (сяўба, уборка, асабліва нарыхтоўкі) у значнай сваёй частцы замест арганізацыйнага ўдзелу ўстановы ў цэлым, мы маем удзел (праўда, актыўны ўдзел) паасобных працаўнікоў: загадчыка, настаўніка школы, загадчыка дому культуры. Такое становішча нас не можа задаволіць. Нельга дапусьціць таго, каб паасобныя працаўнікі падмянялі сабой установу і зьніжалі арганізуючую і выхаваўчую ролю культасьветнай установы ў цэлым.

Органы нарасьветы, загадчыкі культасьветных устаноў павінны дабіцца таго, каб у пасеўнай кампаніі прымалі актыўны і арганізаваны ўдзел усе ўстановы.

Найбольш шырокай і вялікай галіной работы кутасьветных установ зьяўляецца—прапаганда і ўнядрэньне агра-зоатэхнікі. Аўладаньне і ўнядрэньне агра-зоатэхнікі вырашае цэнтральную задачу—падвышэньне ўраджайнасьці. Паказаньні т. Сталіна аб тым, што «тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі вырашае ўсё» з усёй сілай адносіцца і да сельскагаспадарчай вытворчасьці, да барацьбы за ўраджай. Між тым, у гэтым напрамку мы маем найбольш вузкае месца. Нярэдка бываюць выпадкі, калі гаспадарчыя, калгасныя і нават зямельныя органы і культасьветныя ўстановы недаацэньваюць значэньне агра-зоатэхнікі, а пад час нават ігнаруюць масавыя прасьцейшыя агра-зоатэхнічныя мерапрыемствы (ачыстка насеньня, збор попелу, барацьба з саранякамі і г. д.).

Культасьветныя ўстановы павінны разгарнуць шырокую, масавую агра-зоатэхнічную прапаганду. Арганізаваць у масавым парадку правядзеньне лекцый аграномаў, настаўнікаў-прыродазнаўцаў, хэмікаў і іншых. Наладзіць рэгулярнае правядзеньне масавых гутарак, чытку агра-зоаатэх-мінімума непасрэдна ў калгасах і брыгадах. Арганізаваць правядзеньне вечароў «тэхнікі», вечароў «вопыту» і г. д. Гэтыя, як найбольш масавыя, формы павінны быць шырока разгорнуты кожнай школай, палітасьветнай установай.

Асабліва заслугоўвае ўвагі такое мерапрыемства, як арганізацыя сельскагаспадарчых, агра-зоатэхнічных стацыянарных і асабліва перасовачных выставак. Такія выстаўкі маюць вялікае значэньне і адыгрываюць значную ролю ў прапагандзе і ўнядрэньні агра-зоатэхнікі. Яны павінны ў нагляднай, простай і зразумелай форме, на вопыце і прыкладзе паасобных перадавых калгасаў, саўгасаў паказаць дасягненьні сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, перавагу і выгады калектыўнай гаспадаркі над дробнай, прыватнай сельскай гаспадаркай, у галіне арганізацыі працы, вядзеньня сельскагаспадарчай вытворчасьці і барацьбы за высокі ўраджай.

Сельскагаспадарчыя, агра-зоатэхнічныя выстаўкі павінны быць арганізаваны пры ўсіх узорных ШКМ, пры пэдгабінэтах, пры 2-3-х найбольш моцных ШКМ раёну, пры ўсіх сельскіх дамах культуры. Акрамя сталых выставак, неабходна дабіцца арганізацыі выставак-перасовак пры кожным раённым доме культуры.

Цэнтральным зьвяном у прапагандзе і ўнядрэньні агра-зоатэхнікі зьяўляецца тэхгурток, як найбольш арганізаваная і паглыбленая форма работы. Работу па арганізацыі агра-зоатэхгурткоў прыходзіцца пачынаць спачатку таму, што да апошняга часу масавых гурткоў амаль што не існавала. Гэта вялізарны недахоп у працы культасьветных установ.

Пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці патрабуюць ад культасьветных установу масавага разгортваньня агразоатэхгурткоў, арганізацыі іх у кожным саўгасе, МТС, калгасе, у вытворчых брыгадах.

Выходзячы з гэтага, Народны Камісарыят Асьветы даручыў кожнай ШКМ (поўнай) і сельскаму дому культуры арганізаваць ня менш як па два агра-зоатэхгурткі з ахопам імі ня менш 50 чал., астатнім ШКМ і пачатковым 4-камплектным школам арганізаваць ня менш аднаго гуртка. Агра-зоатэхгурткі павінны ў першую чаргу арганізоўвацца ў тых калгасах, да якіх прымацаваны школы, а таксама ў бліжэйшых калгасах.

На культасьветныя ўстановы ўскладаецца адказнасьць за арганізацыйнае і мэтадычнае кіраўніцтва гэтымі гурткамі, забесьпячэньне кіраўнікамі, праграмамі. Пры раймэтадбюро, сельмэтбюро, аб'яднаньнях і пры агра-зоатэхгабінэтах неабходна арганізаваць кансультацыю, а таксама інструктаж кіраўніком гурткоў.

Важнейшымі мерапрыемствамі падрыхтоўчага пэрыяду да сяўбы зьяўляюцца: засыпка насеньня, яго захаваньне, ачыстка, з такім разьлікам, каб поўнасьцю забясьпечыць насеньнем вызначаны плян сяўбы па ўсіх культурах.

Для выкананьня пляну яравога сева, які вызначаецца ўсяго ў 2.680 тысяч га, з іх у калгасах—1.255 тысяч га, у саўгасах—160 тысяч га, у аднаасобнікаў—1.295 тысяч га, па збожжы—1.348 тысяч га, па тэхнічных культурах—298 тысяч га, па бульбе—620 тысяч га,—неабходна забясьпечыць насеньнем, правесьці засыпку насеньня і стварыць страхавыя фонды ў калгасах па збожжы—132 тыс. тон,—па тэхкультурах—20-35 тыс. тон, бульбе—480 тыс. тон.

Школам і палітасьветным установам трэба правесьці вялізарную растлумачальную работу аб неабходнасьці забесьпячэньня добраякасным насеньнем. Дапамагчы калгасам захаваць насеньне, устанавіць штодзенны нагляд, кантроль за імі, вылучыць калгасьнікаў, якія-б адказвалі за ахову насеньня. Для масавай праверкі засыпкі, захаваньня і ачысткі насеньня, неабходна культасьветным установам стварыць кантрольныя пасты з настаўнікаў, старэйшых вучняў, калгасьнікаў.

Навакол засыпкі насеньня і захаванасьці як ніколі патрэбен грамадзкі кантроль, бальшавіцкае вока. Клясавы вораг ня ў меншай меры, чым на хлебанарыхтоўках, будзе аказваць шалёнае супраціўленьне гэтаму мерапрыемству. Клясава-варожыя элемэнты будуць дамагацца сарваць засыпку насеньня, разбазарваць яго, красьці ў час сева і г. д.

Першым абавязкам кожнага культпрацаўніка, і ў першую чаргу кантрольных пастоў—зьяўляецца рашучая барацьба з кулацкім сабатажам, шкодніцтвам. Неабходна своечасова выкрыць кулацкія махінацыі і даць ім рашучы адпор.

Не малаважнае значэньне набываюць мерапрыемствы своечасовага рамонту с.-г. машын, інвэнтару, збору і падрыхтоўкі каня і інш. Тут неабходна аказаць калгасам практычную дапамогу ў арганізацыі гэтай працы ў станаўленьні грамадзкага кантролю і ўзьдзейнічаньня на адстаючых.

Падвышэньне ўраджайнасьці ў значнай ступені залежыць ад угнаеньня глебы і скарыстаньня ўсіх магчымасьцяй—збор попелу, скарыстаньне торфу, розных адкідаў і г. д.

Асабліва рэальны эфэкт дае попел, якога маецца дзесяткісотні тысяч тон.

У арганізацыі збору попелу школа можа і павінна зрабіць многае, даць краіне дзесяткі тысяч тон попелу.

Кожная школа, культасьветная ўстанова павінны, па-першае, прыступіць да збору попелу ад сваіх устаноў і, па-другое, арганізаваць масавы збор попелу вучнямі, як у сябе дома, так і ў калгасьнікаў. Трэба дабіцца таго, каб кожны кілёграм попелу быў выкарыстаны для ўгнаеньня.

Разам з складаньнем плянаў сяўбы, падрыхтоўкай і рамонтам с.-г. машын, інвэнтару, засыпкай насеньня і г. д., неабходна арганізаваць работу па вучоту, вывучэньні і правільнай расстаноўкі сіл у калгасах, саўгасах і МТС.

Цэнтральным зьвяном у с.-гаспадарчай вытворчасьці зьяўляецца сталая вытворчая брыгада, «таму ўсямернае ўмацаваньне вытворча-калгасных брыгад, высоўваньне і выхаваньне яе актыву і ў першую чаргу самаго брыгадзіра—зьяўляецца аднэй з важнейшых задач усіх партыйных і савецкіх арганізацый».

(З пастановы ЦК КП(б)Б і СНК аб арганізацыі веснавой сяўбы).

Культасьветныя ўстановы, у першую чаргу ў прымацаваных калгасах, павінны прыняць актыўны ўдзел у арганізацыі сталых вытворчых брыгад, выдзяленьні і замацаваньні за брыгадай на 1933 год вытворча-зямельных вучасткаў, цягавай сілы, с.-г. машыны інвэнтар, у распрацоўцы і давядзеньні да кожнай брыгады вытворчых плянаў, устанаўленьні тэрмінаў сяўбы, дачы заданьняў па ўраджайнасьці, нормы высеву і нормы выпрацоўкі. Неабходна прымацаваць настаўнікаў культасьветных працаўнікоў да асноўных вядучых вытворчых брыгад для аказаньня дапамогі ў арганізацыі работы, правядзеньні вытворчых нарад і пастаноўкі масавай палітвыхаваўчай работы.

Для арганізацыі і правядзеньня культпалітасьветнай работы ў брыгадах, неабходна з самага пачатку іх арганізацыі падабраць і вылучыць у кожнай брыгадзе культарганізатараў. На культарганізатараў ускладаецца—выпіска і дастаўка газэт, кніг, правядзеньне гутарак, чытак; выданьне ільлічовак пяцідзёнка, арганізацыя агра-зоатэхгурткоў, правядзеньне масавай агітацыйнай выхаваўчай работы, прапрацоўка пастаноў партыі і ўраду і г. д.

Культарганізатары ў брыгадах—гэта новая культсіла, якая будзе патрабаваць ад органаў нарасьветы, ад культпалітасьветных установ чоткага канкрэтнага кіраўніцтва, аказаньня штодзеннай практычнай дапамогі, і мы гэта павінны задаволіць.

Культпалітасьветныя ўстановы павінны перанесьці сваю работу непасрэдна ў калгасы, саўгасы, у вытворчую брыгаду, калёну. Стварыць у іх шырокія кадры масавага культактыву.

Арганізаваць сумесную работу з культбытавымі камісіямі калгасаў і рабачкомаў. Неабходна скласьці адзіныя пляны культпалітасьветнай работы, заключыць дагаворы з МТС, саўгасамі, калгасамі і грамадзкімі арганізацыямі аб пастаноўцы масавай культпалітасьветнай работы, устанавіць вялікую адказнасьць за работу, прыцягнуць сілы і сродкі ўсіх арганізацый, якія вядуць культработу, і правільна іх расставіць.

Сельскія дамы культуры павінны арганізаваць і штодзенна праводзіць масавыя гутаркі, даклады, лекцыі, вечары, як непасрэдна ў ДСК, так і ў калгасах, саўгасах, у аддзяленьнях, у брыгадах і ў вёсках.

Трэба зараз-жа распрацаваць сярод рабочых, калгасьнікаў і беднякоў-сераднякоў аднаасобнікаў пастановы Сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб пасеўнай кампаніі на вёсцы, пастанову ЦК КП(б)Б і СНК аб мерапрыемствах арганізацыі веснавой сяўбы і пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК Саюзу аб арганізацыі сяўбы на Паўночным Каўказе і аб здачы збожжа дзяржаве сялянскімі гаспадаркамі.

У папулярызацыі задач і мерапрыемстваў веснавой пасеўнай кампаніі, барацьбы за аўладаньне агра-зоатэхнікай, за падвышэньне ўраджайнасьці значную ролю павінны адыграць бібліятэкі.

Раённыя і гарадзкія бібліятэкі павінны пераключыць сваю работу на абслугоўваньне рабочага, калгасьніка, непасрэдна на вытворчым вучастку ў брыгадзе. З гэтай мэтай трэба арганізаваць шырокую сетку бібліятэк-перасовак. НКАсьветы даў заданьне арганізаваць гарадзкім і раённым стацыянарным бібліятэкам ня менш як па 20-25 бібліятэк-перасовак, сельскім дамам культуры арганізаваць ня менш 5-ці бібліятэк-перасовак.

Арганізацыя шырокай сеткі бібліятэк-перасовак патрабуе вылучэньня кадраў кніганош, бібліятэчнага актыву, далейшага папаўненьня бібліятэк у першую чаргу масавай палітычнай сельскагаспадарчай-агра-зоатэхнічнай літаратуры. А для гэтага ў сваю чаргу патрабуецца мабілізацыя і прыцягненьне сродак усіх арганізацый і самаго насельніцтва.

Новыя ўмовы, новыя задачы патрабуюць карэннай перабудовы работы ўсіх зьвеньняў культасьветных установ.

Перабудова работы, асабліва палітасьветных установ, павінна праходзіць неадарвана, а канкрэтна на аснове разгортваньня

ГБЛ Сі.-4а.

барацьбы за бальшавіцкае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі. Толькі на аснове разгортваньня масавай культпалітасьветнай работы ў саўгасах, МТС, калгасах, у брыгадах, мабілізацыі масавага актыву з рабочых, калгасьнікаў, актыўных і правераных беднякоў і серадлякоў аднаасобнікаў, арганізацыі іх работы, аказаньня ім практычнай дапамогі, разгортваньні штодзеннай работы па сацыялістычным перавыхаваньні шырокіх калгасных мас, барацьбы за сьвядомую і цьвёрдую дысцыпліну, за сацыялістычныя адносіны да грамадзкай маёмасьці, за ауладаньне імі агра-зоатэхнікай,—магчыма і неабходна пабудаваць масавую культпалітасьветную работу.

---

*М. Калінічэнка*

# Мэтадычная распрацоўка праграмнага матар'ялу па грамадазнаўству для школ I канцэнтру(*

## (У сувязі з чарговымі задачамі бальшавіцкай веснавой сяўбы)

Веснавая пасеўная кампанія першага году другой пяцігодкі мае вялікае гаспадарча-палітычнае значэньне. Яна будзе праходзіць пад лёзунгам рагорнутай барацьбы за вырашэньне новых задач, якія вызначаны пастановай студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) і ўраду ў галіне сельскай гаспадаркі.

«Наступіў час, калі ад росту гаспадаркі ўшырыню, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна павярнуць да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці, як галоўнай цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця».

Савецкая школа, якая выхоўвае сьвядомых і актыўных удзельнікаў будучага сацыялістычнага бясклясавага грамадзтва, павінна прыняць належны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні пасеўнай кампаніі. Школа ёсьць адзін з вучасткаў клясавай барацьбы, яна павінна быць цесна злучана з агульным фронтам барацьбы рабочае клясы за сацыялізм.

Вопыт мінулых гадоў паказаў, што ў часе вясеньняй пасеўнай кампаніі вучні выкарыстоўваліся, як падсобная сіла, як чарнарабочыя. Яны перагружаліся такой працай, якая ня мела навучальна-выхаваўчага значэньня, якая нярэдка была не па ўзрасных сілах вучняў. Праца школы ў гэтую бальшавіцкую вясну павінна праводзіцца на аснове пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе.

Здачы школы заключаюцца ў тым, каб правільна вызначыць сваё месца ў правядзеньні 4-й бальшавіцкай вясны, не парушаючы навучальных плянаў, праграм і пэўнага раскладу, поўнасьцю забясьпечваючы сыстэматычнае праходжаньне курсу, падпарадкаваньне ўсёй работы школы, у сувязі з веснавым севам, навучальным і выхаваўчым мэтам.

У пэрыяд падрыхтоўкі і правядзеньня веснавога севу вясковая школа прапрацоўвае курс той ці іншай дысцыпліны. У школе 1-га канцэнтру прапрацоўка навучальнага матар'ялу некаторых прадметаў і па тэматыцы і па часе супадае з пэрыядамі падрыхтоўкі і правядзеньня веснавога севу. Калі матэр'ял пройдзен

(*Рэдакцыя лічыць, што мэтадычная распрацоўка М. Калінічэнкі зьяўляецца недастаткова вычэрпальнай, але можа быць скарыстана ў якасьці дапаможнага матар'ялу пачынаючаму настаўніку

раней, трэба грунтавацца на здабытых ужо ведах, замацоўваючы пройдзены матар'ял і злучаючы яго з практычнай канкрэтнай працай, мерапрыемствамі па пасеўнай кампаніі. Гэтую працу неабходна прадумаць па кожнай групе паасобку.

Веснавая пасеўкампанія распачынаецца ў кожным сельсавеце на аснове стала распрацаваных плянаў самым сельсаветам і раённымі організацыямі. У адпаведнасьці з гэтым, школа выпрацоўвае свой плян працы, для чаго ўстанаўлівае сувязь з сельсаветам, хатай-чытальняй. Гэты плян павінен намеціць такія вучасткі грамадзка-вытворчай працы, якія адпаведалі-б навучальнай праграме і забясьпечвалі-б нармальны ход заняткаў.

## Навакол якіх тэм будаваць гэтую працу?

Вядучай галіной у правядзеньні бальшавіцкай веснавой сяўбы будзе **грамадазнаўства,** якое, зразумела, трэба ўвязваць з пастановамі студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б).

Па групах гэта праца павінна праходзіць наступным чынам:

а) П а I г р у п е. На гэты час прыпадаюць па грамадазнаўству такія тэмы: 3-ая «Вёска» і 4-ая—«Горад». **(гл. праграму стр. 30—31).** У тэме «Вёска» ёсьць разьдзелы: «Арганізацыя гаспадаркі: калгас, саўгас і аднаасобная гаспадарка», «Вораг калгасу», «Мінулае нашай вёскі», Значэньне Кастрычніцкай рэвалюцыі ў перабудове сельскай гаспадаркі. Паказаны матар'ял дае вялікую магчымасьць увязкі пры прапрацоўцы з асобнымі момантамі веснавога севу. У гэты час дзецям у вёсцы можна паказаць усе бакі грамадзка-вытворчай працы калгасу, мерапрыемствы партыі і ўраду вакол гэтых пытаньняў (сартаваньне насеньня, яго ачыстка і пратручваньне, праца трактара, с/г машыны, арганізацыя працы, факты клясавай барацьбы навакол калгасу); у горадзе—вынікі 1-й пяцігодкі і задачы на 1933 год.

У барацьбе за калгасы вялікую ролю адыгрываюць, пад кіраўніцтвам кампартыі, рабочыя фабрык і заводаў, на што трэба таксама зьвярнуць увагу вучняў.

б) П а II г р у п е Распрацоўваецца матар'ял па грамадазнаўству, вызначаны па праграме (ст. 32—33): «Калгас і яго работа», 3-ая тэма «Фабрыка і яе работа», «Сродкі сувязі», «Піянэры». Тут неабходна падкрэсьліць вынікі 1-й пяцігодкі ў галіне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, ролю партыі і ўраду ў правядзеньні бальшавіцкай сяўбы 1-га году другой пяцігодкі, у барацьбе за падвышэньне ўраджайнасьці; застанавіцца на такіх мерапрыемствах, як—ачыстка насеньня і яго пратручваньне ва ўстаноўлены тэрмін, збор попелу, скарыстаньне гною, які маюць калгасьнікі ў сваім уласным распараджэньні, для калгасных палёў; палепшаньне догляду каня, арганізацыя працы ў калгасе, вытвор-

чыя брыгады; роля спаборніцтва і ўдарніцтва, адносіны да дзяржаўнай маёмасьці, захаваньне калгаснай маёмасьці; барацьба супроць ворагаў калгасу, супроць расхлябанасьці, стварэньне працоўнай дысцыпліны.

Пры праходжаньні тэмы «Піянэры» зьвярнуць увагу вучняў на значэньне ў пасеўкампаніі дзіцячых ясьляў, пляцовак, дзіцячых садоў і г. д.

в) Па III групе. У часе веснавой пасеўкампаніі па грамадазнаўству прапрацоўваюцца тэмы: «Саветы» (ст. 35), «Барацьба з ворагамі рабочае клясы», «Камсамол» (ст. 37), «Камуністычная партыя», «Барацьба за сацыялізм» (ст 38). Трэба паказаць, як партыя, саветы змагаюцца за сацыялістычнае будаўніцтва (вынікі 1-й пяцігодкі і задачы на 1933 год), за калектывізацыю і ліквідацыю кулацтва, умацаваньне калгасу, усваеньне агратэхнікі, апрацоўкі глебы і г. д. Удзел у газэце, чытаньне газэты і кніг дома, пісаньне плякатаў, кніганосства—практычная работа вучняў. Яна павінна быць падпарадкавана сыстэматычнаму замацаваньню ведаў па грамадазнаўству і г. д.

Арганізацыя кутка пасеўнай кампаніі ў хаце-чытальні, або сельсаветах—абавязак школы, хатніка.

г) Па IV групе. Па грамадазнаўству ў гэты час прапрацоўваецца тэма «Будаўніцтва сацыялізму і абарона краіны». Тут трэба прапрацаваць вынікі 1-й пяцігодкі і задачы 2-й пяцігодкі, задачы па пасеўкампаніі на 1933 год: 1) замацаваньне калгасаў, 2) асваеньне плошчы пасеву, 3) укараненьне агратэхнікі (апрацоўка глебы, сартаваньне, падрыхтоўка інвэнтару, падрыхтоўка і догляд каня, умацаваньне вытворчых брыгад), 4) арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне саўгасаў, калгасаў, выкананьне пляну сяўбы, стварэньне актыву, барацьба за павышэньне ўраджайнасьці, сацыялістычнае перавыхаваньне калгасьніка, барацьба з рвацтвам, кулацкімі ўплывамі, кулаком і яго агентурай.

Умацаваньне вытворчай брыгады; барацьба за сьвядомую сацыялістычную дысцыпліну; выхаваньне адказнасьці за становішча калгасу; мэтады сацыялістычнае працы: сацспаборніцтва, ударніцтва, буксір.

Трэба падкрэсьліць, што пралетарыят нашай краіны паказаў прыклад геразму і самаадданасьці ў часе Кастрычніка і грамадзянскай вайны, змагаючыся супроць контррэволюцыі і інтэрвэнтаў. Зараз ён з усёй сілай і гераізмам змагаецца за выкананьне пяцігодкі, за пабудову сацыялізму. Пралетарыят змог перадаць свой энтузіязм, гатоўнасьць да змаганьня за сацыялізм свайму саюзьніку—працоўнаму сяляніну. Працоўныя сяляне—бедната і серадняки, праявілі энтузіязм у арганізацыі калгасаў і ліквідацыі кулацтва як клясы. Усё гэта правяла камуністычная партыя па заветах Леніна і пад кіраўніцтвам лепшага ленінца тав. Сталіна.

Грамадзкая работа вучняў павінна быць увязана з улікам працы, давядзеньнем вытворчых заданьняў, чыткаю газэт у брыгадах, працай на прышкольным вучастку.

Піянэрарганізацыі і ДСК у пасеўную кампанію змагаюцца за выкананьне ў тэрмін праграм, якасьць засваеньня матар'ялу, арганізаванасьць, дысцыпліну і якасьць усёй працы; за выкананьне дагавароў з саўгасамі, калгасамі і МТС.

Увесь першы канцэнтр павінен падрыхтавацца да сьвята «Першай баразны». У гэты момант трэба праверыць дагавары па спаборніцтву і ўдарніцтву, на лепшую падрыхтоўку і вынікі сяўбы.

Першую баразну правесьці разам з грамадзкасьцю (калгасам, с/с, хатай-чытальняй).

## Гутарка аб правядзеньні бальшавіцкай сяўбы першага году другой пяцігодкі ў I-II групах

Настаўнік, праводзячы падрыхтоўчую працу да веснавой сяўбы, павінен правесьці з дзецьмі ўводную гутарку аб пасеўнай кампаніі.

— Дзеці, мы з вамі сёньня пагутарым аб тым, як мы будзем праводзіць бальшавіцкі сеў у сваёй групе, школе.

Хто з вас ведае, якая гэта наступае бальшавіцкая веснавая сяўба?

На гэта пытаньне адказваюць вучні II групы, а ў I групе гаворыць сам настаўнік:

— Зараз наступае бальшавіцкая сяўба першага году другой пяцігодкі.

Хто з вас ведае, за які час савецкая ўлада, пад кіраўніцтвам партыі, выканала пяцігодку?

Дзеці адказваюць, што за 4 гады, але ім трэба давесьці, што пяцігадовы плян выкананы за чатыры гады рабочымі і працоўным сялянствам шляхам сацспаборніцтва і ўдарніцтва, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

— Што рабілася ў першую пяцігодку?

Дзеці адказваюць паасобку:

— У першую пяцігодку будаваліся фабрыкі, заводы, калгасы, саўгасы, МТС, электрычныя станцыі, машыны, чыгункі, аўтамабілі, с/г машыны, камбайны і г. д.; школы, дзіцячыя дамы, ясьлі і г. д.

Настаўнік падкрэсьлівае гэты матар'ял і кажа:

— Першая пяцігодка выканана ў чатыры гады таму, што пяцігодкай кіравала камуністычная партыя, якая зьяўляецца партыяй рабочых. Зараз партыя падсумавала вынікі першай пяцігодкі і намеціла плян другой пяцігодкі. У 1933 годзе ў Савецкім Саюзе будзе здабыта шмат чыгуну, жалеза, вугалю,

выпрацавана машын. Мы павінны нарыхтаваць харчовыя прадукты, адзеньне, абутак, пабудаваць новыя фабрыкі, чыгункі, школы, клюбы для рабочых і працоўных сялян. У калгасах, саўгасах—падвысіць ураджайнасьць, добра апрацоўваюць зямлю, угнойваць яе. Нагадаваць шмат кароў, сьвіней, птушак і г. д. Сабраць шмат хлеба, лёну, бульбы—для фабрык, чырвонай арміі і рабочых.

— Як-жа дзеці, трэба працаваць, каб усё гэта зрабіць?

Трэба працаваць арганізавана, дысцыплінавана, каб быў парадак ва ўсім. Каб кожны ведаў што ён робіць, за што адказвае. Каб кожны працаваў сумленна.

Камуністычная партыя і савецкая ўлада пастанавілі дабіцца ў сёлетнім годзе, каб саўгасы і калгасы своечасова правялі сяўбу, адсартавалі і пратруцілі насеньне. Каб падрыхтавалі да сяўбы прылады, машыны і трактары, арганізавалі брыгады калгасьнікаў, якія-б добра выканалі даручаную ім працу (ворыва, угнаеньне, засеў).

Былыя памешчыкі, гандляры, кулакі, папы выступаюць супроць пяцігодкі. Яны шкодзяць нашым калгасам, саўгасам, фабрыкам—бо хочуць вярнуць сабе фабрыкі, землі—каб жыць за кошт чужой працы. Гэтыя ворагі прабраліся на фабрыкі і заводы, у калгасы і там шкодзяць будаўніцтву, яны псуюць машыны, раскрадваюць дзяржаўную маёмасьць, каб вярнуць сабе багацьце і зноў жыць за кошт другіх. Камуністычная партыя, пад кіраўніцтвам т. Сталіна, змагаецца з гэтымі ворагамі. Кожны сьвядомы рабочы, камуніст, калгасьнік, бедняк і серадняк, аднаасобнік, таксама павінны весьці барацьбу з гэтымі ворагамі працоўных.

— Што-ж вы, вучні, павінны рабіць, каб дапамагчы выканаць усе пляны пасеўнай кампаніі?

Вы павінны здабыць веды, як лепш апрацаваць глебу, сартаваць насеньне, зрабіць плякаты і разьвесіць іх дома, каб бацькі змагаліся за ўраджай; наладзіць экскурсію ў калгас, калі будуць сартаваць насеньне і знаёміцца з машынамі. Умець пратраўляць насеньне, апрацоўваць глебу на гародзе калгасу і прышкольным вучастку. • Расказаць сваім бацькам, як ім трэба змагацца за ўраджай...

Вось намётка гутаркі аб пасеўнай кампаніі ў першы год 2-й пяцігодкі. Настаўнік павінен ужыць усе захады, каб ілюстраванымі малюнкамі паказаць дасягненьні першай пяцігодкі. Гутарка павінна працягвацца ня больш 30 мінут. Трэба, каб праграмны матар'ял, які ўжываецца ў час яе, увязваўся з пасеўнай кампаніяй. Гэтую гутарку можна разьбіць на дзьве часткі, каб лепш засвоіць матар'ял.

Неабходна ў канцы гутаркі даць наступныя пытаньні: у колькі гадоў выканалі пяцігодку? Што мы пабудавалі ў сваім горадзе, калгасе, саўгасе за пяцігодку? Навошта нам пяцігадовы плян?

Як нашы ворагі і капіталісты за межамі адносяцца да пяцігодкі? Што яны кажуць зараз аб пяцігодцы? (тут настаўніку трэба даць тлумачэньні, ускрыўшы міжнародны характар пяцігодкі). Што трэба рабіць, каб атрымаць лепшы ўраджай?

Падрыхтаваць мастацкі матар'ял і выступіць з групай на сьвята «Першай баразны».

У III і IV групах гутарку трэба будаваць па наступнай схэме:

1. Як саветы змагаюцца за пяцігадовы плян? Выкананьне пляну прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

2. Вынікі першай пяцігодкі параўнаць з даваенным часам: а) па прамысловасьці; б) па сельскай гаспадарцы; в) калектывізацыя; г) машынабудаўніцтва ў с/г; д) МТС, саўгасы.

3. Культурнае будаўніцтва. Лічбы пісьменнасьці. ВНУ, школы і тэхнікумы. Лік вучняў. Параўнаньне з галечаю пралетарыяту ў капіталістычных дзяржавах.

4. Ворагі пяцігодкі—кулакі ліквідуюцца як кляса на аснове суцэльнай калектывізацыі.

5. Задачы першага году пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы: а) сваячасовая падрыхтоўка да сяўбы; б) падвышэньне ўраджайнасьці; в) лепшая апрацоўка зямлі (асваеньне плошчы); г) укараненьне агратэхнікі; д) сацыялістычная арганізацыя працы; е) арганізацыя масы калгасьнікаў, аднаасобнікаў, беднякоў і серадня-коў на актыўны адпор клясаваму ворагу; ж) пралетарскае кіраўніцтва; з) роля МТС і саўгасаў.

Усе гэтыя вузлавыя пытаньні прапрацоўваюцца на працягу ўсіх тэм. Пасьля гутарак ужывайце пытаньні і замацоўвайце матар'ял: 1) Чаму наша сацбудаўніцтва мае міжнароднае значэньне? 2) Пры дапамозе чаго мы дабіліся выкананьня пляну пяцігодкі? (сацспаборніцтва і ўдарніцтва, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву камуністычнай партыі, на чале з т. Сталіным).

---

*М. Лазарэнка*

# Прышкольныя вучасткі ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы

Савецкі Саюз на падставе разьвіцьця саўгасаў і калгасаў і шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі ператварыўся з краіны дробнага і драбнейшага земляробства—у краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) і Савет Народных Камісараў СССР у сваёй пастанове ад 29-га верасьня м. г. «аб мерапры-

емствах па падвышэньні ўраджайнасьці» зазначылі, што «наступіў час, калі ад росту гаспадаркі ўшыркі, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна павярнуць да барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця». Падрыхтоўка і правядзеньне пасеўнай кампаніі 1933 г. павінна праходзіць пад знакам ажыцьцяўленьня гэтай пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР і пастановы сьнежаньскага Пленуму ЦК КП(б)Б аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб падвышэньні ўраджайнасьці, аб пляне і арганізацыі веснавой сяўбы 1933 г. і пастановы ЦК КП(б)Б і СНК БССР «аб мерапрыемствах па арганізацыі веснавой сяўбы», пад знакам барацьбы за высокі сацыялістычны ўраджай.

Сацыялістычная сельская гаспадарка СССР наогул, і БССР у прыватнасьці, падыходзіць да першага веснавога севу, другой пяцігодкі, апіраючыся на вялізарнейшыя заваёвы пасьпяхова выкананай першай пяцігодкі, на аграмадныя рашаючыя клясавыя зрухі ў краіне і на канчатковую перамогу сацыялізму на калгасных і саўгасных палёх.

Увесь мінулы год прайшоў пад знакам бязьлітаснай клясавай барацьбы вакол вясеньняга севу, сваячасовай ўборкі, зяблевай ўзахаты і асабліва збожжанарыхтовак. Найбольш яскравым адлюстраваньнем кулацкага супраціўленьня была спроба кулацтва арганізаваць сабатаж збожжанарыхтовак праз сваіх людзей, што пралезьлі ў саўгасы і калгасы і нават МТС.

Толькі апартуністы могуць думаць, што веснавая пасеўкампанія 1933 году будзе праходзіць пазаклясавай барацьбой.

Падрыхтоўка да веснавога севу патрабуе разгортваньня вялікай работы па арганізацыі вытворчасьці і працы ў калгасах— правільнай арганізацыі сталых вытворчых брыгад на 1933 год, правядзеньня ўнутрыкалгаснага пляніраваньня, мабілізацыі і падрыхтоўкі цягавай сілы, с/г. інвэнтару, мабілізацыі насенфондаў і г. д.

Не асьвятляючы ў гэтым артыкуле ўсіх гэтых галоўнейшых гаспадарча-палітычных пытаньняў, застановімся толькі на адным пытаньні, як вагару ўздыму ўраджайнасьці,—на пытаньні аўладаньня агратэхнікай.

Веснавы сеў павінен зьявіцца галоўнейшым этапам у барацьбе за ўздым ураджайнасьці. Палітэхнічная савецкая школа павінна прыняць актыўнейшы ўдзел у барацьбе за выкананьне дырэктыў Партыі і Ураду па падрыхтоўцы да веснавога севу, за ўздым ўраджайнасьці.

Школа павінна ажывіць работу прышкольнага вучастку, арганізаваўшы на ім вучэбна-дасьледчы вучастак.

## Задачы вучэбна-дасьледчага прышкольнага вучастку

Вучэбна-дасьледчы вучастак ШКМ павінен адыграваць вялікую ролю ў палітэхнічным навучаньні. Ён павінен зьявіцца біалёгічнай лябораторыяй—майстэрняй школы.

Вучэбна-дасьледчая работа на гэтым вучастку павінна быць так арганізавана, каб яна пашырала і замацоўвала сыстэматычныя веды па сельскай гаспадарцы, прыродазнаўству і хіміі. Пастаноўка даступных для дзіцячага ўзросту досьледаў, арганізацыя назіраньня за расьлінамі будзе садзейнічаць азнаямленьню школьнікаў з асноўнымі законамернасьцямі ў разьвіцьці арганізму расьлін, з асновамі агратэхнікі. «Тэхніка у пэрыод рэканструкцыі рашае ўсё» (Сталін). Аўладаць агратэхнікай—адна з асноўнейшых задач для далейшых посьпехаў сацыялістычнага земляробства, для падняцьця ўраджайнасьці. Школьны вучэбна-дасьледчы вучастак, у злучэньні з работай ў саўгасе, МТС і калгасе дапаможа школьнікам асмысьліць агратэхнічныя прыёмы падняцьця ўраджайнасьці.

У саўгасе, МТС, калгасе вучні знаёмяцца з шэрагам асноўных пытаньняў палітэхнічнага вывучэньня сельскай гаспадаркі і знаёмства з мэханізацыяй і электрыфікацыяй сельскай гаспадаркі, знаёмства з машынамі, арганізацыяй працы, знаёмства з севазваротамі і іншымі агратэхнічнымі мерапрыемствамі ў барацьбе за ўраджай, мерапрыемствамі па ўздыме сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Гэта павінна рабіць школа, выконваючы праграму працоўнага навучаньня, праз арганізацыю грамадзка-карыснай працы (у саўгасе, МТС, калгасе), падпарадкаванай вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

Вучэбна-дасьледчая работа школы на прышкольным вучастку павінна зьявіцца пэдагагічным сродкам, формай садзейнічаньня больш пасьпяховаму ажыцьцяўленьню актывізацыі мэтадаў палітэхнічнага навучаньня ў школе; павінна азнаёміць вучняў з рознымі галінамі сельскагаспадарчай вытворчасьці: паляводства, садоўніцтва, гародніцтва і інш.

Вучэбна-дасьледчы вучастак павінен стаць месцам працы вучняў, месцам працоўнага выхаваньня і атрыманьня навыкаў у аўладаньні прыладзьдзямі сельскагаспадарчай вытворчасьці, дапасаванымі да ўзросту дзяцей.

Вучэбна-дасьледчы вучастак зьяўляецца ступеньню ў аўладаньні навукай і тэхнікай буйнай сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасьці, бо поруч з работай на прышкольным вучастку арганізуюцца работы вучняў у калгасе, саўгасе, МТС—на розных сельскагаспадарчых машынах і прыладзьдзях.

Вакол школьнага вучастка, школа павінна арганізаваць аграпрапаганду аб неабходнасьці пабудовы буйнай сацыялістычнай машынізаванай сельскай гаспадаркі—адзінага сродку ў забесьпячэньні рацыянальнага земляробства высокім ўраджаем.

## Зьмест працы на вучэбна-дасьледчым вучастку

Зьмест работы на прышкольным вучастку павінен вызначацца паказаньнем ЦК Партыі аб падпарадкаваньні ўсей грамадзка-карыснай працы вучняў—вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

Вучэбна-дасьледчы вучастак, як адна з вучэбна-дапаможных баз школы, павінен садзейнічаць у прапрацоўцы актыўнымі мэтадамі адпаведных частак школьнай праграмы па прыродазнаўстве і працоўным навучаньні.

Выходзячы з гэтых установак, у адпаведнасьці са зьместам новых праграм палітэхнічнай школы, магчыма намеціць, прыкладна, наступныя часткі вучэбна-дасьледчага вучастку:

1) Вучэбна-дасьледчы агародны вучастак;

2) вучастак збожжавых, тэхнічных і кармавых культур (сюды адносяцца і пасевы новых культур);

3) ягаднік,

4) кветнік;

5) трусатнік;

6) птушнік;

7) абсталяваньне для назіраньня за пагодай і прыстасаваньні для прыватна-карысных птушак.

У гэтым артыкуле мы закранем толькі зьмест двух складаных частак вучэбна-дасьледчага вучастку: а) гародны вучастак і б) збожжавых, тэхнічных і кармавых культур.

### А. Гародны вучастак

Гародныя культуры асабліва падыходзяць для пастаноўкі школьных дасьледаў, дапамагаючых высьветліць асноўныя заканамернасьці ў разьвіцьці расьлін і ўсьвядоміць агратэхнічныя прыёмы падняцьця ўраджайнасьці.

Для вучняў малодшых груп ШКМ патрэбна закласьці дасьледы па назіраньні за разьвіцьцём расьлін на фоне сэзонных зьмен у прыродзе. Тут лепш за ўсё падабраць скорасьпелыя гародныя расьліны: рэдыс, рэпу, цукравы гарох, салату, цыбулю. За пасаджанымі расьлінамі дзеці вядуць назіраньні, робяць простыя калектыўныя запісы аб часе паяўленьня ўсходаў, кветак, пладоў. Разам з назіраньнямі і запісамі дзеці засушваюць гародныя расьліны ў розныя пэрыяды іх разьвіцьця.

Усё гэта дапамагае дзецям усьвядоміць асноўныя часткі расьлін: корань, сьцябло, ліст, кветку, плод. Вучні атрымліваюць першапачатковыя веды аб хваробах расьлін, аб шкодніках расьлін і кроках барацьбы з імі, аб гратэхнічных мерапрыемствах па падняцьці ўраджайнасьці.

### Прыклад—І. ЗНАЧЭНЬНЕ ПРАРЭДЖВАНЬНЯ

Пакінуўшы 2—3 радкі морквы без прарэджваньня ўсходаў у час уборкі ўраджаю, параўнаць яго з ураджаем такой-жа колькасьці радкоў нармова прарэджаных.

Параўнаньне ўтварыць па велічыні карэньняў і па іх агульнай вазе; даць пучок морквы на выстаўку з прарэджаных і пучок з непрарэджаных радкоў. Зрабіць вывад аб неабходнасьці сваячасовага прарэджваньня культур кораныплодаў у колгасе, саўгасе для падняцьця ўраджайнасьці і палепшаньня якасьці гародніны.

### Прыклад—2. ГЛЫБІНЯ ЗАСЕВУ НАСЕНЬНЯ

Прапанаваць вучням адлічыць дзьве порцыі па 100 штук насеньня гароху, як прыклад буйнога насеньня, і такую-ж колькасьць салаты як прыклад дробнага насеньня. Першую порцыю гароху і салаты (па 100 шт.) засеяць радкамі на гародзе ня глыбока, ледзь прысыпаючы зямлёй. Другую порцыю (па 100 шт.) засеяць на глыбіні 5 см. Няхай дзеці падлічаць, якая колькасьць ўсходаў атрымалася пры рознай глыбіні засеву. Назіраючы за ўсходамі вучні зробяць цікавыя вывады: буйное насеньне добра ўсходзіць пры больш глыбокім засеве, а пры няглыбокім вельмі часта падсыхае, склёўваецца птушкамі і не дае ўсходу. Наадварот, дробнае насеньне пры глыбокім засеве дае мала ўсходу і яго неабходна засяваць мялей.

### Прыклад—3. ЗНАЧЭНЬНЕ БАРАЦЬБЫ З ПУСТАЗЕЛЬЛЕМ

Заставіць 2—3 радкі кораньплодаў без праполкі, але зрабіць прарэджваньне ўсходу. Ураджай з няполатых параўнаць з ураджаем радкоў, якія праполаны. Пры назіраньні зьвярнуць увагу,— што расьце хутчэй—пустазельле ці кораньплод. Зрабіць вывад аб неабходнасьці рашучай барацьбы з пустазельлем, як аднэй з галоўных задач уздыму ўраджайнасьці ў саўгасах і калгасах. Падкрэсьліць перавагу буйнай сацыялістычнай гаспадаркі ў гэтай барацьбе перад дробнай індывідуальнай гаспадаркай (замена ручной полкі—машынай і г. д.).

### Прыклад—4. ПАДРЫХТОЎКА ГЛЕБЫ ДА ЗАСЕВУ

Тут патрэбна высьветліць наступнае:

а) уплыў асеньняга і веснавога ворыва на ўздым ураджайнасьці;

б) высьветліць лепшыя спосабы пасадкі гародніны—на градах, грэбенях, роўным месцы;

в) высьветліць значэньне розных спосабаў апрацоўкі глебы пад кармавыя культуры; пажніўнае лушчэньне і асеньняе ворыва на поўную глыбіню, зяблівае ворыва, падвойнае ворыва вясной, ворыва ўвосень і г. д.

### Прыклад—5. УГНАЕНЬНЕ ГЛЕБЫ

а) Высьветліць уплыў розных норм гною на ўраджай;

б) уплыў тэрміну задзелкі гною;

в) высьветліць уплыў на ўраджай торпу, кампосту і іншых арганічных угнаеньняў;

г) параўнаць уплыў гною, яго камбінацыі з мінэральнымі ўгнаеньнямі і поўнага мінэральнага ўгнаеньня пад капусту, збожжавыя, тэхнічныя, кармавыя культуры.

1) гной, 2) навоз + P + N + K, 3) P + N + K, 4) без угнаеньня.

д) параўнаць уплыў калільнай солі, яе камбінацыі з супэрфасфатам і поўнага мінэральнага ўгнаеньня пад бульбу.

Схэма досьледаў:

1) Без угнаеньня, 2) калільная соль, 3) калільная соль+супэрфасфат, 4) калільная соль+супэрфасфат+сэркава-кіслы амоній, 5) попел, 6) K + N + P.

Высьветліць, якіх угнаеньняў патрабуе глеба школьнага вучастку.

Схэма досьледаў:

1) Азот; 2) P; 3) K; 4) без угнаеньня, 5) N + P + K, 6) P + 6, 7) N + P, 8) K + P.

### Прыклад 6

Высьветліць ўплыў тэрміну засеву на ўздым ураджайнасьці. Эфэктыўнасьць раньняга севу.

### Прыклад 7

Уплыў шматпольнага севазвароту на ўздым ўраджайнасьці.

## Б. Вучастак збожжавых, тэхнічных і кармавых культур

Задача гэтага вучастку пазнаёміць вучняў старэйшых груп з досьледамі, дапамагаючымі ўсьведаміць агратэхнічныя прыёмы барацьбы за ўздым ураджайнасьці ў саўгасах і калгасах, прывучыць дзяцей весьці догляд за расьлінамі, пазнаёміць іх з лепшымі гатункамі збожжавых, тэхнічных і кармавых культур.

Прыкладна школа павінна на гэтым вучастку прарабіць наступнае:

1. Арганізаваць на прышкольным вучастку правільны паказальны шматпольны севазварот, найбольш адпавядаючы правільнаму севазвароту таго калгасу, з якім школа заключыла ўмову.

2. Зрабіць на прышкольным вучастку апрацоўку глебы і пасеў, згодна запатрабаваньняў агратэхнікі.

3. Увесьці на прышкольным вучастку пасеў лепшых гатункаў культур: збожжавых, тэхнічных, кармавых і новых.

4. Пасеў зрабіць радковы, адсартаваным і пратручаным, высокай гаспадарчай якасьці насеньнем.

5. Закласьці на прышкольным вучастку досьледы на ўнясеньне мінэральных угнаеньняў, вапнаваньне глебы, лепшага скарыстаньня торпу, гною, лубінізацыі. Шырока азнаёміць калгасьнікаў з вынікамі дзейнічаньня ўгнаеньня на ўздым ураджайнасьці.

6. Правесьці на прышкольным вучастку дасканалую барацьбу з шкоднікамі і хваробамі сельскагаспадарчых расьлін, атрымліваючы па гэтых пытаньнях кансультацыю ад бліжэйшай станцыі аховы расьлін і мясцовага агранома.

7. Уборку ўраджаю зрабіць у належны тэрмін і бяз страт.

8. Усе агратэхнічныя дасягненьні школы на прышкольным вучастку патрэбна шырока папулярызаваць сярод акаляючых школу саўгасаў і калгасаў і асьвятліць у нізавым мясцовым і цэнтральным друку.

Калгас, да якога прымацавана школа, павінен апрацаваць глебу школьнага вучастку, зрабіць пасеў і ўборку, забясьпечыць школу патрэбнай колькасьцю гатунковага насеньня і ўгнаеньня. Пасьля рэалізацыі ўраджаю, школа зварачвае калгасу адпушчаную ім колькасьць насеньня, аплачвае кошт угнаеньня і забясьпечвае сябе насеньнем на будучы год.

Уся праца школы, праводзімая на прышкольным вучастку, павінна быць цесна ўвязана з выкананьнем праграмы працоўнага навучаньня і падпарадкавана вучэбна-выхаваўчым мэтам школы.

З ліку збожжавых культур, на гэтым вучастку патрэбна засеяць жыта, пшаніцу, авёс, ячмень і інш. Вучні вядуць назіраньні за разьвіцьцём гэтых расьлін, адзначаючы ў дзёньніку час пасеву, зьяўленьне ўсходу, выкаласаваньне, пасьпяваньне. Асабліва цікава засеяць некалькі гатункаў асноўных культур, напрыклад, лепшыя гатункі аўса, пшаніцы і г. д. Вучні на жывым прыкладзе павінны ўбачыць магутнае значэньне засеву гатунковым насеньнем, у барацьбе за ўздым сацыялістычнага ўраджаю.

З тэхнічных культур належыць засеяць, у залежнасьці ад напрамку раёну, дзе знаходзіцца школьны вучастак,—лён, каноплі і інш.

Неабходна мець на вучастку і галоўнейшыя кармавыя культуры, як базу для разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Патрэбна засеяць гатункі кармавых коранаплодаў: кармавы бурак, турнэпс, бручка, морква і інш. культуры для сілосу. Асаблівую ўвагу патрэбна зьвярнуць на тыя культуры, якія маюць найбольшае значэньне для акаляючых саўгасаў і калгасаў.

Надзвычайна цікавым разьдзелам вучэбна-дасьледчага вучастку павінны зьявіцца досьледы з новымі культурамі: соя, кармавая ці ліставая капуста, земляная груша, доньнік, люцэрна і г. д. Насеньне новых культур магчыма набыць праз мясцовыя с/г. дасьледчыя станцыі.

## III. Арганізацыя вучэбна-дасьледчага вучастку

Праграма на працоўнае навучаньне ў палітэхнічнай школе вызначае мала часу, а таму неабходна, каб вучастак знаходзіўся блізка каля школы. Ён (вучастак) павінен добра асьвятляцца сонцам і не зацяняцца дрэвамі, альбо высокімі будынкамі. На ўсім вучэбна-дасьледчым вучастку павінна быць аднолькавая глебе (сугліністая, супяшчаная і г. д.), аднолькавае ўгнаеньне і апрацоўка глебы, не павінна быць нізін і ўзгоркаў, разьёмных і звальных баразён, якія заўсёды робяць уплыў на рост і разьвіцьцё расьлін.

У тым выпадку, калі няма магчымасьці выбраць роўны вучастак і месца мае схіл, неабходна распалагаць дасьледчыя дзялянкі ўдоўж, а не папярак схілу. Разьмер вучэбна-дасьледчага вучастку павінен адпавядаць сіле і ўзросту вучняў кожнай групы.

Пры забесьпячэньні вучастку адпаведным дзіцячым с-гаспадарчым інвэнтаром раіцца школе кіравацца кнігамі **А. і Н. Под'япольских—«Орудия сельскохозяйственного труда для детей и подростков».**

Уся праца вучняў на вучэбна-дасьледчым вучастку праводзіцца ў гадзіны працоўнага навучаньня і ўключаецца ў агульнашкольны расклад заняткаў. Перад пачаткам работы неабходна зрабіць мэдагляд вучняў, які павінен высьветліць, каго з вучняў неабходна аслабаніць ад фізычнай працы на вучастку па стану яго здароўя.

Перш за ўсё, усю работу патрэбна арганізаваць так, каб вучні сапраўды палітэхнічна вывучалі і ўсьвядомілі сацыялістычную сельскагаспадарчую вытворчасьць і азнаёміліся з прынцыпамі сацыялістычнай арганізацыі працы ў саўгасе, калгасе, фабрыцы, заводзе.

Арганізуючы дасьледчую работу на вучастку і даючы кожнай брыгадзе па аднэй ці некалькі дасьледчых тэм, патрэбна імкнуцца, каб кожная брыгада мела ня менш аднэй культуры кожнага поля севазвароту вучастка. Работа на вучэбна-дасьледчым вучастку, разам з правядзеньнем дасьледчай працы, ставіць задачу навучыць кожнага вучня правільным працоўным прыёмам, выхаваць у яго арганізатарскую ініцыятыву, імкненьне да рацыяналізатарства, да няўхільнага ўдасканаленьня работы сваёй і ўсяго калектыву і да поўнага аўладаньня тэхнікай работы.

---

# АЎЛАДАЕМ ТЭХНІКАЙ ПЭДАГАГІЧНАГА ПРАЦЭСУ

*П. О. Афанасьеў*

## Як падрыхтавацца да ўрока*)

### Настаўнік адказвае за якасьць свае работы

У адпаведнасьці з пастановай ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе (ад 5/IX—31 г.), СНК РСФСР ад 25/X—31 г. выносіць пастанову «Аб устанаўленьні адказнасьці кожнага настаўніка за якасьць школьнай работы ў сваёй групе, па сваёй дысцыпліне».

Клапоцячыся аб рэалізацыі гэтае пастановы Саўнаркома, Наркамасьветы выдаў спэцыяльную інструкцыю, прапануючы АНА і загадчыкам школамі правесьці ў жыцьцё цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія павялі-б да павышэньня якасьці школьнае работы. У ліку гэтых мерапрыемстваў вызначана і такое, якое накіравана на палепшаньне якасьці кожнага паасобнага ўрока. Вурок ня можа быць добра праведзены, калі пэдагог не падрыхтаваўся да яго як сьлед. А сумотная рэчаіснасьць такая, што настаўнік вельмі часта прыходзіць на ўрок, ня ведаючы загадзя, з чаго пачаць і чым яго закончыць. Вось Наркамасьветы і прапануе АНА і загадчыкам школамі «забясьпечыць пільную падрыхтоўку пэдагога да ўрока, як у сэнсе плянаваньня зьместу яго, так і з боку сваячасовай падрыхтоўкі навучальных дапаможнікаў, прылад, матар'ялаў для адказаў і г. д. Пэдагог павінен мець распрацоўкі асобных тэм на кожны ўрок і мэтадычныя распрацоўкі па асобных частак курса. Увесьці дакладны запіс рабочага дня пэдагога ў яго рабочых дзёньніках».

«Рыхтавацца да ўрока — гэта цэлая навука», гаворыць тав. Эпштэйн у сваім артыкуле, у газэце «За коммунистическое просвещение» (жнівень 1932 г.): «Шматлікія зрывы занятак, натрата часу і сіл адбываюцца ў значнай ступені ад таго, што настаўнік ня ўмее рыхтавацца да ўрока, ад таго, што ён недаацэньвае значэньня папярэдняй мэтадычнай і арганізацыйнай прапрацоўкі кожных занятак паасобку».

Ітак, калі настаўнік ня хоча быць вольным альбо нявольным «зрыўшчыкам» вучобы, ён павінен мець за правіла—пільна рых-

*) Праца перакладзена з расійскага выданьня НКА РСФСР за 1932 год— „Учпедгиз", бібліятэка „В помощь начинающему учителю".

тавацца да кожнага ўроку, а не запакойваць сябе тым, што прадстаўлены вытворчы плян работы на трымэстр альбо нават на год. Вытворча-вучэбны плян на пэўны пэрыяд вучэбнага году ні ў якім разе ня можа замяніць сабою пляну на кожны ўрок. Не замяняць пляну на кожны асобны ўрок і падэкадныя рабочыя пляны. Гэтыя рабочыя пляны толькі азначаюць:

а) аб'ём агульна-адукацыйных ведаў па кожнаму прадмету з улікам ступені падрыхтаванасьці вучняў і іх бюджэту часу;

б) мэтады работы, усямерна актывізаваныя; сувязь вучэбнай работы з вучэбнай працай і грамадзкай работай. Бязумоўна, плян кожнага ўрока распрацоўваецца на аснове гэтага рабочага пляну, але будзе адрозьнівацца ад яго тым, што паўрочны плян сугуба-канкрэтызаваны і насычаны ўпаўне акрэсьленым матар'ялам.

Уважлівыя адносіны да распрацоўкі паўрочнага пляну ў парадку падрыхтоўкі выкладчыка да ўрока тым больш неабходны, што за кожны праведзены ўрок, які пасоўвае вучобу і падвышае агульную яе якасьць альбо зьнішчае апошнюю, выкладчык нясе пэрсанальную адказнасьць, згодна пастановы ЦК (...«устанавіць ва ўсіх зьвеньнях народнай асьветы строгую, выключаючую абязьлічку адказнасьць за даручаную работу»).

## З якіх момантаў складаецца ўрок.

Тры асноўных элемэнты ў іх правільных суадносінах адзін з адным складаюць зьмест уроку і вызначаюць тую альбо іншую ступень яго прадукцыйнасьці: 1) матар'ял, які належыць прапрацаваць; 2) настаўнік, арганізуючы гэты матар'ял; 3) вучні, якія засвойваюць даны матар'ял.

Матар'ял вызначаецца праграмай, але вызначаецца ён, так сказаць, тыполёгічна—для школы, пэўнага тыпу. Гэты матар'ял павінен ажыць пад рукамі настаўніка, які працуе ў зусім канкрэтных умовах з пэўнай групай навучаючыхся. У пэдагагічным працэсе вучэбны матар'ял павінен пераўтварыцца ў веды вучняў і ў навыкі карыстацца гэтымі ведамі ў пэўных умовах.

Правільныя суадносіны гэтых трох момантаў заключаюцца ў тым, што матар'ял не разумеецца—як мёртвая, мэханічная групка ведаў, якую па кавалачках павінен браць для сваіх урокаў настаўнік. Настаўнік не раб матар'ялу, а яго гаспадар (значыць, як-жа добра ён павінен аўладаць ім, каб распараджацца, як гаспадар!). Вучні ня губкі, якія ўсасваюць у сябе прыпадненсены ім матар'ял, які-б ён ня быў і пры якіх-бы ўмовах ён ім не падаваўся. Матар'ял, настаўнік і вучань—зьліваюцца ў адно арганічнае адзінства ў працэсе ўрока: матар'ял апрацаваны настаўнікам, які прымае пад увагу ступень падрыхтаванасьці да яго ўспрыяцьця вучнямі і які ўзбуджае адпаведны апэтыт (патрэбу, інтарэс) да яго засваеньня. Цэнтральная фігура ў гэтым працэсе пе-

ратварэньня матар'ялу ў веды, навыкі вучняў—настаўнік. Удача, альбо няўдача яго ў самым працэсе ў вельмі вялікай ступені залежыць ад падрыхтоўкі настаўніка да правядзеньня гэтага ўрока.

## З чаго складаецца падрыхтоўка да ўрока

Падрыхтоўка да ўрока якраз і будзе заключацца ў правільнай расстаноўцы тых элемэнтаў, з арганічнага адзінства якіх і складаецца ўрок. Рыхтуючыся да ўроку, пэдагог павінен: 1) вызначыць аб'ём матар'ялу, які належыць да прапрацоўкі, прапрацаваць яго ў канкрэтных умовах работы ў данай групе; 2) намеціць мэтады работы з вучнямі па данаму канкрэтнаму матар'ялу; 3) намеціць, што менавіта павінен засвоіць вучань (да якіх вынікаў павінен прывесьці ўрок); 4) намеціць шляхі замацаваньня прапрацаванага.

1. Пытаньне дазіроўкі матар'ялу—важнейшае пытаньне. Няправільна разьмеркаваўшы матар'ял, настаўнік, вымушаны вельмі часта ў канцы пэўнага вучэбнага пэрыяду скарачаць альбо зусім выпускаць частку матар'ялу. Складаньне рабочых плянаў у значнай меры гарантыруе больш альбо менш правільнае разьмеркаваньне матар'ялу па вучэбных пэрыядах (паўгодзьдзе, чвэртка, дэкада). На аснове гэтага рабочага пляну, настаўнік дазіруе матар'ял паўрочна. Вызначаючы аб'ём матар'ялу на ўрок, настаўнік павінен яшчэ больш дэталёва разьмеркаваць гэты матар'ял у межах самога ўроку. Нявопытны настаўнік адразу комкае ўвесь матар'ял у пачатку ўроку, а астатні час, ня ведаючы чым яго запоўніць—топчыцца на месцы. Бывае і наадварот: зацягне пачатак уроку, і, бачачы, што ўрок канчаецца—пачынае комкаць канец яго. Патрэбна так разьмеркаваць матар'ял, каб часткі яго раўнамерна разьмеркаваліся паміж часткамі ўрока.

Ілюструем гэта прыкладам урока па расійскай мове. Матар'ялам для ўрока служыць, скажам, знаёмства з сказам у III групе. Урок разьлічаны на 45 мінут, які разьмяркоўваем так: 5 мінут устаноўка на заняткі (аб чым глядзі далей), арганізацыя матар'ялу для нагляданьняў (запіс прыкладаў)—7 мінут, аналіз прыкладаў і вывад—20 мінут, практыкаваньне на замацаваньне вываду (прыдумваньне вучнямі ўласных прыкладаў і запіс іх)—8 мінут, абагульненьне ўсёй праробленай за ўрок работы—5 мінут.

Вызначыўшы аб'ём матар'ялу на ўрок і разьмеркаваўшы яго па асобных момантах работы, неабходна гэты матар'ял мэтадычна апрацаваць, г. зн. прыдумаць зьмест матар'ялу з боку яго ўкладаньня, прадумаць і загадзя намеціць фармулёўкі, каб не зрабіць пагрэшнасьці ў вывадах. Прыстасоўваючы гэта да памянёнай тэмы па расійскай мове (знаёмства са сказам), патрэбна зрабіць наступнае: у першым моманце—арганізацыі матар'ялаў для на-

зіраньняў—неабходна падабраць такі матар'ял, які прадстаўляўбы з сябе зьвязное цэлае, а не разрозьненыя прыклады на правіла; каб прыклады былі выказаны ў такой славеснай форме, якая лягчэй-бы вяла да патрэбных вывадаў (значыць ва ўзятых прыкладах патрэбна пазбавіцца ўсяго таго, што адхіляла-б ад вывадаў). У вывадзе з назіраньняў патрэбна прадугледзіць некалькі магчымых фармулёвак, але загадзя трэба прадумаць, каб ні адна з іх ня мела разыходзін з навуковымі патрабаваньнямі да граматычнага матар'ялу.

2. Вызначыўшы і апрацаваўшы такім парадкам матар'ял, выкладчык пераходзіць да наступнага моманту ў сваёй падрыхтоўцы да ўроку—да прадумваньня самой мэтодыкі работы ў пляне па данаму канкрэтнаму матар'ялу.

Раней за ўсё выкладчык павінен паклапаціцца аб тым, каб дзецям была зразумела сувязь данага ўроку з папярэднім: ён павінен, значыцца, двума-трыма пытаньнямі перакінуць мост ад распрацаванай на папярэднім уроку тэмы да тэмы цяперашняга ўроку. Гэты момант уроку зьліваецца з момантам **устаноўкі вучняў на работу,** альбо—тое-ж самае—на асмысьленьне імі **мэтавай устаноўкі ўроку.**

На жаль, у школьнай практыцы амаль адсутнічае гэты момант у вуроку. Вучні ня ўводзяцца ў разуменьне мэты і зьместу будучага ўроку. Урокі проста пачынаюцца з загаду: «дастаньце сшыткі, кнігі» і г. д. «Адкрыйце такую-та старонку». «Будзем чытаць наступнае». Іншы раз гавораць так: «Зараз будзем займацца граматыкай; дастаньце кнігі, сшыткі»... Між тым, увесьці вучня ў разуменьне таго, чым менавіта з галіны данага прадмету будзем займацца і якія гэта адносіны мае да папярэдніх занятак тым-жа прадметам—вельмі важна. Вучні ня будуць ісьці на будучую работу з зачыненымі вачмі (гэта справа настаўніка—ведаць чым будзем займацца) і ў гэтым выпадку адчуюць і сябе (а ня толькі настаўніка) адказнымі за будучую работу і за тыя вынікі, да якіх павінна прывесьці работа.

Як-жа ўвесьці вучняў у разуменьне мэтавай устаноўкі ўрока і зьместу будучых занятак? Пакажам зноў-такі на прыкладзе з расійскай мовы. Тэма—«Просты пашыраны сказ» (у III групе) Раней распрацаваны просты непашыраны сказ. Пачынаюць вурок. Настаўнік гаворыць: «Чым мы займаліся па граматыцы ў мінулы раз? Што мы даведаліся аб сказе? (ён складаецца з дзейніка і выказьніка). А што, рабяты, у нашай мове толькі і ўжываюцца такія кароткія сказы, якія складаюцца з двух слоў?—Не, часьцей наша мова складаецца з многіх слоў, якія ўтвараюць сказ. Дык вось, рабяты, сёньня мы зоймемся разглядам такіх сказаў, якія складаюцца ня толькі з дзейніка і выказьніка, але з многіх іншых слоў. А нашто нам патрэбна ведаць аб сказах, як мы і для чаго ўводзім у сказ словы апрача дзейніка і выказьніка? Бярэм такія прыклады»... (і г. д., г. зн. ідзе ўжо прапрацоўка вызначанай тэмы).

Устанавіўшы сувязь вурока з папярэдняй работай, вызначыўшы зьмест будучага ўрока, настаўнік павінен прадумаць самы працэс вурока, павінен акрэсьліць, якімі шляхамі ён павядзе вучняў у разгортваньні зьместу тэмы ўрока; ён павінен вызначыць, з якіх момантаў складаецца яго ўласная работа і работа вучняў.

У адносінах вучняў пэдагог павінен прадуглядзіць, які матар'ял ён павінен прад'яўляць сам, у якой форме (раскажа альбо пакажа, прапануе ў форме заданьня—якога менавіта).

Напрыклад, у нашым вуроку па расійскай мове настаўнік вызначае, што асноўныя прыклады для назіраньняў над пашыранымі сказамі дае ён сам (пры чым гэтыя прыклады падрыхтуе загадзя) і прадыктуе іх для запісу на дошцы і ў вучнёўскіх сшытках.

У адносінах вучняў пэдагог павінен прадугледзіць, якую частку матар'яла можна будзе здабыць ад іх і ў якой менавіта форме (альбо ў форме прыдуманых імі самімі прыкладаў альбо ў форме ўзятых прыкладаў з кнігі). Затым, павінен прадугледзіць далейшую работу ў разгортваньні тэмы і зьместу ўрока: у чым яна павінна праявіцца (ці толькі ў адказах на задаваемыя пытаньні альбо ў рашэньні пастаўленых заданьняў), як павінна ўвязвацца ў розных яе момантах (у адказах на пытаньні і ва ўласных пытаньнях настаўніка ў рашэньні заданьняў, у прывядзеньні прыкладаў).

Потым тут-жа пэдагог павінен прадумаць, як будзе весьціся работа вучняў у розныя моманты на працягу ўрока: ці будуць працаваць супольна ўсёй групай, альбо па зьвеньнях, можа нават па-брыгадна ці індывідуальна.

Так, у нашым прыкладзе вучні працуюць супольна, усёй групай (калі разглядаюць запісаныя прыклады і робяць назіраньні над тым, якімі словамі, апрача дзейніка і выказьніка павялічаны сказ і для чаго аказаліся патрэбнымі тыя альбо іншыя паясьняльныя словы). Калі-ж яны павінны прадумаць сказы з акрэсьленым тыпам паясьняльных слоў (якія маюць адносіны толькі да выказьніка альбо дзейніка), дык група можа разьбіцца на зьвеньні: адны прыдумваюць сказы з адным тыпам паясьняльных слоў, другія з другім. Нарэшце, калі дадзена паверачная работа, як засвоены прыём пашырэньня сказу—вучні працуюць індывідуальна.

Далей пэдагог вызначае, да якіх вынікаў павінен прывесьці надрыхтаваны ўрок: а) у сэнсе аўладаньня ведамі і б) у сэнсе аўладаньня навыкамі.

Зьвернемся ізноў да нашага прыкладу. Настаўнік вызначае, што ўрок павінен прывесьці да ўцямленьня будовы простага пашыранага сказу, г. зн. да веданьня таго, што ў сказе могуць быць словы, якія паясьняюць дзейнік, і словы, што паясьняюць выказьнік (у далейшым уроку яны даведваюцца, што паясьняльныя словы могуць адносіцца адно да другога). У сэнсе навыкаў,

урок павінен прывесьці да ўменьня будаваць пашыраныя сказы, уводзячы словы, якія паясьнялі-б дзейнік, і словы, якія-б паясьнялі выказьнік.

Цяпер пэдагогу застаецца вызначыць тыя шляхі, якія замацавалі-б прапрацаваную тэму. Гэта замацаваньне ідзе зноў такі ў двух напрамках: а) у напрамку замацаваньня **ведаў**, што атрыманы на ўроку і б) у замацаваньні **навыкаў**, што ператвараюць гэтыя веды ў практыку.

У першым напрамку работа павінна завяршыцца вядомым **вывадам** (правілам, законам). Бязумоўна, вывад гэты не даецца пэдагогам у гатовым выглядзе, не навязваецца як нешта догматычна дадзенае, а атрымліваецца ў выніку ўсёй работы на працягу ўрока, пры чым самую фармулёўку вываду, пры наводзячых запытаньнях настаўніка, па-магчымасьці, даюць вучні самі: ва ўсякім разе зьмест вываду, асноўныя думкі даюць вучні, а настаўнік толькі дапамагае ў рэдактаваньні вываду. З прычыны важнасьці гэтага моманту працы, настаўнік загадзя павінен прыгатаваць прыкладную фармулёўку вываду, да якой ён павінен прывесьці дзяцей. Калі ў яго ня будзе гэтай прыкладнай фармулёўкі, дык ён будзе «плаваць» у пастаноўцы наводзячых пытаньняў і ўрэшце можа прыняць такую фармулёўку, якая ня будзе адпавядаць навуковым запатрабаваньням, але настаўніку непатрэбна і навязваць абавязковай сваёй фармулёўкі і тэй менавіта рэдакцыі, у якой яна загатавана: майстэрства настаўніка і будзе заключацца ў тым, што ён незаўважна, умелымі пытаньнямі падвядзе да патрэбнага вываду, няхай сабе рэдакцыйна некалькі і не такога, які вызначаны ім раней. Ітак, падсумаваньне назіраньняў, зробленых над матар'яламі на працягу ўрока, пры ўмелай пастаноўцы наводзячых пытаньняў—вось той шлях, які прывядзе да патрэбнага вываду, замацоўваючаму веды, што атрыманы ў выніку праведзенага ўрока.

Замацаваньне здабытых ведаў ў **навыках** будуецца на мэтазгодна падабраных практыкаваньнях. Умелы падбор патрэбных практыкаваньняў вырашае посьпех справы. У чым-жа майстэрства падбору практыкаваньняў? Раней за ўсё, практыкаваньні павінны біць у пэўную мэту, а не расплывацца ў сваім зьмесьце: у гэтым разе трэба ставіць не сумарныя практыкаваньні, а расчляняныя. У нашым прыкладзе з пашыраным сказам гэта будзе азначаць—паставіць спачатку практыкаваньні на падборы слоў, якія паясьняюць толькі дзейнік, і якія ўказваюць, які дзейнічаючы прадмет; далей—практыкаваньні ў падборы слоў, што паясьняюць толькі выказьнік і пры тым паказваюць, дзе адбываецца дзеяньне, потым—як яно адбываецца, на што накіроўваецца дзеяньне і г. д. Шляхам такога расчляненьня практыкаваньняў мы дасягаем моцнага замацаваньня здабываемых ведаў, у той час, як пры расплыўчатай агульнай пастаноўцы практыкаваньняў не дасягаецца такой чоткасьці.

## Як абставіць вурок

Агульны малюнак вядзеньня ўрока, які можна наглядаць у большасьці выпадкаў, заключаецца ў тым, што ў якасьці адзінае крыніцы, адкуль і настаўнік, і вучні чэрпаюць веды альбо бяруць матар'ял для практыкаваньняў, зьяўляецца падручнік. Бязумоўна, добра распрацаваны падручнік—надзвычайна важны дапаможнік і для вучня і для настаўніка (у асаблівасьці для малавопытнага настаўніка). Але настаўнік павінен умець прыцягнуць да вучэбнага працэсу і разнаітны іншы дапаможны матар'ял. Чым лепш зможа ён абставіць урок усялякімі дапаможнікамі, тым больш выграе вучэбны працэс у сваім выніку.

Адрозьніваюць дваякага роду матар'ял, які магчыма прыцягнуць да вучэбнага працэсу: 1) наглядныя дапаможнікі, 2) дыдактычны матар'ял да ўроку.

У лік наглядных дапаможнікаў уваходзяць: карты, малюнкі, калекцыі рознага роду, гэрбары, прылады для вопытаў і г. д. На розных вуроках будуць ўжывацца, гледзячы па тэме і зьместу ўрока, розныя дапаможнікі. Трэба ўнікаць няўмелага скарыстаньня дапаможніка. Часта бывае, што які-небудзь малюнак, скарыстаны на ўроку, потым застаецца на сьцяне ўклясе вельмі доўгі час, мазолячы вочы вучням і прытупляючы вастрыню ўспрыманьня, калі да яго яшчэ раз прыдзецца зьвярнуцца. Бывае і так, што на адным вуроку настаўнік імкнецца выкарыстаць магчыма большую колькасьць дапаможнікаў, ледзьве ня ўсё, што маюцца ў яго распараджэньні. Зноў-такі, замест згуртаваньня ўвагі на пытаньні можа атрымацца расьсейваньне яе.

Але вось пытаньне—адкуль узяць наглядныя дамапожнікі, калі школа не забясьпечана імі? Няўжо-ж абмежавацца ў гэтым выпадку кляснай дошкай і крэйдай? Усялякі вынаходлівы настаўнік зможа абставіць вурок і «самаробнымі» дапаможнікамі: малюнак ён зможа дастаць з якога-небудзь ілюстраванага часопісу (нават старога), альбо з старой кнігі; гэрбары таксама можа прыгатаваць, прыцягваючы да гэтай работы і вучняў; у іншым выпадку можа выкарыстаць газэты і г. д.

Што тычыцца **дыдактычнага матар'ялу**, то па самой сваёй прыродзе ён ёсьць тварэньне вучнёўскіх рук. Плякаты, дыяграмы, розныя зводкі, усё гэта атрымліваецца ў працэсе прапрацоўкі матар'ялу на ўроку альбо на шэрагу ўрокаў. Возьмем прыклад з абучэньня пісьменнасьці: у дапаўненьне да лемантара трэба здабыць матар'ял для чытаньня тых слоў альбо фраз, якія ўтвараюцца ў працэсе жывой кляснай гутаркі. Дзеці, пры дапамозе настаўніка, утвараюць такі самаробны дапаможнік: на лісточках паперы робяць рысункі па тэме гутаркі («Дзеці ў лесе» напрыкл.) і адпаведны подпіс пад імі друкаванымі літарамі. Альбо такі дапаможнік: бяруць пераплёт старой кнігі альбо тоўсты кардон; наклейваюць істужкі тоўстай паперы альбо старога кардону, утвараючы радкі для ўкладваньня літар; над гэтым

радком пакідаецца больш шырокая істужка для ўкладаньня невялікіх малюнкаў. Карыстаючыся гэтым дапаможнікам, дзеці складаюць з разразных літар (якія, да рэчы, таксама могуць падрыхтаваць самі, вырэзваючы іх з буйнага шрыфту газэтных аб'вестак і наклейваючы на тоўстую паперу) патрэбныя словы і фразы, суправаджаючы іх ілюстрацыяй, шляхам устаўкі над імі адпаведных малюнкаў, таксама выразаных з старых часопісаў альбо з старых кніг (якія ня ўжываюцца ў школе, напрыклад, устарэўшых хрыстаматый,—у якіх спатыкаюцца рысункі). Па граматыцы могуць быць зроблены вучнямі розныя табліцы (скланеньняў, спражэньняў, цяжкіх артаграфічных выпадкаў і т. п.).

## Як актывізаваць вурок

Пасьля таго, як вурок, абстаўлены наглядными дапаможнікамі і дыдактычным матар'ялам, настаўнік дапамагае актыўнасьці вучняў у самым ходзе работы. Аднак, ён павінен асабліва прадумаць усе мэтадычныя прыёмы, якімі магчыма было-б павялічыць актыўнасьць навучаючыхся ў вучэбным працэсе.

Чыста зьнешнім паказальнікам актыўнасьці альбо неактыўнасьці клясы зьяўляецца ступень удзелу яе, як цэлага калектыву, у рабоце. На жаль, звычайным малюнкам работы клясы ў часе ўроку, зьяўляецца надзвычайна слабы ўдзел яе ў цэлым: працуюць адзінкі, найбольш актыўныя і звычайна найбольш пасьпяваючыя вучні.

Як уцягнуць ў работу ўсю клясу?

Гэтаму могуць садзейнічаць і чыста зьнешнія прыёмы вядзеньня ўрока і прыёмы ўнутраныя, якія нізводзяцца да выкарыстаньня найбольш актывізуючых работу мэтадаў выкладаньня.

Да зьнешніх прыёмаў, вельмі не малаважных, адносяцца наступныя:

а) **прыём франтальнай работы,** пры чым пытаньне альбо заданьне ставіцца ўсёй клясе, а не аднаму з вучняў, выклікаемаму для адказу (вельмі часты прыём, што ўжываецца малавопытным настаўнікам: выклікае спачатку каго-небудзь, а потым ставіць пытаньне альбо дае заданьне). Аб рашэньні заданьня альбо пытаньня вучні даюць знаць падняцьцем рукі: настаўнік лічыць лік паднятых рук і выклікае, калі падыме большасьць, пры чым можа ставіць дадатковае паясьняючае пытаньне, каб выклікаць адказы ў тых, хто яшчэ не падняў рукі. Гэты прыём штурхае на некаторае спаборніцтва: хто раней падняў руку... У той-жа час ён уцягвае ў работу і адстаючых.

б) Той-жа прыём франтальнай работы пры зусім **самастойным рашэньні** зададзенага **пытаньня** альбо **невялікага заданьня** ў пісьмовай форме. Аб выкананьні работы вучні заяўляюць тым-

жа падняцьцем рукі альбо адкладваньнем у бок (перад сабой) сшытка і алоўка. Настаўнік хутка праглядае работы, па меры іх выкананьня, і гаворыць ці правільна разьвязана задача. Гэты прыём уцягвае ў работу ўсіх і таксама заключае ў сабе элемэнт спаборніцтва. Пытаньне альбо заданьне для такога самастойнага рашэньня ў пісьмовай форме можа быць вельмі не складаным, не патрабуючым шмат часу для яго вырашэньня.

в) **Зьмена відаў і форм работы.** Вельмі стамляе дзяцей аднолькавая, неразмаітная форма работы, якая паўтараецца кожны дзень: вучні наперад ведаюць, што будзе рабіць настаўнік, што ён скажа, як задасьць пытаньне, у якой менавіта форме задае пытаньне і г. д. Усё гэта не садзейнічае актыўнай зацікаўленай і дружнай рабоце клясы. Трэба рабіць больш размаітнымі ня толькі віды і формы работы (то вусныя, адказы, то пісьмовае разьвязваньне пытаньня альбо задачы то сьпісваньне, то пісьмо па памяці, то пісьмо пад дыктоўку, то малюнак прыцягваецца і г. д.), але і самыя фармулёўкі пытаньняў альбо заданьняў.

Вызначаныя тут чыста зьнешнія прыёмы вядзеньня ўрока (як і магчымыя іншыя прыёмы, што робяць працу размаітнай) маюць, нясумненна, вялізарнае значэньне для прыцягненьня да справы ўсёй групы. Але яшчэ большае значэньне мае самая будова ўрока, якая выкарыстоўвае размаітныя формы актыўных мэтадаў. У будове ўрока могуць быць выкарыстаны актывізуючыя элемэнты такіх мэтадаў:

а) **ілюстрацыйнага мэтаду:** можна шырока выкарыстаць на размаітных уроках такі даступны матар'ял, як запалкі, палачкі, салома, каменчыкі, жалуды, лісты, гальлё дрэваў, мох, гліна, усялякія адкідныя матар'ялы... Усё гэта можна выкарыстаць і на ўроках лічэньня і на ўроках граматы, пісьма, чытаньня і на ўроках прыродазнаўства і грамадазнаўства. Зусім зразумела, што там, дзе маецца вядомае абсталяваньне, да ўроку ў адпаведных выпадках павінны быць прыцягнуты і карты, і малюнкі, і розныя гравюры, дыяпазытывы і т. п. (на ўроках па геаграфіі альбо гісторыі); на ўроках матэматыкі добра выкарыстаць мадэлі геамэтрычных фігур, рысункі, чарцяжы, табліцы і т. п.; на ўроку прыродазнаўства будуць прыцягнуты калекцыі, а таксама будуць дэманстраваны вопыты з прыборамі.

б) Элемэнты **экскурсійнага мэтаду** будуць выкарыстаны таксама на розных уроках: і на ўроку па грамадазнаўстве, і на ўроку па геаграфіі, і на ўроку па літаратурнаму чытаньню, нават на ўроку граматы. Перад тым, як зрабіць тую альбо іншую экскурсію з мэтай актывізацыі работы, настаўнік разам з вучнямі выпрацоўвае апытальнік і самы плян правядзеньня экскурсіі, пры чым розным групам вучняў могуць быць дадзены розныя заданьні: адны павінны набраць матар'ял па адных, іншыя па другіх пытаньнях і г. д. На ўроку і будуць выкарыстаны матар'-

ялы, здабытыя на экскурсіі, гэта ўнясе большае ажыўленьне ў работу, уцягне ў яе ўсю групу і зробіць урок прадукцыйным. Бязумоўна, злоўжываць экскурсіямі ня трэба: адна зробленая экскурсія даставіць групе столькі матар'ялу, што яго хопіць на некалькі ўрокаў.

в) Элемэнты **лябараторнага мэтаду** (а ня цалкам гэты мэтад) знойдуць для сябе прыстасаваньне ў тых момантах работы, калі вучні, па заданьні настаўніка, будуць самастойна разьвязваць пытаньні; заданьні ў гэтым выпадку павінны быць сфармуляваны такім парадкам, каб выкананьне іх прадстаўляла хаця-б і кароткую, але цэльную і закончаную работу (а не адказ толькі на адно прыватнае пытаньне). Для ілюстрацыі возьмем пастаноўку чытаньня «пра сябе». Перад чытаньнем вызначанага для самастойнай прапрацоўкі артыкулу ставяцца заданьні (не ў вялікай колькасьці), накіраваныя для таго, каб вычарпаць зьмест артыкула (у асноўным, а не ў прыватных выпадках), і толькі для самастойнага вырашэньня пытаньня, што вынікае са зьместу прачытанага. Прыкладная схэма заданьня да артыкулу мастацкага зьместу можа быць наступная:

1. Складзі плян прачытанага, даўшы загаловак кожнай частцы.

2. Прасачы за разьвіцьцём падзей па апавяданьні: з чаго пачалося, як разьвівалася, чым кончылася.

3. Намалюй некалькі рысункаў да апавяданьня і пад кожным дай подпіс, выбраўшы з тэксту апавяданьня падыходзячыя словы.

4. Ці магла падзея мець іншы канец і які-б мог быць канец па вашай думцы?

Для артыкула дзелавога, навуковага характару схэма заданьня магла-б быць такая:

1. Што ты даведаўся з карыснага для цябе артыкулу?

2. Як-бы ты мог скарыстаць у жыцьці тое, аб чым ты даведаўся?

3. Ці ня прыходзілася табе чытаць па гэтым пытаньні яшчэ што-небудзь?

4. Зрабі патрэбныя для цябе выпіскі з прачытанага артыкулу.

г) Элемэнты **дасьледчага мэтаду** надзвычайна актывізуюць урок, уцягваюць у работу ўсю клясу. Гэты мэтад у сваёй пераважнасьці можна выкарыстаць на ўроку прыродазнаўства, аднак элемэнты яго могуць мець месца і на іншых уроках, нават на ўроках расійскай мовы.

Вось апісаньне ўрока, які праведзены з ужываньнем дасьледчага мэтаду. Тэма ўрока — «Сіла пары». Настаўнік вызначыў прапрацаваць гэту тэму пры дапамозе пастаноўкі вопыту. З прычыны адсутнасьці дастатковай колькасьці сьпіртовак і пузыркоў, ён парашыў зрабіць вопыт не па зьвеньнях, а як агульна-клясныя заняткі. Адно зьвяно ён выклікаў да стала, для правядзеньня во-

ГПБ Ср.-Лд.

пыту, а астатнія наглядалі за вопытам. Вопыт заключаўся ў тым, што вада ў пузырку, які заткнуты коркам, падагравалася на сьпіртоўцы і такім парадкам пératваралася ў пару, якая займае большы аб'ём, чым вада. Уся кляса з напружаньнем чакала, што атрымаецца. Рабяты падзяліліся на два лягеры: адны казалі, што корак абавязкова выляціць, іншыя гаварылі, што гэтага ня будзе: «у самавары крышка з камфоркай, дык вылятала-б кожны дзень». Кляса заціхла, калі вада загатавалася і чутно было толькі шыпеньне пары, якая прабівалася з зачыненага коркам горлышка. Нарэшце, корак з шумам выляцеў з бутэлькі пад урачыстыя выкрыкі тых, хто адстойваў думку аб сіле пары. Скэптыкі патрабавалі паўтарэньня вопыту. Пачалося абгаварэньне пытаньня—чаму ў самавары не вылятае крышка; зьвярнулі ўвагу на адтуліну ў крышцы. Парашылі ўставіць у бутэльку дрэнны з адтулінай корак. Корак ня выляцеў (апісаньне вопыту глядзі ў брашуры «Методы обучения в начальной и средней школе», выд. НКА 1932 г.).

д) *Мова* настаўніка, яго **жывое слова,** у адрозьніваньні ад манатоннай, сумнай мовы, грае таксама вялізарную ролю пры ўцягненьні ў работу ўсёй клясы. Ажыўленьню працы садзейнічаюць жывая бадзёрая мова настаўніка, чоткая форма выкладаньня патрэбных ведаў, неабходны жарт, жывая форма пытаньня.

е) Розныя формы актыўных выступленьняў навучаючыхся ў працэсе ўрока: сюды патрэбна аднесьці прыёмы інсцэніроўкі, альбо драматызацыя, калі вучні сваімі дзеяньнямі ілюструюць розныя моманты ўрока (можна ўжываць ня толькі на ўроках расійскай мовы, пры чытаньні мастацкіх твораў, але і на ўроку лічэньня і г. д.).

ж) Нарэшце мэтад сацыялістычнага спаборніцтва, які шырока ўжываецца ва ўсіх відах грамадзкіх выступленьняў, можа быць выкарыстаны і пры мабілізацыі навучаючыхся на актыўную і лепшую прапрацоўку матар'ялу ўрока. Вышэй былі паказаны моманты ў самым вядзеньні ўрока, якія разьлічаны на спаборніцтва навучаючыхся ў хутчэйшым і хуткім выкананьні пастаўленага заданьня альбо пытаньня.

## Працоўная дысцыпліна на ўроку

Актывізуючы мэтады правядзеньня ўроку, уцягваючы ў работу ўсю клясу, настаўнік тым самым дапамагае стварэньню працоўнай дысцыпліны ў клясе. Аднак, настаўніку пры арганізацыі ўрока патрэбна прыняць шэраг мер і чыста зьнешняга арганізацыйнага парадку. На жаль, не прадстаўляе выключэньня такі малюнак: ўрок пачынаецца і вось выяўляецца, што няма крэйды, клясная дошка не ўпарадку, няма патрэбных навучальных дапаможнікаў і г. д.; пакуль усё гэта прывядуць у парадак, пра-

ходзіць 10—15 мінут, а галоўнае, замест дзелавой атмасфэры, утвараецца беганіна, парушэньне дысцыпліны. Далей, у час вядзеньня ўроку выяўляецца шэраг момантаў, якія таксама расшатваюць дысцыпліну. Напрыклад; настаўнік, жадаючы выклікаць да дошкі, апытвае: «Ну, хто пойдзе да дошкі?»—І вось дзеці ўскакваюць з месца, штурхаюць адно другога, крычаць наперабой—«Я! Я пайду!...» Альбо яшчэ малюнак: настаўнік аб чымсьці гутарыць з выкліканым да дошкі вучнем, але гутарка паміж настаўнікам і вучнем, што называецца, «з вока на вока», а астатнія аддадзены сабе—і ім нічога іншага не застаецца, як размаўляць паміж сабой, забаўляцца якімі-небудзь прадметамі альбо пачаць гульню «у пёркі» і г. д.

Зазначым на шэраг прыёмаў арганізацыйнага парадку, аб якіх павінен падумаць настаўнік, рыхтуючыся да ўроку.

1. Загадзя прадумаўшы як ён мяркуе **абставіць** даны урок, настаўнік павінен прыняць шэраг мер для таго, каб да пачатку ўрока ўсё было на месцы, каб ня губляць часу і не ствараць беганіны адшукваньнем патрэбных рэчаў. Што тычыцца кляснай дошкі, трапкі і крэйды, трэба завесьці такі парадак, каб пэўная асоба (дзяжурны) лічыў сябе адказным; абязьлічка тут недапушчальна.

2. Настаўнік павінен прадумаць **свае паводзіны на ўроку.** Паводзіны настаўніка вельмі важны фактар у арганізацыі альбо дэзарганізацыі дысцыпліны на ўроках. Разгледзім наступныя моманты ў яго паводзінах:

а) п о з а н а с т а ў н і к а: гэта зусім ня дробязь, калі настаўнік стаіць як укопаны слуп, на адным месцы, альбо няспынна ходзіць з аднаго боку клясы да другога, як маятнік, альбо бегае па клясе. У першым выпадку ён стамляе вучняў, у другім—ён забаўляе, а потым—стамляе іх, у трэцім выпадку—забаўляе і нэрвуе. Настаўнік павінен прымаць такую позу, якая-б натуральна ўвязвалася-б са зьместам работы і яе мэтадамі: тлумачачы якое-небудзь пытаньне альбо паведамляючы пэўныя веды, ён будзе стаяць перад клясай, каб усе яго бачылі і чулі, але таму, што мова яго будзе суправаджацца некаторымі момантамі ілюстрацыі альбо дэманстраваньнем, дык ён нямінуча і натуральна пераменіць сваю позу, падыходзячы да карты альбо вывешанай дыяграмы, табліцы і г. д. Калі-ж настаўнік дыктуе што-небудзь, дык ён таксама зойме позу, каб усе яго чулі, а ў час запісу дыктуемага будзе падыходзіць да асобных навучаючыхся, праходзячы паміж партамі. Словам, поза настаўніка будзе зьмяняцца ў залежнасьці ад натуральнага ходу ўрока.

б) Г о л а с і г э с т ы. Манатонная мова настаўніка, якая не суправаджаецца выразнымі гэстамі, пры нярухомай яго позе—можа прыспаць клясу. Крыклівая мова яго, якая суправаджаецца вельмі частымі і аднолькавымі ўзмахамі рук—стамляе ўвагу навучаючыхся. Але нават і жывая мова настаўніка і што суправаджаецца патрэбнай і памяркоўнай гэстыкуляцый, можа выклік-

нуць, калі голас яго вельмі слабы і не даходзіць да вуха ўсіх навучаючыхся. Значыцца, голас настаўніка павінен гучэць ня ціха, але і ня крыклiва, пры тым-жа ён ня будзе гучэць толькі на аднэй ноце на працягу ўсяго ўрока: голас будзе то падвышацца, то паніжацца, у залежнасьці ад зьместу прамовы. Важнай умовай зьяўляецца тое, каб у час сваей прамовы настаўнік абарачваўся не да асобнага вучня, а да клясы, трымаючы ўсіх у коле сваее ўвагі. Прамова будзе суправаджацца памяркоўнай і натуральнай гэстыкуляцыяй.

в) Зьвяртаньне да вучняў. Надзвычайна разбурае дысцыпліну беспарадачнае, бяссыстэмнае няплянавае зьвяртаньне да вучняў у час вурока: то выклікаецца адзін вучань, затым, ня выслухаўшы яго, настаўнік выклікае другога, прарывае і яго на паўслове (незадаволіўшыся адказам), пераходзіць да трэцяга і г. д. Усё гэта вельмі турбуе клясу, уносіць непарадак, шкодзіць плянаваму ходу ўрока і разбурае дысцыпліну. Значыцца, у сваіх абыходзінах за вучнямі, настаўнік павінен быць роўным, спакойным, выслухоўваць да канца адказ і спакойна папраўляць памылку (лепш прыцягваючы да гэтага іншых вучняў і толькі ў выпадку затрудненьня іх самому даваць патрэбныя тлумачэньні).

3. Настаўнік павінен чотка ўяўляць сабе ўвесь ход урока, каб пасьлядоўным пераходам ад аднэй часткі да другой падтрымліваць увагу вучняў, а тым самым і дзелавую дысцыпліну урока. Вельмі няспрыяюча дзейнічае пераскакваньне з пытаньня на пытаньне, так што вучні губляюць ніць работы.

4. Кіраўніцтва паводзінамі вучняў. Галаслоўныя заклікі да парадку, нават выкрыкі здольны ўстанавіць пэўную цішыню і нават некаторую дысцыпліну толькі часова і вельмі не на доўгі момант. Куды лепш другія меры: трэба здолець у час даць работу тым, хто ўжо скончыў яе і міжвольна будзе парушаць дысцыпліну (ня можа-ж ён сядзець ціха бяз справы); затым важна зьнішчыць усё тое, што міжвольна адцягвае ўвагу дзяцей: павінны быць убраны з парт непатрэбныя для ўрока вучэбныя прылады, зьнішчыць шум у суседніх памяшканьнях і т. п. Калі выслухоўваецца адказ вучня, прыцягваць увагу ўсёй клясы, паставіўшы яму заданьне—сачыць за правільнасьцю адказу і па скончэньні яго ўносіць свае папраўкі: асабліва важна не дапушчаць асобных занятак з выкліканым да дошкі. У сваіх зьвяртаньнях да клясы сачыць за тым, каб усе былі ў коле ўвагі і ставіць пытаньні так, каб усе былі прыцягнуты да вырашэньня гэтых пытаньняў (аб чым гаворылася ўжо вышэй).

5. Нарэшце, да ўстанаўленьня працоўнай дысцыпліны на ўроку павінна быць прыцягнуты і **дзіцячыя арганізацыі.** Трэба дакладна вызначыць абавязкі старастата і не дапушчаць манкіраваньня гэтымі абавязкамі (прывядзеньне ў парадак кляснай дошкі, крэйды, трапкі; дапамога ў раздачы навучальных дамож-

нікаў і т. п.). Кіраўнікі зьвеньняў павінны адказваць і наглядаць за парадкам у сваім зьвяне. Піянэр-важатыя арганізуюць грамадзкую сьвядомасьць клясы, прыцягваючы да адказнасьці парушыцеляў парадку і г. д.

## Падлік

У працэсе ўрока надзвычайна важным момантам, што садзейнічае прадукцыйнасьці ўроку, зьяўляецца правільная арганізацыя падліку і праверкі выкананьня работы. Тымчасам як раз у арганізацыі падліку ў школе дапушчаецца шэраг няправільнасьцяй—і раней за ўсё мае месца няправільнае ўяўленьне аб тым, што падлік ёсьць толькі сродак праверкі пасьпяховасьці вучняў: тут выпушчана другая роля падліку, куды больш важная—роля яго ў падвышэньні якасьці ведаў.

Мы тут ня будзем гаварыць аб значэньні падліку і арганізацыі яго ва ўсёй вучэбна-выхаваўчай рабоце школы: мы будзем мець на ўвазе арганізацыю падліку ў ходзе данага ўрока, да правядзеньня якога рыхтуецца настаўнік.

Паставім спачатку пытаньне, што патрэбна улічваць? Ці толькі веды, набываемыя ў працэсе ўрока? Пакольні веды ў школе даюцца ў сувязі з навыкамі, дык і падліку належаць абодвы гэтыя бакі.

Далей—калі ставіць падлік—толькі ў канцы ўрока, правяраючы вынікі работы на працягу ўрока? Нажаль, у большасьці выпадкаў, менавіта, так толькі і робіцца (ды і то не заўсёды). А між тым адсоўваньне моманту падліку на канец вурока трымае вучня на працягу ўсяго ўрока ў нязнанасьці адносна правільнасьці вырашаемай ім задачы альбо пытаньня.

Падлік павінен мець месца ў розныя моманты вядзеньня ўрока: першым момантам вурока зьявіцца арыентыроўка ў ведах вучня, якая неабходна для таго, каб перайсьці да паведамленьня новых ведаў; далей ён павінен мець месца, як момант для падсумаваньня пэўнага этапу работы ў ходзе самога ўрока; нарэшце,—падсумаваньне ўсей работы на працягу ўрока.

Першы момант падліку арыентыровачны—можа супадаць з момантам увязваньня зьместу, надыходзячага ўрока з мінулым вурокам: трэба высьніць, што і як памятаюць дзеці з прапрацаванага, каб можна было работу пасунуць далей. Другі этап падліку—у ходзе самога ўрока—можа мець месца ў розных момантах яго па меры прапрацоўкі пэўнага пытаньня з тэмы ўрока. Тут патрэбна ўпэўніцца, якая частка групы засвоіла і як менавіта засвоена прапрацаванае, хто не засвоіў яшчэ. Па якіх-жа паказальніках можна судзіць аб ступені засваеньня прапрацоўваемага. Паказальнікамі могуць быць і вусныя адказы на задаваемыя лятучыя пытаньні і пісьмовыя работы, праглядаемыя ў ходзе ўрока.

Надзвычайна важным зьяўляецца другі этап у ходзе вурока. Як ужо гаварылася, адсоўваньне гэтага моманту на пэўны альбо больш-менш доўгі час пакідае вучня няўпэўненым адносна правільнай работы і тым самым зьніжае яго настрой, а ўрэшце— якасьць яго работы. Тымчасам, для атрыманьня больш альбо менш хуткіх вынікаў доўгага часу не патрэбна. Работу трэба пабудаваць так, каб у прасоўваньні яго ад пачатку да вызначанага канца былі відаць частковыя вынікі, атрыманьне якіх і можна было-б улічваць у ходзе ўрока. Так напрыклад: у будове ўрока па чытаньні патрэбна прадугледзіць такія пытаньні, якія часткова падсумоўвалі-б прапрацаванае (напрыклад, пытаньне і фармулёўка асноўнага зьместу прачытанага, далей пытаньні, што выцякаюць са зьместу прачытанага, але непасрэдна з ім не зьвязанага і г. д.); у будове ўрока па арытмэтыцы ў самой ўмове задачы можна прадугледзіць не адзін, а некалькі лічбовых адказаў і даць прамежны адказ і г. д.

Трэці, заключны этап падліку, які падсумоўвае ўсю работу на працягу ўрока, мае месца ў канцы яго. Форма падліку тут арганічна зьвязана з мэтадам прапрацоўкі вучэбнага матар'ялу. Так, калі матар'ял прапрацоўваўся шляхам гутаркі, формай індывідуальнага падліку служыць апытваньне вучняў; калі ў час прапрацоўкі былі выкарыстаны элемэнты экскурсыйнага мэтаду папярэдне распрацаванымі пытаньнямі ў пісьмовай форме для набіраньня па іх матар'ялу, дык у дадатак да ўлічаных адказаў можа быць прыцягнуты прагляд запісаў вучняў альбо пісьмовых адказаў іх; калі прапрацоўка матар'ялу ішла з выкарыстаньнем элемэнтаў лябараторнага мэтаду, формай падліку зьяўляецца наглядаваньне ў працэсе самой работы, а таксама прагляд запісаў, паказальнікамі засвоенага пры прапрацоўцы ўрока з выкарыстаньнем элемэнтаў дасьледчага мэтаду зьяўляюцца здабываемыя ў выніку работы адказы (гл. прыведзены прыклад вурока на тэму аб сіле пары); нарэшце, у якасьці паказальніка выніку работы на працягу ўрока можа служыць і кругавы сшытак, куды ўнесены кароткія зводкі аб прапрацаваным, і пісьмовы матар'ял, атрыманы ў ходзе ўрока.

На падставе ўсіх гэтых паказальнікаў працы, якія атрыманы шляхам пераліченьня форм падліку, настаўнік устанаўляе, у якіх суадносінах знаходзіцца засвоенае на ўроку да незасвоенага; якая колькасьць вучняў засвоілі патрэбныя веды і атрымалі належныя навыкі, а якая колькасьць не засвоілі ні таго, ні другога, альбо веды засвоілі, а навыкаў яшчэ не замацавалі. Калі выявіцца, што палова дзяцей ведаў яшчэ не засвоілі, значыцца ўрок быў пабудаваны няправільна і праведзены нездавальняюча. Можна прымірыцца яшчэ ў тым выпадку, калі дрэнна засвоіла трэць вучняў клясы, але зараз-жа трэба прыняць меры да падцягваньня гэтай трэці. Ідэал, бязумоўна, стопроцантнае засваеньне, але якасьць вурока будзе вызначацца ступеньню набліжэньня да гэтага ідэалу.

Патрэбна таксама мець на ўвазе, пры падліку вынікаў работы на даным вуроку індывідуальны падлік работы кожнага вучня, і на падставе атрыманых паказальнікаў ужыць меры да арганізацыі работы з адстаючымі.

## Задаваньне ўрокаў на дом

Задаваньне ўрокаў на дом зьяўляецца аднэй з мер падцягваньня адстаючых да агульнага ўзроўню ведаў у клясе. Але гэты від работы не павінен разглядацца толькі як мера супроць адставаньня ад узроўню клясы. У пастанове ЦК ад 25/VIII-32 г. практыкаваньні «на даму» прапануецца разам з агульнымі мерамі ў паднясьці ўзроўню ведаў і навыкаў вучняў у пачатковай і сярэдняй школе. А таму настаўнік, які рыхтуецца да правядзеньня ўрока, павінен улічыць і гэты бок, гэта значыць, прадумаць, якую працу, выцякаючую з урока, можна даць на дом і як мэтадычна правесьці заданьне ўрока.

Асмысьляючы для сябе мэтадычны бок задаваньня работы на дом, настаўнік павінен улічыць вялізарнае значэньне гэтага віду работы ня толькі з пункту гледжаньня эканоміі часу (ў клясе ўсяго не прапрацуеш), але з пункту гледжаньня прывучэньня дзяцей да самастойнай работы. Разглядаючы задаваньне ўрока на дом з гэтага апошняга пункту гледжаньня, трэба ў асабліваесьці ўважліва аднесьціся да будовы задаваньня, якое пасутнасьці пературараецца ў «заданьне», пастаўленае перад вучнямі пры пабудове занятак па лябараторнаму мэтаду.

Пакідаючы тут у баку пытаньне аб самой магчымасьці выкананьня заданьня, у сэнсе дастатковага забесьпячэньня вучняў навучальнымі дапаможнікамі і прыладамі, а таксама ў сэнсе магчымасьці для дзяцей знайсьці час для гэтых занятак з многалікіх хатніх абавязкаў, асабліва ва ўмовах вясковай школы,— усё гэта настаўнік павінен ўлічыць і прыняць пад увагу пры дазіроўцы заданьня на дом,—спынімся на чыста мэтадычнай старане гэтай справы.

а) Раней за ўсё—ці кожны ўрок павінен абавязкова суправаджацца заданьнямі на дом?

Бязумоўна, не: па-першае, у вучняў не хапіла-б часу для падрыхтоўкі работы да кожнага ўроку, а па-другое, ня з кожнага ўрока выцякае такі від самастойнай работы на даму, які дзеці бяз цяжкасьцяй маглі-б выканаць.

б) Што-ж можа быць зададзена для самастойнай прапрацоўкі дома?

Гэта, бязумоўна, ніякое небудзь новае пытаньне, незакранутае яшчэ на ўроку. У пераважнасьці гэта будуць практыкаваньні, якія ставяць задачай замацаваць тое, што ўжо прапрацавана ў клясе: па мове—гэта будуць, галоўным парадкам, пісьмовыя практыкаваньні артаграфічнага парадку, альбо самастойныя

пісьмовыя работы па тыпу прапрацаваных у клясе; па арытмэтыцы—гэта будуць практыкаваньні ў лічэньні альбо з разьвязваньнем задач на прапрацаваны ўжо ў клясе тып і г. д. Нельга, аднак, абмяжоўваць задаваньне на дом толькі работамі, якія ў пераважнасьці навыкаў носяць мэханічны характар: у гэтым выпадку можа быць небясьпека мэханізаванай, але не зацікаўліваючай дзяцей работы—і яна будзе выконвацца бяз уздыму.

в) Як-жа мэтадычна пабудаваць задаваньне ўрока? Раней за ўсё неабходна растлумачыць вучням самую мэту заданьня: для чаго яно служыць, чым будзе карысна выкананьне яго? Усьведамляючы гэта вучань нават і чыста навыковую работу выканае дакладна, знаходзячы задавальненьне ў самым моманце перамаганьня некаторай трэніровачнай работы (практыкаваньне ў хуткім лічэньні, у чоткім і прыгожым пісьме, у пісьме артаграфічна-правільным).

Затым—заданьне павінна быць пабудавана з разьлікам на самадзейнасьць вучня і сфармулявана так, што дасьць магчымасьць вучню праявіць гэту самадзейнасьць (напрыклад: у заданьні прачытаць апавяданьне можна запытаць: «А што было далей? Раскажы!»).

Задаючы работу, патрэбна пільна праінструктаваць як яе выканаць, як перамагчы цяжкасьці, на што зьвярнуць увагу і г. д. Для ўзору адно—два пытаньні павінны быць выкананы ў клясе, пад кіраўніцтвам настаўніка.

г) Ці ўсім павінна быць дадзена аднолькавая работа: у аднолькавай форме і ў аднолькавай дазіроўцы?

Ураўнілаўка тут недапушчальна: адны могуць хутчэй справіцца з работай, другія павінны патраціць больш часу; адным даступна адна форма работы—другім іншая; адны маюць патрэбу ў паўтарэньні практыкаваньня—другія настолькі засвоілі матар'ял, што гэтай патрэбы ня маюць і г. д. Значыць: адным можна даць больш работы—другім менш; адным патрэбна сфармуляваць заданьне больш разгорнута, з тлумачэньнямі, другія зразумеюць і больш складаную фармулёўку; адным патрэбна даваць заданьні паўторнага характару, другім заданьні дадатковыя, але ня з новым пытаньнем (тады-б пайшлі—ад групы наперад), а заданьні паглыбляючыя тое-ж пытаньне і г. д.

д) Як правяраць хатнія работы?

Звычайна ўжываюцца такія формы праверкі:

1) Вучні выклікаюцца па чарзе і гавораць як яны выканалі работу, а астатнія правяраюць у сябе; 2) вучні выклікаюцца да дошкі для паказаньня што і як ён зрабіў, астатнія сочаць і згаджаюцца альбо папраўляюць у выпадку памылкі. Той і другі прыём адымаюць вельмі шмат часу (часта на праверку скарыстоўваецца палова ўрока), зьяўляюцца стамляючымі, бо ня ўносяць нічога новага і не разьлічаны на актыўнасьць усяе клясы.

Папраўкі трэба ўнесьці ў гэтыя прыёмы такія: праверачныя пытаньні павінны быць задаваемы ўсёй клясе, затым пытаньне:

«У каго які адказ? А хто ня згодзен? У цябе які адказ?» «У каго-ж правільней?». Да другога прыёму такую папраўку: да дошкі выклікаецца слабы, яго памылкі папраўляюцца клясай. Спачатку для папраўленьня выклікаюцца слабыя, потым сярэднія і толькі ў выпадку адсутнасьці правільнага адказу—моцныя.

Для ажыўленьня работы можна дапусьціць форму праверкі выкананьня работы адзін адным з дакладам пасьля гэтага аб выніках. Але для гэтага прыёму трэба прыбягаць умеючы і гледзячы дзе: напрыклад, пры праверцы артаграфічных памылак ён можа быць небясьпечным./

## Заключэньне

Калі пры падрыхтоўцы да ўроку выконваць усё, што тут сказана, дык колькі-ж часу патрэбна будзе для такой падрыхтоўкі да кожнага ўроку?

У гэтай працы распрацаваны паказаньні ў падрыхтоўцы да ўрока з ахопам усіх магчымых палажэньняў, у якіх можа апынуцца даючы ўрок. Але-ж ня ў кожным уроку настаўнік сустрэнецца з усімі пытаньнямі, тут распрацаванымі. Значыцца, для кожнага данага канкрэтнага ўроку будуць выкарыстаны тыя з нераспрацаваных тут паказаньняў, якія маюць адносіны да яго непасрэдна. З другога боку—да шэрагу аднатыпных урокаў прыдзецца мець агульную падрыхтоўку.

У якую-ж форму павінна выліцца падрыхтоўка да ўрока?

/Складаць падрабязны канспэкт да кожнага ўрока было-б даволі цяжка: такія канспэкты карысна складаць пачынаючаму настаўніку да сэрыі аднатыпных урокаў, а да кожнага ўроку можна абмежавацца складаньнем пляну, суправаджаючы яго паасобнымі нататкамі характару рабочых запісаў./

*С. Равін*

# Геаграфія ў IV групе

*Мэтадычная распрацоўка падтэмы „ЗОНА ПУСТЫНЬ“ (5 гадз.)*

## I. Мэтавая ўстаноўка:

1. Даць дзецям чоткае ўразуменьне аб зоне пустынь (канкрэтна аб Сярэдня-Азіяцкіх пустынях), а таксама жывое прадстаўленьне ляндшафту пустыні.

2. Паказаць дзецям, як Савецкая ўлада перарабляе пустыню і ператварае пустынныя месцы ў палі і сады.

3. Даць дзецям панятцьце аб нацыянальнай палітыцы Кампартыі і Савецкай ўлады, на канкрэтных прыкладах вызваленьня прыгнечаных народаў, вызваленьня ўсходняй жанчыны.

Гэта мэтавая ўстаноўка абавязвае нас:

1) даць чоткі аб'ём ведаў, згодна патрабаваньняў праграмы (геаграфічнае палажэньне пустыні, кантынэнтальны клімат у пустыні, адсутнасьць вады, пяшчаныя раўніны, слабая расьліннасьць або поўная адсутнасьць расьлін, насельніцтва і занятк насельніцтва).

2) Дабіцца, каб дзеці атрымалі неадцягнутыя веды аб пустынях, якія яны могуць мэханічна завучыць, але веды, якія павінны быць увязаны з канкрэтнымі прадстаўленьнямі **малюнку** пустыні. Толькі такім шляхам дзеці 4-й групы змогуць засвоіць паказаную суму ведаў. Правільнае прадстаўленьне можа быць дадзена шляхам жывога слова настаўніка, прапрацоўкі апавяданьняў аб пустыні і аналізу малюнку ляндшафту пустыні.

3) Па лініі камуністычнага выхаваньня дзеці павінны ў данай тэме атрымаць ўразуменьне, што Савецкая ўлада, выкарыстоўваючы навуку і тэхніку, зьмяняе твар пустыні. Адначасова неабходна падкрэсьліць, як тубыльнае насельніцтва, раней прыгнятаемае царскім ўрадам, уключаецца ў сацбудаўніцтва, трэба паказаць разгортваньне клясавай барацьбы і змаганьне з рэлігійнымі забабонамі.

Такім чынам, мы даем дзецям на канкрэтных прыкладах элемэнты інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня.

## II. Ход прапрацоўкі тэмы

Як і ўсе аналёгічныя тэмы геаграфіі 4-й групы (зона тундры, зона тайгі і г. д.), ход прапрацоўкі данай тэмы прадстаўляецца ў наступным парадку:

1. Работа над картай; арыентыроўка месца знаходжаньня пустынь, асабліва Сярэдня-Азіяцкіх.

2. Гутарка аб клімаце і ляндшафце пустынь, аб оазісах. Чытаньне навукова-папулярнага артыкулу на тэму (пры гутарцы і чытаньні артыкулу трэба карыстацца рознымі карцінамі ляндшафту пустыні).

3. Пасьля гутаркі, калі дзеці ўжо набылі некаторыя веды аб геаграфічным палажэньні і ляндшафце Сярэдня-Азіяцкіх пустынь, настаўнік чытае мастацкі матар'ял аб пустыні. Пасьля чытаньня ён аналізуе тыя або іншыя геаграфічныя моманты, што сустракаюцца ў прачытаным мастацкім артыкуле.

4. На падставе ўсяго матар'ялу настаўнік складае з дзецьмі канспэкт пройдзенага.

5. У канцы прапрацоўкі тэмы настаўнік яшчэ раз прапрацоўвае карту зоны пустынь.

6. Нарэшце, ён робіць падлік ведаў дзяцей па данай тэме.

## III. Канкрэтны зьмест паасобных гадзін

### *1-я гадзіна. Работа над картай*

Як відаць з папярэдняга, праца на першай гадзіне пачынаецца ня з гутаркі аб пустыні, але з работы над геаграфічнай картай, з назіраньня насьценнай геаграфічнай карты. Паказваецца месца Сярэдня-Азіяцкіх і Закаўкаскіх пустынь. Каб дзеці запамяталі добра месца знаходжаньня зоны пустынь, трэба арыентаваць дзяцей на сувязь з тымі геаграфічнымі мясцовасьцямі, якія яны ўжо вывучалі; паказаць дзецям, што Сярэдня-Азіяцкія пустыні знаходзяцца на поўдні ад зоны стэпаў і тайгі на ўсходзе ад Касьпійскага мора, на поўначы ад гор. Паміру. Усе гэтыя моманты дзеці ўжо ведаюць з папярэдняга курсу. Настаўнік канстатуе, што гэтыя месцы заняты 3-ма савецкімі рэспублікамі. Аб гэтых рэспубліках дзеці ўжо вучылі ў папярэдняй тэме. Дзякуючы такой арыентыроўцы на карце (зьвязваючы на карце новыя геаграфічныя месцы з папярэднімі, ужо знаёмымі), дзеці лепш будуць памятаць месцазнаходжаньне Сярэдня-Азіяцкіх пустынь, адначасова будуць паўтараць частку папярэдняга курсу.

Далей разглядаем на карце мясцовасьць пустыні. Яна абкружана з Захаду Касьпійскім морам і высокімі Каўкаскімі горамі, Таму вільготныя заходнія вятры не даходзяць да гэтай мясцовасьці. З поўдня знаходзяцца вышэйшыя горы Памір і Цянь-Шань, з другога боку, з Паўночна-Усходняй стараны—гор няма. Халодныя і сухія вятры маюць доступ да краіны.

Вось такім парадкам, на падставе работы над картай, знаходзім адну з прычын адсутнасьці ападкаў і ўтварэньня пустынь. Потым разглядаем вазёры і рэкі ў пустыні. Пры назіраньні карты мы бачым, што галоўныя рэкі Сыр і Амур-Дар'я пачынаюцца не ў самой пустыні, а сьцякаюць з высокіх Паўднёвых гор, дзе шматлікія ледавікі зьніжаюцца з гор, таюць і даюць шмат вады для гэтых рэчак.

Пасьля работы над насьценнай картай, вучні працуюць над сваімі картамі, якія павінны мець на руках. Яны разглядаюць тыя самыя моманты, што настаўнік паказваў на кляснай карце, і запісваюць ў свае сшыткі фактычны матар'ял, які бачаць на карце. Напрыклад, яны могуць запісаць:

1) Сярэдня-Азіяцкія стэпы і пустыні займаюць вялікія прасторы паміж Касьпійскім морам, горамі Памір, Цянь-Шань, Сібірскай тайгой і Уральскімі стэпамі.

2) У пустынях працякаюць 2 вялікія рэчкі Сыр-Дар'я і Амур-Дар'я, яны ўпадаюць у Аральскае мора. Гэтыя рэкі пачынаюцца з Паўднёвых гор.

Апрача гэтага, настаўнік праводзіць работу па маштабе. Заданьне можа быць такога характару: пры дапамозе маштабу, вымерай адлегласьці Сярэдня-Азіяцкіх пустынь ад усходу на Захад і ад поўдню да паўночнай мяжы. На паперы дзеці пера-

носяць лінейны маштаб карты, запісваюць, што 1 сант. азначае, напр.,—200 км.; потым гэтай паперай вучні вымяраюць адлегласьці. Мерац trэба па якой-небудзь паралелі і мэрыдыяну (лепш правесьці вымерваньне па паралелі 45° і мэрыдыяну 65°).

Гэтай работай над картай мы запаўняем першую гадзіну. Калі дзеці маюць контурныя карты СССР, можна даць работу на дом (азначыць па карце галоўнейшыя горы, моры, рэчкі і афарбаваць месцы пустынь).

*2-я гадзіна. Гутарка і чытаньне артыкулу з падручніка*

Пры правядзеньні гутаркі ўвесь час віcяць геаграфічныя карты і рысункі ляндшафта пустыні (пустыні, пяскі, вярблюд, оазіс, насельніцтва пустынь і іншыя карціны). Для гутаркі настаўнік павінен падрыхтавацца. У парадку падрыхтоўкі да вуроку настаўніку трэба сабраць фактычны матар'ял. Для гэтага неабходна прачытаць настаўніку некаторыя кніжкі, напрыклад:

1) Спадарожжа Свэн-Гэдына ў пустыні.

2) Аб пустыні Каракум (апавяданьне Гумілеўскага, з гісторыі грамадзянскай вайны ў Туркменістане); 3) кніжку «Белае золата» (там гаворыцца аб занятках і культурных зрухах у мясцовага насельніцтва).

Прачытаўшы гэтыя кніжкі, настаўнік зможа ажывіць гутарку, яркім і карысным фактычным матар'ялам.

Сама гутарка павінна быць праведзена ў такім парадку, каб паасобныя моманты выцякалі адзін з другога і толькі гэтакім чынам дзеці засвояць больш сыстэматычна матар'ял. Калі-ж дамо дзецям паасобныя веды адарвана адно ад другога (напрыклад, клімат кантынэнтальны; глеба складаецца з пяскоў; расьліны ніякія не растуць і г. д.), то такое выкладаньне прывядзе нямінуча да мэханічнага завучваньня.

Таму гутарку трэба весьці вось як:

а) мы ўжо з папярэдняй работы ведаем, што Сярэдня-Азіяцкія пустыні абкружаны горамі, так што вільготныя вятры не маюць доступу ў даную зону, таму ў гэтай краіне рэдка выпадаюць ападкі.

б) Калі ападкаў няма, расьліны ня могуць расьці. Такім чынам, вялізарныя прасторы пакрыты вельмі слабай расьліннасьцю, або зусім без расьліннасьці.

в) Там, дзе расьлін зусім няма, глеба ня будзе чорнай, як у нас, але застаецца пакрытай чыстымі пяскамі, якія вецер перакідае з аднаго месца на другое, вытвараючы пяшчаныя ўзгоркі — барханы.

г) У такіх пустых мясцох людзі ня могуць жыць. Паселішчы і гарады знаходзяцца ў далінах гор і ў оазісах.

д) Самы важны недахоп пустыні—гэта адсутнасьць вады. Калі-б была вада, можна было-б ператварыць пустынныя месцы

ў далі. Правядзеньне ад рэчак водных каналаў (арыкаў) у пустыню. Насельніцтва. Занняткі насельніцтва (разьвядзеньне бавоўны і сады).

е) Вялікая работа па абвадненьню праroblena савецкай уладай у Сярэдня-Азіяцкіх рэспубліках.

ж) Клясавая барацьба сярод насельніцтва. Баі (кулакі) і духоўнае прыгнечаньне беднага насельніцтва. Становішча жанчыны.

з) Савецкая ўлада ў гэтых мясцох.

Вось, прыблізна, тэзісы гутаркі. Зразумела, настаўнік не выкладае дзецям у форме тэзісаў: ён працуе з дзецьмі шляхам пытаньняў і адказаў. Пры такой пастаноўцы гутаркі дзеці змогуць самастойна засвоіць тыя або іншыя веды. Настаўнік павінен выкарыстаць папярэднія веды дзяцей, каб уцягнуць іх у актыўную прапрацоўку матар'ялу. Адначасова ён дае кароценькія апавяданьні аб оазісах, аб занятках насельніцтва (бавоўна) і паясьняе свае апавяданьні і выказваньні дзяцей паказам тых або іншых малюнкаў.

Даная гутарка не павінна працягвацца больш 25 хвілін. Ня трэба перабаршчаць доўгімі разважаньнямі: настаўнік высьвятляе адзін пункт і пераходзіць да наступнага. У часе гутаркі, ён дзе толькі магчыма, карыстаецца геаграфічнай картай, каб яшчэ і яшчэ раз арыентаваць вучняў на месцапалажэньне зоны пустынь.

Пасьля гутаркі вучні не павінны запісваць у сшытках. Ім трэба даць яшчэ прадумаць і прапрацаваць матар'ял, каб пазьней з большай сьвядомасьцю і ўпэўненасьцю яны склалі канспэкт данай тэмы.

Таму зараз-жа пасьля гутаркі вучні чытаюць матар'ял з падручніка, калі падручніка няма, настаўнік чытае матар'ял аб Сярэдня-Азіяцкай пустыні з іншай кніжкі (хрэстаматыя Камянецкага, або з рускага падручніка па геаграфіі). Пры чытаньні матар'ялу настаўнік паясьняе паасобныя моманты, зьвязваючы іх гутаркай, якая праведзена раней.

*3-я гадзіна*

На пачатку 3-й гадзіны настаўнік правярае веды вучняў па карце, а таксама сьцьвярджае, што дзеці зразумелі і засвоілі з папярэдняй лекцыі. Гэта займае 10—15 хвілін. Затым настаўнік прачытвае дзецям апавяданьне, маючае характар геаграфічнага нарысу.

Некаторыя настаўнікі практыкуюць чытаньне такога апавяданьня перад растлумачальнай гутаркай. Яны імкнуцца на падставе мастацкага артыкулу даць асноўныя веды па данай тэме.

Такая пастаноўка пытаньня няправільна. Мастацкі артыкул у геаграфіі адыгрывае вялікую ролю, **але ўсё-ж такі ён служыць дапаможным матэр'ялам** пры праходжаньні данай тэмы. Толькі

тады артыкул прынясе карысьць для ўразуменьня данага матар'ялу, калі вучні ўжо будуць падрыхтаваны папярэдняй сыстэматычнай гутаркай. Інакш чытаньне апавяданьня можа ператварыцца ў звычайнае чытаньне апавяданьня, якое ня мае значэньня для набыцьця геаграфічных ведаў.

Як прыклад, возьмем наступнае апавяданьне і паглядзім, як трэба яго выкарыстаць для мэты нашай тэмы.

## ГАРАЧЫ БУРАН

— Давай хутчэй уцячэм. Барханы пачынаюць дыміцца. Да паўдня пачнецца буран.

Так гаварыў пастух Бурыбэй да свайго маладога памоцніка Ульмаса.

50 год стары пастух жыве ў пустыні. Ён добра з ёй знаёмы. Ня гледзячы на слабы вецярок, ён быў упэўнены, што зараз пачнецца гарачы буран. Узходзячае сонца было вогніста-мутным. Пустыня была падобна да акіяну. Пяшчаныя ўзгоркі—да морскіх хваляў. Зараз па вяршынях гэтых узгоркаў падымаліся стаўбы пяску.

— Ульмас, ты будзеш езьдзіць на ішаку (асьле) за стадам; каля цябе будуць бегаць сабакі. Я сам буду ўперадзе. Я добра ведаю ўсе дарожкі ў пяшчаным моры. Да вечара мы прыбудзем у гарыстыя мясцовасьці.

— Ульмас выслухаў Бурыбэя з вялікім сэрцабіеньнем. Потым ён сьпешна сеў на ішака і пазваў да сябе чатырох вялікіх сабак. Хітры і Тыгр, вы бегайце зьлева, а ты Стаз з правага боку.

Авечкі не спакойна бляялі. Вецер узмацніўся і зрабіўся гарачым. Сонца скрывалася па-за пяшчаным туманам. Сабакі моцна вылі. Авечкі бегалі хутка. Сонца накальвала пясок. Гарачыя пяшчынкі палілі горла Ульмаса. Ульмас затрымаў ішака, каб завязаць хустку на шыі. Праз адну хвіліну ля ног ішака ўтварыліся ўзгоркі пяску. Бурыбэй гэта заўважыў і крыкнуў:

— Ульмас, будзем хутка ўцякаць. Затрымацца ў такую хвіліну значыць загінуць у пустыні.

— Слухаю,—адклікнуўся Ульмас і пагнаў свайго ішака.

Хутка пяшчаныя воблакі засланілі сонца. За жоўтай заслонай бурану зусім зьнікла сонца.

Пустыня паглынула сонца. Спужаўся Ульмас. Раніца ператварылася ў цёмную ноч. Справа, зьлева, ззаду падымаліся бураны. Штохвіліну дарога стала цяжэйшай.

— Куды мы нясемся. Ці прыдзем мы калі-небудзь да такога месца, дзе бурану няма?

Ульмасу захацелася піць. Пад халатам у маленькай фляжцы была вада, але яе ўжо засталося вельмі мала—на пяць-шэсьць глаткоў.

— Хоць сонца ня відаць, але дзень яшчэ вялікі". Думаў ён,—„не, ня буду піць, трэба ўмець цярпець. Я пакуль-што буду глатаць сьліну".

Агонь пустыні паліў у роце.

— Бурыбэя больш не відаць, але стада рухаецца, значыць, ідзем да жаданага канца. Як ён знаходзіць дарогу ў гэтай сьпякотнай цемры—думаў ён.

Яму яшчэ больш захацелася піць.

Каб забыць аб вадзе, Ульмас затрубіў у ражок. Нясьмелы сыгнал нудліва прагучэў у пустыні і загінуў сярод выі і стогну разьюшанай пустыні. Бурыбэй адклікнуўся Ульмасу доўгім зацяжным заклікам да бадзёрасьці, жывасьці, цярплівасьці. Яшчэ мучыцельней адчуў Ульмас смагу. Дрыжачымі рукамі ён дастаў фляжку і адкрыў яе, каб папіць. Патокі пяску ўварваліся ў фляжку. Ульмас узяў фляжку ў рот, але замест вады адтуль пацякла брудная вадкасьць. Хлопчык ўздыхнуў і прыпомніў параду Бурыбэя: „Калі хочаш піць, дастань фляжку і, ня адчыняючы яе, бяры яе ў рот, зубамі ты яе адчыняй і напіся вады. Але ня думай адчыняць бутэльку на ветры, бо гарачы пясок хутчэй высушыць рэшткі каштоўнай плыні і ты застанешся бяз піцьця".

Ульмас успомніў гэтую параду, але ўжо было позна: ён піў ужо не ваду але гарачую гразь.

— Зараз дабярэмся да гор і там нап'емся чыстай крынічнай вады,—марыў Ульмас. Вецер крыху сьціх. Але цішыня была кароткай. Вецер як быццам набраўся сіл— яшчэ мацней закружыўся ў мёртвых прасторах. Ульмасу ізноў захацелася піць.. Але фляжка была пустой: вады ні кроплі. У Ульмаса закружылася галава. Ён пачаў трубіць у ражок да Бурыбэя, але ня было сіл трубіць. Праз некалькі хвілін Ульмас ляжаў у пясках. Ушак спыніўся ля яго. Ульмас хацеў яшчэ раз пратрубіць, але рукі ня рухаліся. Ён дрыжэў як у хваробе. Яму захацелася спаць. Стада рухалася ўперад. Ульмаса пачынала засыпаць пяском. Ішак роў. Усе сабакі пасьпяшылі да Бурыбэя—патрывожыць яго аб няшчасьці, якое здарылася. Яны брахалі, хапалі Бурыбэя за полы і цягнулі назад.

Бурыбэй трубіў у ражок. У адказ чуваць было толькі сьвіст жахлівага гурагану.

— З Ульмасам нешта нядобрае здарылася—падумаў стары Бурыбэй, як затрымаў стада і пасьпяшыў да Ульмаса.

Ульмас ляжаў паўзасыпаны пяском, каля яго ляжаў малады баранчык. Ульмас лізаў губы баранчыка.

Бурыбэй яго падняў, даў яму напіцца чыстай вады з сваёй фляжкі. Вада вярнула сілы Ульмасу, і ён падняўся, сорамна яму стала перад старым пастухом.

— Ня памятую, як я паў... памятую толькі, што галава кружылася моцна...

— Завіруха ўжо праходзіць—заспакоіў яго Бурыбэй і паехаў зноў на чале стада. Сабакі засталіся каля Ульмаса. Далёка на краявідзе паказаліся вялікія цёмныя цені.

— Гэта горы—падумаў Ульмас, ён павесялеў, што застаўся ў жывых, што буран канчаецца і што стада, ішакі і ён разам з Бурыбэем нап'юцца дасыта чыстай студзёнай вады.

Данае апавяданьне трэба чытаць ясна, чотка і з належнай інтанацыяй. Для лепшага разуменьня дзецьмі апавяданьня мэтазгодна тлумачыць цяжкія словы зараз-жа, а не пакідаць на канец.

Чытаньне трэба правесьці так, каб апавяданьне зрабіла належнае ўражаньне на дзяцей, асабліва тыя часткі апавяданьняў, у якім ёсьць драматычныя моманты (напр., момант, калі Ульмас падае з ішака і засыпаецца пяском).

Трэба аднак заўсёды мець на ўвазе, што мэта данага апавяданьня заключаецца ня ў тым, каб даваць дзецям уражаньня наогул, але праз іх замацаваць прадстаўленьне вучняў аб пустыні. Мэтай нашага чытаньня ёсьць замацаваньне геаграфічных паняцьцяў. Таму пасьля чытаньня трэба весьці гутарку з дзецьмі, каб выявіць і зафіксаваць прадстаўленьні дзяцей аб пустыні.

Гутарку можна весьці па наступных пунктах:

1. Выгляд пустыні (пяшчаная раўніна, барханы, гарачае сонца).

2. Чаму буран у пустыні такі жахлівы (аграмадныя прасторы, сыпучы гарачы пясок).

3. Адсутнасьць вады (бяруць з сабой запасы з вадой, смага Ульмаса, якая лёгка прыводзіць да аслабленьня і нават да сьмерці).

4. Баязьлівасьць часьці адсталага насельніцтва перад пустыняй, падзякуючы якой іхнім баям (кулакам) і духоўнікам лягчэй падтрымліваць забабоны сярод насельніцтва («пустыня паглынула сонца», спужаўся Ульмас).

5. Заняткі насельніцтва ў пустыні.

Вось прыблізна па якой схеме трэба аналізаваць з дзецьмі апа-

ГПБ Сл.-Лл.

вяданьне. Калі на 3-й гадзіне не ўдасца закончыць гэту работу, яе пераносяць на наступную гадзіну.

Адначасова з гэтай работай задаецца дзецям на дом чытаць адпаведныя геаграфічныя кніжкі.

Чытаньне такіх кніжак абагаціць прадстаўленьне і веды вучняў. Настаўнік павінен сам быць знаёмым з кніжкамі, якія дае вучням чытаць.

Рэкамэндуем дзьве кніжкі:

1. **КАРЫНЦАЎ**—«У пясках пустыні» выд. БДВ, 1930 г. цана 22 кап.

Кніжка дае апісаньне ляндшафту пустыні.

2. **КРУШЫНСКІ**—«Аповесьць пра Турксіб» выд. ДВБ, 1932 г., цана 60 кап.

Можна абмяжоўвацца чытаньнем часткі кніжкі (нарысы 1, 2, 5, і 6).

Кніжка дае прадстаўленьне аб перамозе ў пустыні, аб рабоце Савецкай улады ў Казакстане, аб уцягненьні мясцовага адсталага насельніцтва ў сацбудаўніцтве.

Гэтыя дзьве кніжкі дзеці павінны прачытаць на працягу 2-х тыдняў, праз якія праходзяць даную тэму.

На падставе гэтых кніжак і кляснай прапрацоўкі матар'ялу можна арганізаваць 1—2 даклады вучняў аб пустынях і нашай перамозе ў пустыні.

### *4-я і 5-я гадзіны.*

Пасьля ўсёй прапрацоўкі настаўнік праводзіць з дзецьмі калектыўнае паўтарэньне ўсяго пройдзенага і складае з імі канспэкт усёй работы. Кожны пункт вучні фармулююць пад пільным кіраўніцтвам настаўніка. Настаўнік выпраўляе формулёўкі дзяцей. Яны запісваюць іх у канчатковым выглядзе ў сшыткі. Канспэкт павінен быць кароткім і лёканічным.

Ён можа быць прыблізна наступнага зьместу: пустыні гэта вялізарныя прасторы, пакрытыя сыпучымі пяскамі.

У пустыні дажджоў вельмі мала, таксама вельмі рэдка сустракаюцца крыніцы з вадой.

У пустынях вельмі мала расьлін, або іх зусім няма.

У СССР пустыні знаходзяцца ў Сярэдняй Азіі і Закаўказьзі.

Насельніцтва—казакі, туркмены, таджыкі і ўзьбекі, займаюцца жывёлагадоўляй і земляробствам.

У гарачых пустынях расьце добра бавоўна, калі будзе даволі вады.

Цяпер Савецкая ўлада праводзіць вялікую работу—капаюць каналы, праз якія вада паступае ад рэчак у пустынныя месцы. Мы пустыню ператвараем ў сады і палі.

Зразумела, гэты канспэкт можна ў некаторых мясцох скараціць і дапоўніць іншым матар'ялам.

Па заканчэньні тэмы трэба яшчэ раз паўтарыць па карце зону пустынь, пасьля чаго праводзіцца вучот ведаў вучняў па тэме. Вучот вядзецца альбо праз гутарку (вызываньне вучняў) альбо праз пісьмовую анкету, калі ўсе вучні адказваюць індывідуальна на заданыя запытаньні.

Запытаньні могуць быць наступныя:

1. У якой часьці СССР знаходзяцца пустыні?
2. Што такое пустыня?
3. Чым займаецца насельніцтва пустыні?
4. Што робіць Савецкая ўлада для ператварэньня пустыні ў карысную плошчу?

Пісьмовыя работы вучняў (канспэкт, адказы на запытаньні) настаўнік павінен добра праверыць; прычым трэба зьвярнуць увагу на стыль і на правапіс вучнёўскіх запісак. Прабелы ў ведах часткі вучняў настаўнік будзе запаўняць пазьней, шляхам увязваньня гэтых момантаў з матар'ялам наступных тэм.

---

*І. В.*

# Нумарацыя да 1000

Дзесятковая сыстэма лічэньня (дзесятковая нумарацыя) зьяўляецца геніяльным вынаходзтвам чалавецтва. Геніяльнасьць сыстэмы хаваецца як у спосабе ўтварэньня лікаў, так і ў спосабе іх абазначэньня. У сваю чаргу (у пісьмовым абазначэньні) асабліва важнае значэньне мае вынаходзтва і ўжываньне нуля, і **ўмова** надаваць значэньне цыфры ў залежнасьці ад месца.

Дзесятковай сыстэмай лічэньня практычна валодае кожны вучань нашае школы; да дзесятковай сыстэмы лічэньня не дайшлі геніяльныя матэматыкі антычнага сьвету. Асноўнай рысай геніяльнасьці сыстэмы зьяўляецца яе **прастата.** Гэта-ж і ёсьць асноўная цяжкасьць яе, дзякуючы якой, напэўна, сыстэма ня была вынайдзена ў антычным сьвеце.

Роля нашай школы заключаецца ў тым, каб ня толькі навучыць вучня практычна карыстацца дзесятковай сыстэмай лічэньня (нумарацыя), але і разумець, адчуваць сутнасьць яе.

Што такое намарацыя? Што прынята разумець пад нумарацыяй?

Пад нумарацыяй прынята разумець спосаб: а) **утварэньня лікаў; б) назвы лікаў; в) пісьмовага абазначэньня лікаў.** Тэарытычна ўтварэньне лікаў можа існаваць бяз назвы і пісьмовага абазначэньня іх, утварэньне і назва могуць існаваць бяз пісьмо-

зага абазначэньня лiкаў. Выходзiць, што i ўтварэньне лiкаў, i назва iх, i пiсьмовае абазначэньне розныя бакi нумарацыi.

Пры вывучэньнi з вучнямi нумарацыi на кожнай ступенi, у кожным контуры гэтыя бакi трэба мець на ўвазе i кожны з iх адпаведным спосабам прапрацаваць.

Нiжэй мы прыводзiм апiсаньне ўзорнай лекцыi, праведзенай 5-га лютага 1933 года ў II групе 34-й Менскай ФЗС.

У гэтай лекцыi мы бачым, як навуковыя прынцыпы нумарацыi набылi пэдагагiчнае афармленьне ў рабоце з вучнямi.

Прынцып **утварэньня лiкаў**—утварэньня з дзесяткавых адзiнак (10,100) паказан на наглядных дапаможнiках—пучках запалак. Паказана, што лiкi ў межах сотнi ўтвараюцца з розных камбiнацый гэтых адзiнак: 2 сотнi;

3 сотнi i 4 дзесяткi;
5 соцень, 2 дзесяткi i 4 адзiнкi.

Разам з утварэньнем лiкаў у межах 1000 прапрацаваны i другi элемэнт нумарацыi—**назва лiкаў.**

Пры азнаямленьнi з назвай лiкаў падкрэсьлена, што можна гаварыць, напрыклад, 2 сотнi i 4 дзесяткi i дзьвесьце сорак.

Асаблiва яскрава паказаны трэцi элемэнт нумарацыi—**пiсьмовае абазначэньне**. Гэта прапрацоўка праходзiла наступныя стадыi:—а) адкладваньне на шчотах; б) запiс на сетцы i в) запiс бяз сеткi. Мэта такога разнастайнага ўжываньня наглядных дапамог—паказаць вучням, як мяняецца значэньне цыфры ў залежнасьцi ад месца, а таксама высьветлiць значэньне нуля толькi як цыфры, якой займаецца месца «пустога разраду».

Зусiм зразумела, што такiя прыёмы прапрацоўкi нумарацыi мэтазгодна скарыстаць i пры прапрацоўцы канцэнтра сотнi i канцэнтра любых лiкаў.

## Запiс узорнай лекцыi, праведзенай т. Пiсарчыкам у II гр. 34 Менскай ФЗС, на тэму—Нумарацыя да 1000

### Арганiзацыя лекцыi

а) Лекцыя разьлiчана на 45 хвiлiн;

б) да лекцыi вучнi грунтоўна засвоiлi дзеяньнi ў межах 100;

в) да лекцыi падрыхтаваны наступныя наглядныя дапаможнiкi: 1) навязаны з запалак пучкi па 10 штук (12) i па 100 штук (13); 2) зроблены шчоты (лiчыльнiкi) з чатырох сагнутых дугою вэртыкальных дратоў з нанiзанымi на кожны дрот па 10 штук каштаноў.

## Правядзеньне лекцыі

**Настаўнік.** Вось тут на стале ляжаць запалкі і паасобна па аднэй запалцы і зьвязаныя, арганізаваныя па 10 штук у пучок і па 100 штук у пучок.

Давайце пры дапамозе гэтых запалак будзем праводзіць справу лічэньня. Скажэце, з якімі запалкамі гэту справу можна правесьці лепш, хучэй з арганізаванымі, ці з неарганізаванымі? Скажы, К...

**Вучань.** З арганізаванымі.

**Настаўнік.** Камароў і Крывіцкая, ідзіце да стала лічыць запалкі. Ты, Камароў, будзеш лічыць паасобныя запалкі, а ты, Крывіцкая, будзеш лічыць запалкі, зьвязаныя ў дзесяткі. (Камароў і Крывіцкая лічаць). Стойце.

— Колькі ты, Камароў, налічыў дзесяткаў?

**Камароў:** Дзевяць.

— Колькі гэта запалак? (Дзевяноста).

— Колькі ты, Крывіцкая, налічыла запалак?

**Крывіцкая;** Трынаццаць.

**Настаўнік.** Як бачыце, дзесяткамі можна налічыць куды больш, чым паасобнымі запалкамі.

Цяпер будуць лічыць запалкі Худніцкі і Руманаў: ты, Худніцкі, будзеш лічыць дзесяткамі, а ты, Руманаў, сотнямі (вучні лічаць). Стойце.

— Колькі ты налічыў, Руманаў?

**Руманаў.** Восем соцень.

**Настаўнік.** Запомніце, што восем соцень інакш завецца восемсот.

— Колькі ты налічыў, Худніцкі?

**Вучань.** Дзевяноста.

**Настаўнік.** Цяпер будзем лічыць толькі сотнямі. Выйдзі да стала, Рагуля, адкладвай сотні і гавары колькі адклала.

(Вучаніца адкладвае адну сотню і гаворыць—сто, адкладнае другую і гаворыць—дзьве сотні і г. д.).

**Настаўнік.** Запомніце, што дзьве сотні інакш завуцца дзьвесьце, тры сотні—трыста, чатыры сотні—чатырыста........ а дзесяць соцень інакш завуцца тысяча. Мурох, выйдзі да стала налічы дзесяць соцень, а потым адкладвай па аднэй сотні і называй, колькі застанецца.

(Мурох адкладвае 10 соцень).

**Настаўнік.** Колькі соцень адклаў?

**Мурох.** Дзесяць.

**Настаўнік.** Як інакш завецца 10 соцень?

**Мурох.** Тысяча.

**Настаўнік.** Адлічвай ад тысячы і называй колькі застаецца.

(Мурох называе—тысяча, адкладвае адну сотню і гаворыць—дзевяцьсот і г. д.).

**Настаўнік.** Скажэце, сколькі сантымэтраў у 3-х мэтрах?
— Колькі см. у 8 мэтрах?
— Колькі см. у 10 мэтрах?
— Колькі капеек у 2-х рублях?
— Колькі капеек у 4-х рублях?
— Колькі кілёграмаў у адным цэнтнеры?
— Колькі кілёграмаў у 5 цэнтнерах?
— Колькі мэтраў выйдзе з 600 сантымэтраў?
— Колькі рублёў выйдзе з 1 000 капеек?
— Колькі цэнтнераў выйдзе з 700 кілёграм?

**Настаўнік.** Ты, Мялешка, будзеш браць у рукі і паказваць клясе столькі запалак, колькі я назаву, а ты, Аскерка, гэты лік будзеш адкладваць на шчотах (Настаўнік называе лікі—190, 380, 520, 730, 910).
Мятліцкі, вазьмі ў рукі 1 сотню, 2 дзесяткі і 5 паасобных запалак.
— Назаві гэты лік найкарацей, П...
— (Сто дваццаць пяць).
— Ж., вазьмі ў рукі і пакажы клясе 4 сотні, 3 дзесяткамі і
— 2 запалкі
— К... назаві гэты лік каротка.

**Настаўнік.** Ты, Баравы, вазьмі ў рукі сто трыццаць сем запалак, а ты, Грымкевіч, адкладзі гэты лік на шчотах... (Гэтыя-ж вучні па загаду настаўніка адкладваюць яшчэ 246; 548; 731).
Лічы, Паўлюкевіч, ад 195 да 205 па парадку.
Цяпер колькасьць адабраных запалак мы будзем ня толькі адкладваць на шчотах, але і запісваць на дошцы.
Для гэтага мы нарысуем на дошцы 4 палосы, вось так:

| Тысяча | Сотні | Дзесяткі | Адзінкі |
|---|---|---|---|
| | 2 | 3 | |

Я бяру 2 сотні і 3 дзесяткі запалак. Гэты лік запалак можна інакш назваць **дзьвесьце трыццаць.**

— Назавеце мне інакш чатыры сотні і 2 дзесяткі, К...

— Назавеце інакш 1 сотню і 8 дзесяткаў, Л..

— Колькі выйдзе сантымэтраў з 2-х мэтраў і 5 дэцымэтраў? З 3-х мэтраў і 6 дэцымэтраў?

— З 250 запалак колькі выйдзе соцень і дзесяткаў Б..?

— З 460 запалак колькі выйдзе соцень і дзесяткаў В..?

Ты, Мялешка, вазьмі ў рукі 230 запалак, а ты, Аскерка, адкладзі на шчотах гэты лік.

— Чаму ты адкладваеш на трэцім дроце 2 каштаны?

— Адклаў на трэцім дроце 2 каштаны таму, што соцень дзьве.

— Чаму ты адкладваеш на другім дроце тры каштаны?

— Адклаў на другім дроце 3 каштаны таму, што дзесяткаў тры.

Пры адкладваньні на шчотах ліку 300, мы на трэцім дроце адкладвалі тры каштаны. На нашай сетцы гэты лік мы можам запісаць, паставіўшы цыфру 3 у паласе соцень. Пры адкладваньні на шчотах ліку 230 мы на трэцім дроце адкладвалі 2 каштаны, на другім 3, а першы дрот заставаўся пустым.

Пры запісу гэтага ліку на сетцы мы паставілі цыфру 2 у паласе соцень, цыфру тры ў паласе дзесяткаў, а паласа адзінак застаецца пустою.

— Катораму дроту адпавядае паласа дзесяткаў, Д..?

— Катораму дроту адпавядае паласа соцень? адзінак?

Дзесяць соцень можна адзначыць на шчотах, палажыўшы 10 каштанаў на трэцім дроце, альбо адзін каштан на чацьвертым дроце. Вось так (настаўнік паказвае). Так сама і на сетцы можна запісаць 10 соцень, напісаўшы ў паласе соцень лік 10, але пры запісе 10 соцень пішуць у чацьвертай паласе (паласа тысяч) цыфру 1 і чытаюць АДНА ТЫСЯЧА.

Гамаліцкі, і Бруханскі пойдуць да стала, Ліворка да дошкі. Гамаліцкі будзе браць у рукі і паказваць клясе столькі запалак, колькі я скажу.

Бруханскі будзе гэты лік адкладваць на шчотах, а Ліворка гэты-ж лік будзе запісваць на дошцы (на сетцы).

(Настаўнік дыктуе лікі: 300, 600, 120, 340, 720, 125, 360, 506, 102, 304, 809. Гамаліцкі паказвае адпаведную колькасьць пучкоў запалак, Бруханскі адкладвае на шчотах, а Ліворка запісвае на сетцы, пасьля чаго вучні садзяцца на сваіх мясцох).

Цяпер запішам гэтыя лікі на дошцы бяз сеткі.

Лік трыста запісваецца так: 300 (цыфра тры і два нулі). Параўнайце гэты запіс з запісам на сетцы і з адзнакай на шчотах.







3 0 0 1 2 0

| т. | с. | дз. | адз. |
|---|---|---|---|
| | 3 | | |
| | 3 | 0 | 0 |

| с. | дз. | адз. |
|---|---|---|
| 1 | 2 | |
| 1 | 2 | 0 |

Крайні з правага боку дрот пусты, крайняя з правага боку палоска пустая, крайняя цыфра з правага боку **НУЛЬ**.

Дрот дзесятка пусты, паласа дзесяткаў пустая, у пісьмовым абазначэньні на месцы дзесяткаў стаіць нуль. Такім чынам нуль адпавядае пустому дроту, альбо пустой паласе. Нуль абазначае пустое месца.

На дроце соцень адкладзены 3 каштаны, у паласе соцень напісана цыфра 3, у запісе бяз сеткі на **трэцім** месцы стаіць цыфра 3.

Параўнайце запіс ліку 120 бяз сеткі з запісам па сетцы і з адзнакай на шчотах.

Наперад клясы хай выйдуць 4 вучні—А., Б., В., Г.

Ты, А, будзеш набіраць запалкамі і паказваць клясе тыя лікі, якія ён назваў, ты, Б, будзеш гэтыя лікі адкладваць на шчотах, ты, В, будзеш запісваць на сетцы, а ты, Г, будзеш запісваць бяз сеткі.

(Вучні выходзяць на клясу і пад дыктоўку настаўніка паказваюць адпаведную колькасьць на запалках, адкладваюць на шчотах, запісваюць на сетцы і бяз сеткі).

У канцы лекцыі настаўнік паказаў вучням наступную гульню ў нумарацыю.

Да дошкі выкліканы трое вучняў. Крайні з правага боку ад клясы павінен пальцамі паказваць колькасьць адзінак у ліку. Гэты вучань адпавядае дроту адзінак, а кожны яго палец— каштану на гэтым дроце. Другі вучань адпавядае дроту дзесяткаў, а трэці дроту соцень. Калі дзеці сэнс гульні зразумелі, яны па загаду настаўніка абазначалі лікі 231, 306, 402 і іншыя.

На гэтым лекцыя скончылася.

---

*І. Марголін (Арнольдзі)*

# За сыстэматычную пэдпрапаганду*)

1

Будаўніцтва сацыялістычнай школы, той школы, якая павінна ператварыцца «са зброі клясавага панаваньня буржуазіі— у зброю поўнага зьнішчэньня падзелу грамады на клясы, у зброю камуністычнага перараджэньня грамады» немагчыма без найшырэйшага ўдзелу савецкай пралетарскай грамадзкасьці, без актыўнейшага ўдзелу ў гэтым будаўніцтве саміх бацькоў вучняў. Удзел савецкай грамадзкасьці ў будаўніцтве нашай школы, асабліва важны на даным этапе, калі ўсеагульная школьная асьвета ў краіне, пачатковая і сярэдняя школа высунуты, як рашаючыя зьвеньні нашай культурнай рэвалюцыі.

Пастанова ЦК аб школе ад 25-га жніўня 1932 году пытаньне аб удзеле грамадзкасьці і бацькоў вучняў у рабоце школы асабліва падкрэсьлівае. Зьвяртаючы ўвагу адміністрацыі школы і пэдагогаў на парушэньне парадку ў ёй, ЦК «абавязвае загадчыкаў школ і пэдагогаў павесьці настойлівую выхаваўчую работу, змагаючыся з учынкамі вучняў, якія парушаюць парадак у школе, прыцягваючы да гэтай справы грамадзкія арганізацыі, бацькоў, камсамольскія і піянэрскія арганізацыі».

Тое-ж самае паўтарае, і на гэтым пункце асабліва акцэнтуе сваю увагу, Наркамасьветы РСФСР у пастанове ад 19/IX-32 году ў сувязі з вызначэньнем практычных мерапрыемстваў па выкананьні пастановы ЦК УсеКП(б) аб вучэбных праграмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе.

Там мы чытаем такі пункт: «пэдагогі павінны прыцягнуць да гэтай задачы (да барацьбы за сьвядомую дысцыпліну ў школе) бацькоў і бацькоўскія арганізацыі. Школа павінна быць шчыльнейшым парадкам зьвязана з сям'ёй. Сям'я значна больш, чым да гэтага часу, павінна павярнуцца да школы, аказваючы ёй

---

*) Ад рэдакцыі:
Артыкул друкуецца ў парадку абгаварэньня.

усямернае садзейнічаньне ў выкананьні важнейшых задач выхаваньня і абучэньня падрастаючага пакаленьня».

Пастанова ЦК і тлумачэньні да яе, такім парадкам, апрача ўсяго іншага, вырашылі адну вельмі сур'ёзную праблему, якая на працягу некалькіх год абгаварвалася ў настаўніцкім асяродзьдзі, у нашай пэдагагічнай літаратуры. Сапраўды, ці павінна школа зьвяртацца за дапамогаю бацькоў, альбо не павінна, пры чым, шмат хто з пэдагогаў выказваліся супроць запрашэньня, бо нельга-ж, рукамі бацькоў біць дзіцёнка, а гэта часта бывае, калі запрашаеш бацькоў у школу.

Ад часу апублікаваньня пастановы ЦК аб школе прайшло аж паўгода. Як-жа школа рэалізуе пастанову ў гэтай галіне, якія тут бываюць непаразуменьні і што неабходна рабіць, каб ніякіх скрыўленьняў у гэтай справе ня было. Вось той комплекс пытаньняў, якія мы ставім сабе мэтай разьвязаць у даным артыкуле.

У нашым распараджэньні інфармацыі пяці буйных гарадзкіх школ па гэтым пытаньні. Дамо слова гэтым школам.

Ш к о л а № 1. Сувязь школы з бацькоўскай масай ня вельмі моцная. Бацькі выклікаюцца ў школу, але ня часта. Прычыны выклікаў—недысцыплінаванасьць вучняў, калі сама школа ня ў сілах весьці барацьбу з дзецьмі. Школа ўжывае таксама вывучэньне жыцьця дзіцяці дома. Іншы раз самі бацькі зьвяртаюцца ў школу, просячы дапамогі ў выкладчыкаў.

Есьць тэндэнцыя ў маці (больш чым у бацькі) замаскаваць (загладзіць) учынкі сваіх дзяцей. Вось адзін з найбольш характэрных фактаў.

Хлопчык 10—11 год украў у школе 22 рублі. Пры допыце, калі знайшлі ў яго грошы, ён запэўняў, што гэтыя грошы дала яму маці. Члены Камсоду зараз-жа накіраваліся да яе.—Вы давалі вашаму дзіцёнку грошы? Колькі далі? Маці загубілася, але потым пачакаўшы троху сказала, што дала, блытаючыся ў лічбе і наяўна стараючыся захаваць гэты праступак сына.

Тлумачэньне пастановы ЦК рабілася на агульным сходзе бацькоў, асобнай прапрацоўкі па групах ня было.

Ш к о л а № 2. У школе больш тысячы вучняў. Вызавы бацькоў у школу бываюць у двух выпадках, калі дзіцёнак непасьпявае, альбо калі ён дрэнна сябе трымае.

Адзін выкладчык па чарзе выклікаў усіх бацькоў сваей групы і шмат з імі гутарыў аб працы дзяцей, дазнаўся падрабязна, як жывуць дзеці дома, чым цікавяцца. Вынікі гэтай працы даволі станоўчыя, бацькі гэтай групы сталі больш цікавіцца школай, мэтадамі яе працы. І ў гэтай школе нагляцаюцца выпадкі абароны дзяцей, асабліва з боку маці. Быў выпадак і другога парадку: маці пабіла дзіцёнка ў клясе.

У гэтай школе практыкуюцца выклікі бацькоў і тады, калі невядома чаму дзіцёнак некалькі дзён запар ня ходзіць у школу.

Пастанова ЦК аб школе распрацавана ва ўсіх групах. У сувязі з гэтай прапрацоўкай у школе арганізавана бацькоўская

сэкцыя па барацьбе з адставаньнем дзяцей, з іх недысцыпліна-ванасьцю. Існуюць таксама групавыя бацькоўскія камітэты, якія наглядаюць, галоўным парадкам, за дзіцячай санітарыяй.

Комсод, чамусьці працуе дрэнна. Мабыць дзякуючы таму, што няўдалы старшыня, ён неразумее сваіх функцый, а жадае ўмешвацца ва ўнутранае жыцьцё школы.

Школа №3. Тут толькі бацькі выклікаюцца па такіх прычынах: альбо па непасьпяховасьці, альбо з выпадку дрэнных паводзін. Сыстэматычнай працы з бацькамі ня было. Пастанова ЦК аб школе была абгаворана на агульным бацькоўскім сходзе так між іншым.

У гэтай школе быў выпадак калі пасьля выкліку бацькоў у школу (маці) дзіцёнка пабілі, праўда ня ў клясе, а ў калідоры.

Школа № 4. Тут праводзіцца плянамерная сыстэматычная работа з бацькамі. Ужываецца сыстэма вылучэньня бацькоў на пэдагагічную работу ўнутры школы. Школа нацыяльная (польская) мае інтэрнат для прыежджых дзяцей. Ступені вылучэньняў. Маці—актыўны член Камсоду. Цікавіцца працай школы. Пісьменная. Займае спачатку пасаду выхавальніцы ў інтэрнаце, а потым і настаўніцы. Адна маці працуе ў буфэце, другая служыць кухаркай у сталоўцы школы. Гэта дае станоўчыя рэзультаты.

Часта вылучаюцца бацькоўскія брыгады па абсьледваньні інтэрнату, гаспадарчага жыцьця школы. Такім парадкам, бацькі ўцягваюцца ў жыцьцё школы, пачынаюць жыць яе інтарэсамі.

Практыкуецца, як і ў іншых школах выкліканьне бацькоў. Тэндэнцыя некаторых бацькоў захоўваць праступкі дзяцей наглядаецца і ў гэтай школе.

Школа №5. Жыве ў асаблівых умовах, на ўскраіне гораду, у старабрадзкім абкружэньні, дзе даволі глыбакі яшчэ карэньні старых звычак, як кажуць, пахне дамастроем.

Бацька, як правіла, у школу не выклікаецца, бо выкладчыкі ўпэўнены, што пасьля гэтага будуць пабоі, а іншы раз даволі моцныя. Выклікаецца маці.

Але тут тэндэнцыя захаваць выступае яшчэ ярчэй, чым у іншых школах (маці сама баіцца, каб справа не дайшла да бацькі). Маці тут, у большасьці, малапісьменная, адсталая. На дрэнныя ўчынкі дзіцёнка часта не рэагуе. Вось найбольш характэрны факт з гэтай школы.

Два хлапчукі заходзяць у настаўніцкую прасіць пасьведчаньне. У справавода на стале грошы—пэнсія для настаўнікаў. Угледзеўшы, калі спараватод адышоў за блянкам для пасьведчаньня, адзін з вучняў забірае 200 руб., дзеліць пароўну са сваім сябрам. Грошы прыносіць дамоў, перадае маці, а тая на гэта не рэагуе, не пытае, дзе хлопчык узяў грошы і колькі.

Факт другі. Праз вуліцы ускраіны ідуць цэлую восень сялянскія падводы з прадуктамі ў горад. Дзеці школы налаўчыліся забіраць з воза на хаду розныя прадукты і тут-жа іх рэалізуюць.

Гэта адбываецца на вачох усіх. Бацькі бачаць, чым займаюцца іх дзеці, але ніхто на гэта не зьвяртае сур'ёзнае ўвагі.

Праца з бацькамі, па засьведчаньні самога заг. школы, вядзецца вельмі слаба. Больш таго, яна (работа гэта) нават аслабла ў параўнаньні з мінулымі гадамі. Прынамсе, такая думка ў многіх настаўнікаў.

На гэтых фактах спынімся. Як бачыце мы ўзялі на выбар розныя школы, тут і буйныя гарадзкія школы №№ 1, 2, 3, школа нацменшасьцей і школа ускраіны. Праўда, некаторая праца ў гэтых школах з бацькамі вядзецца, але ў агульным яны ні чым рэзкім адна ад аднэй не адрозьніваюцца.

А вывады са ўсяго сказанага?

Мы можам іх рэзюмаваць у наступных палажэньнях:

1. Ня гледзячы на пастанову ЦК УсеКП(б) аб сыстэматычнай рабоце з бацькамі, гэткая ў гарадзкіх школах не вядзецца, альбо, ва ўсякім разе, вядзецца надзвычайна слаба, у вельмі нездавальняючых памерах і нават пастанова ЦК прапрацавана недастаткова глыбока.

2. Адсутнасьць сыстэматычнай глыбокай работы з бацькамі прыводзіць у шэрагу выпадкаў да непажаданых зьяў: а) бацькі, вельмі часта неразумеюць задач школы ў галіне выхаваньня, неразумеюць, чаму іх прыцягваюць для гэтай работы, а бываюць выпадкі, калі некаторыя бацькі наяўна стараюцца выгарадзіць дзіцёнка, узяць яго пад сваю абарону, а часамі нават нападаюць на школу за дрэнныя, нібы-та, адносіны да іх дзяцей.

б) Запрашэньне бацькоў у школу іншы раз канчаецца біцьцём дзяцей, альбо іншымі пакараньнямі антыпэдагагічнага характару.

3. Работа з бацькамі ў школе ў апошнія часы нават аслабла супроць папярэдніх гадоў. Працаўнікі школы гэта тлумачаць тымі акалічнасьцямі, што ў апошнія гады ўвага школы была згуртавана на другіх надзвычайна важных задачах, на палітэхнізацыі, на барацьбе за пісьменнасьць, а таму работа з бацькамі была здсунута на задні плян.

## II

Пастанову ЦК, у пункце аб прыцягненьні бацькоў у школу для супольнай выхаваўчай работы, зразумелі вельмі прымітыўна, калі не сказаць горш. Бацькі выклікаюцца толькі ў выключных выпадках, калі школа сама ня зможа справіцца з дзіцёнкам, і толькі. Аб сыстэматычнай-жа пэдпрапагандзе, аб выхаваўчай рабоце з самымі бацькамі школа да гэтых часоў сур'ёзна не падумала. Адсюль і тыя адмоўныя моманты, якія нам нярэдка прыходзіцца наглядаць пры выкліку бацькоў у школу, што ў аснове скажае пастанову ЦК.

Якія-ж адсюль ідуць вывады?

Работу з бацькамі патрэбна паставіць на іншыя рэйкі. Школа

павінна зьвязацца з сям'ёй ня толькі ў крытычныя хвіліны жыцьця дзіцёнка, ня толькі тады, калі школа сама адчувае сябе бясьсільнай выправіць паводзіны дзіцёнка. Сям'я павінна быць поўным дапаможнікам школе ў камуністычным выхаваньні маладога пакаленьня, павінна дапамагчы школе выхаваць пакаленьне, здольнае пабудаваць сацыялістычную грамаду. Сям'я, такім парадкам, павінна быць прасякнута тымі-ж ідэаламі інтэрнацыяналізму, што і школа, быць антырэлігійнай, павінна разумець сутнасьць клясавай барацьбы на даным этапе, разумець у правільным асьвятленьні жыцьцёвыя працэсы, якія адбываюцца вакол нас. А ўсяго гэтага бяз правільнай сыстэматычнай работы з бацькамі дасягнуць нельга.

Наша школа мае, зазвычай, 3—4 разы ў год склікаць бацькоўскія сходы, як групавыя, так і агульна-школьныя. Але тэма гэтых сходаў больш за ўсё справаздачнага характару. Загадчык, звычайна, робіць даклад у агульных рысах аб працы школы, апавядае аб матар'яльнай забясьпечанасьці школы, а групавод апавядае аб працы групы, аб пасьпяховасьці вучняў і г. д. Мы, бязумоўна, ня супроць гэтых сходаў, ні супроць іх зьместу. Аднак, трэба прызнацца, што такія сходы недастаткова выхоўваюць бацькоў і абмяжоўвацца толькі такой работай з бацькамі, няўна недастаткова. Наша работа з бацькамі на даным этапе павінна быць больш глыбокай і павінна ставіць сваёй мэтай сыстэматычна выхоўваць бацькоўскую масу на актуальных праблемах школьнага жыцьця, узьняўшы гэтыя праблемы на патрэбную палітычную вышыню. Нам неабходна пабудаваць работу з бацькамі так, каб сям'я стала надзейным дапаможнікам школы, каб школа ў сваім камуністычным выхаваньні змагла поўнасьцю абаперціся на сям'ю.

Надалей, мы прапануем шэраг тэм для прапрацоўкі з бацькамі, вызначаючы ў кароткіх рысах і зьмест іх. Гэта мы робім з той мэтай, каб настаўнік мог карыстацца гатовымі тэзісамі, што, бязумоўна, аблегчыць яму гэту задачу.

З чаго пачаць?

Выходным момантам, па нашай думцы, павінны быць пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе. Яны яшчэ сярод бацькоўскай масы прапрацаваны слаба, а шмат якія бацькі аб іх і ня ведаюць.

Прапрацоўку матар'ялу прапануем па наступным пляне:

ТЭМА № 1.

**1. Партыя аб усенавучы і школе.** Падрыхтоўка новых кадраў, камуністычнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня—заўсёды стаялі ў цэнтры ўвагі партыі.

**2. Значэньне пастаноў ЦК аб школе ад 5-га верасьня 1931 года і ад 25-га жніўня 1932 году.**

Пастановы ЦК уздымаюць наша школьнае будаўніцтва на новую вышыню.

ГПБ 84-3а

**3. Аб асноўным недахопе школы і як яго ліквідаваць.**

**Задачы бацькоў у дапамозе школе па барацьбе за аўладаньне асновамі навук.**

**4. Аб укараненьні сьвядомай пралетарскай дысцыпліны ў школе.**

Бацькам неабходна ўмацаваць сувязь са школай у выхаваўчых мэтах сваіх-жа дзяцей.

**5. Сувязь паміж бацькамі і дзіцячымі школьнымі арганізацыямі.**

Шляхі і формы гэтай сувязі павінны дапамагаць зьбліжэньню паміж бацькамі і вучнёўскай масай.

ТЭМА № 2.

У тых школах, дзе дысцыпліна вельмі нездавальняючая, неабходна, па нашай думцы, правесьці асобую гутарку з бацькамі аб дысцыпліне, абгаварваючы разам з імі канкрэтныя шляхі і мэтады па зжываньні тых ненармальнасьцяй, якія наглядаюцца ў гэтай галіне. Вось, прыкладны, плян такой гутаркі:

1. Неабходнасьць сьвядомай дысцыпліны ў савецкай школе, як зарука пасьпяховасьці камуністычнага выхаваньня.

2. Прычыны дрэнных паводзін дзяцей. Роля настаўніка ў наладжваньні дысцыпліны.

3. Як уплываюць дрэнныя паводзіны вучняў на засваеньне асноў навук. Ілюстраваць прыкладамі школьнага жыцьця.

4. Роля цьвёрдага школьнага рэжыму ў наладжваньні дысцыпліны вучняў.

5. Хатнія абставіны і іх уплыў на паводзіны вучняў. Роля сям'і ў выпрацоўцы сьвядомай дысцыпліны ў дзяцей.

ТЭМА № 3.

Страх і пакараньне ў жыцьці дзяцей. Лічым неабходным гэта пытаньне вылучыць асобнай гутаркай, хаця, бязумоўна, з пытаньнем аб пакараньнях будзем мець справу, калі будзем гаварыць аб дысцыпліне. З апытаных намі школ, 50% зазначалі на тое няпрыемнае становішча, што бацькі б'юць сваіх дзяцей і часамі вельмі моцна. У некаторых школах баяцца выклікаць бацьку таму, што пасьля гэтага, бязумоўна, пасьлядуюць пабоі. У некаторых сем'ях дзеці вельмі запалоханы і жах перад пакараньнямі робіць іх нэрвовымі і неўраўнавешанымі. Вось выпадак са школьнага жыцьця.

Вучань IV групы, 13 год, дрэнна сябе трымае на ўроках, не пасьпявае. Выклікаецца маці ў школу і вучню робіцца папярэ-

джаньне. Вучань ня стрымаў сваіх абяцаньняў і група пастанаўляе выслаць яго на некалькі дзён са школы і паведаміць бацькам. На рашэньне групы хлопчык адказвае істэрычным плачам, ён увесь пасінеў, дрыжыць нібы-та яго вельмі трэсла ліхаманка і ўвесь час крычаў: «толькі не скажэце маме, я больш ня буду». На крык дзіцёнка прышла загадчыца школай. Прайшло вельмі шмат часу пакуль вучань троху запакоіўся і змог расказаць, што дома яго білі і палохалі, што калі ён ізноў будзе сябе дрэнна трымаць, яго выганяць з дому.

На гэтым прыкладзе мы ясна бачым, што вельмі часта бацькі ўжываюць у адносінах да сваіх дзяцей далёка не пэдагагічныя меры і, замест таго, каб выпрацаваць у дзіцёнка ўстойлівасьць характару, сьвядомыя адносіны да сваёй справы, яны выхоўваюць раба, дзе баязьлівасьць мяжуецца з жывёльным страхам перад пакараньнем.

На гэтыя адмоўныя моманты надзвычайна важна зьвярнуць увагу бацькоў у час гутаркі з імі на гэту тэму.

Тэма аб страху і пакараньні ў жыцьці дзіцёнка можа быць пабудавана па наступным пляне:

1. Як патрэбна разумець пастанову ЦК аб школе аб прыцягненьні бацькоў да выхаваньня вучня.
2. Чаму нельга ўжываць да дзяцей фізычныя меры ўзьдзеяньня і які адмоўны ўплыў мае страх у жыцьці дзіцёнка.
3. Ці можна саўмясьціць фізычнае пакараньне з прынцыпамі камуністычнага выхаваньня дзяцей.
4. Мэты і задачы выхаваньня ў старую царскую эпоху і ў эпоху будаўніцтва сацыялізму.
5. Вынікі выхаваньня дзіцёнка праз страх—хлусьлівасьць, баязьлівасьць, рабалепства.

## ТЭМА № 4.

Чаму мы вядзем барацьбу з рэлігіяй і выхоўваем дзяцей у антырэлігійным руху.

Неабходнасьць гэтай тэмы падказваецца тымі акалічнасьцямі, што наш вучань яшчэ даволі часта знаходзіцца ў рэлігійным абкружэньні і калі не непасрэдна бацькі (а іншы раз і яны самі), дык розныя бабулькі і цётачкі вельмі часта ўплываюць на дзіцёнка, прышчапляючы яму рэлігійныя настроі. Сям'я, такім парадкам, уступае ў рэзкі канфлікт са школай, дзе пытаньне «хто каго» незаўсёды рашаецца ў карысьць апошняй.

Антырэлігійная прапаганда, наогул кажучы, праводзіцца яшчэ даволі слаба. Шмат хто памылкова думае, што з рэлігіяй у нас скончана і таму няма чаго дарэмна траціць сіл для змаганьня з ёю. Ня трэба шмат даводзіць, што такі погляд зьяўляецца сугуба апартуністычным і нічога агульнага ня мае з сапраўдным стано-

вішчам. Рэлігія зьяўляецца самым магутным сродкам клясавай барацьбы і шырока выкарыстоўваецца былой эксплёататарскай клясай у горадзе і кулаком на вёсцы для сваіх клясавых мэт. Неабходна, каб школа прымала самы актыўны ўдзел у барацьбе з рэлігіяй, з яе ўплывам на адсталыя пласты насельніцтва, выкарыстоўваючы гэту барацьбу і для нашых непасрэдна пэдагагічных мэт. Гутарку можна будаваць па такім пляне:

1. Каму выгадна вера ў бога і чаму эксплёататарскія клясы так трымаюцца за рэлігію.

2. Камуністычная партыя і рэлігія. Выказваньні Леніна аб рэлігіі.

3. Рэлігія—тормаз для нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

4. Задачы другой пяцігодкі ў галіне перапрацоўкі сьвядомасьці людзей і рэлігія.

5. Камуністычнае выхаваньне ў школе і рэлігійнае выхаваньне дома—канфлікт у псыхіцы дзіцяці паміж гэтымі двумя палажэньнямі.

6. Бацькі павінны дапамагчы школе ў яе антырэлігійнай рабоце.

Калі хто сачыў за жыцьцём школы, дык мог заўважыць, што з інтэрнацыянальным выхаваньнем дзяцей ня ўсё ў нас добра. Вылазкі вялікадзяржаўнага шавінізму, вузкай нацыянальнай абмежаванасьці, антысэмітызму, слова «жыд», «гой», «хам» і т. п. пэрлы даволі яшчэ часта можна спаткаць у лексыконе нашых дзяцей. Школа супроць усіх гэтых зьяў вядзе даволі энэргічную барацьбу, але нельга сказаць, што заўсёды з аднолькавым посьпехам. Антыінтэрнацыянальныя настроі дзяцей, бязумоўна, прадукт хатняга асяродзьдзя. Таму клапоты нашы аб інтэрнацыянальным выхаваньні павінны распаўсюджыцца і на бацькоў. Бязумоўна, карысна таму правесьці з бацькамі гутарку на тэму аб інтэрнацыяналізьме.

### ТЭМА № 5.

Інтэрнацыянальнае выхаваньне ў школе і задачы сям'і.

Плян прапрацоўкі тэмы:

1. Каленіяльная палітыка царскай Расіі і сацыяльна-эканамічныя карэньні вялікадзяржаўнага шавінізму.

2. Сутнасьць і прычыны прыгнечаньня так званых «інародцаў».

3. Клясавая сутнасьць антысэмітызму. Чаму царская Расія больш за ўсё прыгнятала яўрэяў. Якіх іменна?

4. Як вырашаецца нацыянальнае пытаньне партыяй і савецкай уладай.

5. Наша сацыялістычнае будаўніцтва. Рост эканамічнай магутнасьці нашых ускраін і эканамічны дабрабыт яўрэйскага працоўнага насельніцтва.

6. Нашы дасягненьні ў галіне будаўніцтва культуры, нацыянальнай па форме і пралетарскай па сваім зьмесьце.

7. Чаму нам так каштоўны лёзунг: «Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся» і чаму контррэвалюцыйнай зьяўляецца сутнасьць усякай нацыянальнай разрозьненасьці.

8. Інтэрнацыянальнае выхаваньне ў школе і задачы бацькоў.

Зусім зразумела, што пералік усіх гэтых тэм можна павялічыць, іх можна таксама будаваць інакш. Галоўнае, аднак, мець на ўвазе наступнае: пэдагагічную прапаганду ў асяродзьдзі бацькоў патрэбна праводзіць больш стала, сыстэматычна, уключаючы гэту работу ў гадавы плян работы школы цалкам. Пэдпрапаганда надзвычайна важны разьдзел школьнай работы і кожнаму пэдагогу неабходна таксама вывучыць мэтодыку гэтай справы. Пры ўмелым падыходзе да бацькоўскай масы, а гэта магчыма ў школьнай аўдыторыі куды лепш, чым скажам у аўдыторыі клюбнай, мы, бязумоўна, дастанемся ў гэтай справе станоўчых вынікаў і тым самым выжывем тыя скрыўленьні, якія яшчэ ў сучасны момант можна наглядаць у справе сувязі паміж школай і сям'ёй.

## III

Школа ў галіне пэдпрапаганды ня можа абмежавацца толькі вузкімі рамкамі сям'і. Яна працуе ў абкружэньні пралетарскай грамадзкасьці, яна прымацавана да фабрыкі, альбо заводу, да МТС, альбо саўгасу. Неабходна зацікавіць шырокую пралетарскую грамадзкасьць работай школы, неабходна зрабіць так, каб рабочы актыў нашых фабрык і заводаў, каб калгасны актыў сваім удзелам у рабоце школы палепшылі пастаноўку школьнай справы, узброілі-б яе для выкананьня тых задач, якія пастаўлены перад школай у сучасны момант.

Якое становішча ў гэтай галіне мы маем зараз?

У апошнія гады, у зьвязку з палітэхнізацыяй, дамагліся таго, што ўсе нашы школы прымацаваны да тых альбо іншых гаспадарчых арганізацый. Згодна існуючых дагавароў гэтыя гаспадарчыя арганізацыі так альбо інакш даюць дапамогу школе, але далей гэтага нашы гаспадарчыя арганізацыі ня ідуць. Складанае жыцьцё школы, з яе дасягненьнямі і недахопамі, з яе добрымі і дрэннымі бакамі выпадае з поля зроку гаспадарчых арганізацый, знаходзіцца ня ў коле ўвагі шырокай пралетарскай грамадзкасьці.

Запытайце любога загадчыка, ці ўдалося яму хоць-бы наставіць даклад аб працы школы на фабкоме. Толькі рэдкія, як кажуць шчасьліўцы, дадуць вам станоўчы адказ. Агрaмадная-ж большасьць стане вам апавядаць цэлую аповесьць аб тым, як яны дамагаліся гэтага, выпрабоўвалі для гэтага ўсе сродкі, але дарэмна.

З гэтымі раўнадушнымі адносінамі да школы патрэбна раз і на заўсёды пакончыць. Нам, ад гаспадарчых пралетарскіх арганізацый, патрэбна ня толькі грашовая дапамога, ня толькі прадметы абсталяваньня для нашых школьных майстэрань (і гэта надзвычай важна і патрэбна), але куды больш важна іх пралетарскае садзейнічаньне ў нашай вялікай справе, у выкананьні «адказных і ганаровых абавязкаў па навучаньні і выхаваньні маладога пакаленьня Саюзу Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік» (з пастановы ЦК ад 25-га жніўня 1932 года).

Але як павярнуць гэта рэчышча пралетарскай грамадзкасьці ў наш бок? Ці не зьяўляецца сама школа ў пэўнай ступені вінаватай у гэтым становішчы? Трэба сказаць, што так, зьяўляецца! Школа да гэтага часу надзвычайна мала зрабіла, каб зацікавіць адпаведным чынам пралетарскую і калгасную грамадзкасьць сваёй работай і пытаньне аб пэдпрапагандзе, на даным вучастку, высоўваецца з усёй сваёй актуальнасьцю.

З чаго пачаць і як паставіць гэтую работу?

Нам здавалася-б, што ў рабочую аўдыторыю патрэбна пайсьці ня толькі з агульнымі школьнымі праблемамі, але з канкрэтнымі пытаньнямі школьнага жыцьця, высьветліўшы перад імі актуальныя пытаньні дня. У пачатку было-б надзвычайна важна на рабочых сходах, сярод іншых пытаньняў паставіць, напрыклад, і такія:

1. Як мы змагаемся ў школе за аўладаньне асновамі навук і якія дасягненьні мы маем у гэтым змаганьні. Што перашкаджае правесьці ў жыцьцё пастанову ЦК.

2. Як і чаму мы змагаемся за сьвядомую дысцыпліну ў школе і якія ёсьць вынікі.

3. Як забясьпечаны вучні падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі, гарачымі сьнеданьнямі і інш. і якую дапамогу ў гэтай справе аказвае школе пралетарская грамадзкасьць.

4. Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне ў школе, якімі формамі і мэтадамі мы гэтую работу праводзім, яе дасягненьні і недахопы.

Пранікнуць у рабочую аўдыторыю, зацікавіць пралетарскую грамадзкасьць школьнымі праблемамі можна ня толькі праз выступленьні. Чаму-б, напрыклад, школе не арганізаваць выстаўку дзіцячых работ, як у галіне аўладаньня ведамі, так і ў галіне працоўнага абучэньня, у рабочых сталоўках, у клюбах. Добра арганізаваная выстаўка пакажа рабочаму, як школа сапраўды перабудоўваецца і расьце, як школа змагаецца за выкананьне пастановы ЦК. Такія выстаўкі льга і карысна арганізоўваць у час роз-

ных канфэрэнцый, у дні пралетарскіх сьвят, да розных урачыстых фабрычных сходаў, якіх ня мала ў жыцьці нашых фабрык і заводаў. І зусім непатрэбна, каб кожная школа выконвала гэту задачу асобна, што можа быць ёй немагчыма. Аб'яднаная работа некалькіх школ у гэтай галіне, якія абслугоўвалі-б сваімі выступленьнямі і выстаўкамі пэўныя прадпрыемствы, тым больш пажадана, паколькі такая канцэнтрацыя сіл дасьць больш станоўчых вынікаў.

Патрэбна ўсяляк практыкаваць і мастацкія выступленьні дзяцей на рабочых вечарах. Бацькам і рабочым, наогул, такія выступленьні прадстаўляюць надзвычайную прыемнасьць, нават пры мінімальнай мастацкай іх каштоўнасьці. Клубныя-ж арганізацыі ў гэткай дапамозе школы вельмі часта маюць патрэбу і ахвотна прымаюць такія школьныя прапановы.

У мэтах пэдпрапаганды можна і неабходна выкарыстаць таксама нашы тэатры і кіно. Кіно-глядачу вельмі часта прыходзіцца доўга сядзець у файэ, чакаючы пачатку сэансу. Арганізацыя мастацкай выстаўкі, якая ілюстравала-б работу школы пры добрым тлумачэньні, бязумоўна будзе садзейнічаць папулярызацыі ідэй палітэхнічнага выхаваньня. Гэта так неабходна менавіта зараз, калі школа напружвае ўсе свае сілы, каб адпаведным чынам перабудавацца, каб пастанову ЦК аб школе ажыцьцявіць у поўнай меры.

Наш артыкул ня быў-бы вычарпальным, каб мы не папярэдзілі чытача аб адной, надзвычайна важнай устаноўцы ў ва ўсёй справе пэдпрапаганды. Асноўнае, што кожнаму неабходна запомніць, гэта тое, што ніякая пэдпрапаганда, дзе-б яна не праводзілася і якімі-б мэтадамі і формамі мы-б яе ня выконвалі, нямысьліма бяз самай шчыльнейшай увязкі з бягучай палітыкай. Адарваць пэдпрапаганду ад задач сёнешняга дню, ня ўмець зьвязваць пытаньні школьнага будаўніцтва і камуністычнага выхаваньня з нашым сацыялістычным будаўніцтвам,—гэта азначае ня толькі рабіць палову работы, але рабіць яе дрэнна, пайсьці па шляху голага «культурніцтва», што для нас зусім не падыходзіць.

«У другой пяцігодцы, барацьба за перамаганьне перажыткаў капіталізму ня толькі ў эканоміцы, але і ў сьвядомасьці людзей павінна быць разгорнута па ўсяму фронту, у адпаведнасьці з асноўнымі палітычнымі задачамі партыі»... (з даклада тав. Молатава на XVII партканфэрэнцыі). Задача школы поўнасьцю ўключыцца ў гэту барацьбу і шляхам сыстэматычнай пэдпрапаганды, як у асяродзьдзі бацькоў, так і сярод шырокай пралетарскай грамадзкасьці дапамагчы партыі і савецкай уладзе перамагчы перажыткі капіталізма ў сьвядомасьці чалавека.

עפעקט דאַן, ווען ער רופט, מאָביליזירט, ווען מע לייענט אים? און דאָס איז מעג־לעך נאָר דאַן, ווען ער איז קינסטלעריש אויסגעפאָרמירט. וואָס מער פארבן אין די וואנט־צייטונגען! וואָס מער קאַריקאַטורן און בילדער, אויב ניט קען מען צייטנ־ווייַז דורכגיין פארבייַ און אפילע ניט באמערקן, אז עס איז אויסגעהאנגען געוואָרן א נייַע וואנטצייטונג. צום באדויערן, לייגן א ריי שולן קיינשום אכט ניט אפ אזוינע „קליינקייטן".

צו אזעלכע „קליינקייטן" געהערן אויך פארטרעטן פון אונדזערע פירער. א גרויסער פארטרעט, אין א שיינער ראַמל, אויסגעהאנגען אפ א ריינער ווייַסער וואנט, גיט דעם געהעריקן עפעקט, שאפט רעספעקט און ליבע צום אָריגינאַל א ריי שולן דערשאצן ניט דעם דראַזיקן מאָמענט.

אלזאָ, האָבן מיר א ריי קינסטלערישע מיטלען וואָס דארפן צוזאמען מיטן לימעד געזוקענטעניש לייזן די דערציִונג־פּראָבלעם פון יונגן דאָר לעטויוועס דער קאָמוניסטישער דערציִונג. נאָר א גאנצער קאָמפּלעקס פון פארשיידענע מיטלען וועט זיכערן דעם זיג. דערבייַ דארף מען נאָך האָבן אין זינען. אז די ארבעט דארף זייַן א טאָג־טעגלעכע, א סיסטעמאטישע. צו דער ארבעט דארף צוגעצויגן ווערן אויך די ברייטע פּראָלעטארישע געזעלשאפטלעכקייט, די עלטערן, צווישן וועלכע מען דארף פירן אן אנטשפּרעכנדיקע ארבעט.

דורכפירנדיק דאָס אלץ, וואָלט די שול גלייַכצייַטיק טיילווייַז געלייזט אויך א צווייטע פּראָבלעם, די פּראָבלעם פון קינדערשן אָפּרו. ס'וואָלט זיך פארבעסערט אויך די דיסציפּלין אין שול.

מען וועט אָנווייַזן אפ „אָביעקטיווע שוועריקייטן". נאָר שוועריקייטן זייַנען דאָ נאָר צוליב דעם, קעדיי מען זאָל זיי באזיגן. „ס'איז ניטאָ קיין פעסטונג, וואָס באָל־שעוויקעס זאָל ניט קאָנען באזיגן". (סטאלין)

---

בלײַבט עפּעס געלט. דאָס באַזאָרגנ די ביבליאָטעק שטײט גאָר אפנ לעצטנ אָרט. ס׳טרעפט, אז אינ מעשעכ פונ גאנצנ לערניאָר װערט די ביבליאָטעק אינגאנצנ ניט באַנוצט. דאָס איז ניט דערלאָזבאר. גלײַכ פונ אָנהײב יאָר מוז פאר דער ביבליאָטעק אויסגעטײלט װערנ אנ אומבארירלעכער פאָנד. עקאָנאָמיע אפנ כעשבנ פונ דער שול־ביבליאָטעק איז א שלעכטע עקאָנאָמיע.

גאָר א גרויסע ראָל אינ דער פּאָליט־דערציִונג פונ די שילער קאָנ שפּילנ דער קינאָ. ס׳איז אלעמענ באַװוּסט װאָס פארא באַדײַטונג האָט צוגעגעבנ דער כ. לעניג דעמ קינאָ אלס אגיט־מיטל. די שטאָטישע קינאָ־טעאטערנ קאָנענ אָבער דידאָזיקע ראָל ניט שפּילנ. דאָס אומאָרגאניזירטע באַזוכנ דעמ קינאָ דורכ די שילער קאָנענ גאנצ אָפּט אויסער שאָדנ גאָרנישט געבנ. אינ אנדערע שטעט װערנ פּראקטיקירט קינדער־סעאנס. נאָר די לעצטע האָבנ א רײ מינוסנ: ערשטנס, קומענ זײ פאָר ניט סיסטעמאטיש, ניט אָפּט אונ ניט אומעטום. צװײטנס, קומענ די סעאנסנ פאָר נאָר באַטאָג אונ גאָר א גרויסער טײל פונ דער שילער־מאסע האָט ליב צו באַזוכנ דעמ קינאָ דעמלט, װענ די דערװאקסענע באַזוכנ אים, אינ אָװנט. אינ די אינטערעסנ פונ דער פּאָליט־דערציִונג איז ביז גאָר נײטיק קינדער־קינאָענ. אויסער דעמ, פארמאָגנ א רײ שולנ קינאָ־אפּאראטנ, די נויטיקע פילמענ קאָנ מענ קריגנ, געלט־מיטלענ זײַנענ צו דעמ ניט נויטיק. די סעאנסנ װעלנ זיכ אלײנ באַצאָלנ.

א גרויסע באַדײַטונג װאָלט פאר דער פּאָליט־דערציִונג געקאָנט האָבנ א טעאטער.

עמעס, יעדער שול פארמאָגט א דראמ־קרײַז, װאָס שטעלט פונ צײַט צו צײַט א פּיעסע, נאָר צי קענ מענ דאָ רײדנ װעגנ א געהעריקער קינסטלערישער אויספאָרמירונג אונ, בעמײלע, אויכ װעגנ א געהעריקער עמאָציִאָנעל קינסטלערישער אופּװירקונג? אויסער דעמ, פארמאָגט יעדער שול נאָר אײנצלנע שילער מיט א טעאטראלער נײַגונג. אינ די גרויסע שטעט װאָלט מענ זיכ געדארפט פארטראכטנ װעגנ צונויפזאמלענ אָט די אלע צעװאָרפענע „טאלאנטנײ אונ אָרגאניזירנ אײנ קרײַז. שאפנדיק פאר אימ די נויטיקע באַדינגונגענ פונ ארבעט.

א ביז גאָר װיכטיקע ראָל שפּילט אינ דער פּאָליט־דערציִונג פונ די שילער די פײַערונג פונ די פּראָלעטארישע יאָמטויוימ. די שול האָט דאָ א מעגלעכקײַט דורכ דידאָזיקע יאָנטויװימ אײנפלאנצנ בא די שילער א ליבע צו דער ארבעטער־זאכ, צו די פירער פונ פּראָלעטאריאט, א ליבע צו די פּראָלעטארישע יאָנטויװימ אונ א האס צו די רעליגיעזע. צומ באַדויערנ אָבער, האָבנ מיר אינ א רײ שולנ אינ דער פײַערונג פונ די פּראָלעטארישע יאָנטויװימ א געװיסנ שאבלאָנ. פונ יאָר צו יאָר כאזערט זיכ איבער אײנ אונ די זעלבע זאכ. ס׳פעלט די נויטיקע פײַערלעכקײַט. מיר מוזנ מײַדנ דעמ שאבלאָנ אנ אקשאָנעטדיקנ קאמפ! װאָס מער נײַסנ! װאָס מער אָריגינעלקײַט! דער זשורנאל „זײַטיניי״ קענ אינ דעמ פּונקט אונדז פיל העלפנ.

ניט קײנ קלײנעמ אָרט פארנעמענ אינ דער פּאָליט־דערציִערישער ארבעט די שוליקע װאנטצײַטונגענ מיט דלעטע אונ לעבעדיקע צײַטונגענ. פארשײדענע יאָזונגענ. נאָר אויכ דאָ װאָלט גאָרניט געשאדט לײגנ מער אכט אפ דער קינסטלערישער אויספאָרמירונג. א לאָזונג גיט אנ

איִנ זיכ איִנ גאָר א גרויסער מאָס אלע מאָמענטנ, פונ וועלכע עס דארפ זיכ צונויפ־שטעלנ די פּאָליט־דערציִונג פונ יונגנ דאָר.

ציִ נוצנ אויס אונדזערע שולנ דידאַקטישע געלעגנהייִט? אלנפאלס איִנ זייער א באגרענעצטער מאָס (אפ די לימודימ פונ ליטעראטור). מענ קענ דאָ אופּטאָנ אסאכ מער. ליטעראטור קענ מענ אונטערטראָגנ די שילער איִנ פארשיידענע פאָר־מעס: איִנ פאָרמ פונ פאָרלעזונגענ, ליטעראַרישע אונ פּאָליטישע געריכטנ, איבער־דערציילונגענ, אנאליז פונ ווערק אפ פארנעמונגענ פונ ליטעראַרישע קרייִזנ, ענדלעכ איִז פאָרמ פונ אויסער־שול־לייענענ פונ די שילער גופע. **פּאקטיש לייענט זייער א קלייִנער פּראָצענט פונ דער שילער־מאסע אונ אויכ ניט אלעמאָל דאָס, וואָס זיי וואָלטנ געדארפט לייענענ לויט זייער אנט־וויקלונג אונ עלטער.** קייִנשומ אָנפירונג אונ קאָנטראָל איִז איִנ דעמ פראט איִנ די שולנ, קימאט, ניטאָ.

מיר גייענ אפ אזא אויפנ צו דער פראגע פונ אויסער שול־לייענענ איִנ ביבליאָטעק־ארבעט איִנ שול. די ביידע געביטנ זייִנענ בא אונדז שטארק פארנאכ־לעסיקט. די שול־ביבליאָטעקנ באדינענ זייער שלעכט די שילער. דער ביבליאָטעקער איִז נאָר א טעכנישער ארבעטער וואָס בייִט די ביכער. קייִנשומ ארנעט ארומ בוכ, אפ אריייִנציִענ וואָס מער לייענער איִז ניטאָ. כוצ דעמ, פארמאָגנ די שול־ביבליאָ־טעקנ ווייניק צוגעפּאסטע ביכער פארנ שול־עלטער.

ציִ קענ מענ די לאַגע אויסבעסערנ? יע! די ליטעראטור־לערער קענענ אונ דארפנ אָנפירנ מיטנ אויסער־שול־לייענענ מע דארפ זיי נאָר געבנ די נויטיקע באדינגונגענ דערצו. ניט איבערלאָדנ זיי איִנ שול מיט אנדערע געזעלשאפטלעכע ארבעטנ.

וואָס איִז שייִעכ די שול־ביבליאָטעקנ, וועט זייִנ שווער אופצוטאָנ עפּעס מאמאָ־שעסדיקעס, קאָלזמאנ זיי וועלנ בלייִבנ איִנ די איצטיקע באדינגונגענ.

ערשטנס, פארמאָגט יעדער שול איר קארליקאָווע ביבליאָטעקל מיט קלייִנע ביודשעט מיטלענ אונ, בעמיילע, אויכ מיט קלייִנע מעגלעכקייִטנ. אסאכ צוועקמע־סיקער וואָלט געווענ דאָרטנ, ווו ס'איִז מעגלעכ (איִנ גרעסערע שטעט, ווו עס זייִנענ דאָ אסאכ שולנ), צענויפגיסנ אלע שול־ביבליאָטעקלעכ. **אנשטאָט באזונ־דערע קארליקאווע ביבליאָטעקלעכ שאפנ צענטראלע קינדער־ביב־ליאָטעקנ, אָפּגעבנדיק אהינ די צעשפּליטערטע ביודזשעט מיטלענ וואָס ווערנ אָפּגעלאָזנ פאר יעדער שול. דערבייִ אָבער מוזנ איִנ דער שפּיצ פונ אזוינע ביבליאָטעקנ שטיינ ספּעציאליסטנ פּעדאגאָגנ.**

צווייטנס, פירנ אָנ מיט די שול־ביבליאָטעקנ, געוויינלעכ, ניט די ליטעראטור לערער. די ביבליאָטעק ווערט ווי א צוגאָב, געגעבנ יענע לערער, וואָס האָבנ איִנ שול א קלענערע אקאדעמישע אָנלאָדונג. באמ לייִזנ די פראגע ווער עס זאָל אָנפירנ מיט דער שול־ביבליאָטעק, שפּילט איבערהויפּט די וויכטיקסטע ראָל ניט דער מאָמענט וועלכער לערער וועט איִנ פאל קאָנענ מער נוצנ געבנ, נאָר די מאטעריעלע זייִט. אונ דאָס טויג ניט.

דריטנס, איִז איִנ דער פראגע פונ באזאָרגנ די שול־ביבליאָטעקנ מיט ביכער איִנ א ריי שולנ קייִנשומ סיסטעמ אונ פּלאנמעסיקייִט ניטאָ. מענ קויפט ווענ עס מאכט זיכ אונ וואָס עס מאכט זיכ, אונ דאָס אויכ נאָר איִנ דעמ פאל, ווענ פונ ביודזשעט

אז אזא צוגאנג צו דער פראגע איז אנ אויסגעשפראָכנ אָפּאָרטוניסטישער, איז קלאָר פאר יעדנ אונ ער מוז אומבערעכנדיק באקעמפט ווערנ. אינ גרעסטנ טייל שולנ רעאגירט מענ יע אפ אנטיסאָוועטישע דערשײַנונגענ: מענ רופט צונויפ פארזאמלונגענ אונ זיצונגענ, ווו מענ גיט דעמ געהעריקנ ווידערשטאנד אונ מע פאר־שארפט ארומ דעמ די געזעלשאפטלעכע מיינונג.

צי קענ באנוגענען אזא ארבעט? צי איז גענוג נאָר דאָס, וואָס מענ רעאגירט אפ אנטיסאָוועטישע ארויסטרעטונגענ אונ ווו זײַנענ פּראָפילאקטישע מיטלענ? **ווו איז יענע סיסטעמאטישע פּראָפילאקטישע ארבעט, וואָס זאָל מאכנ פאר אוממעגלעכ די אלע אנטיפּראָלעטארישע דערשײַנונגענ אינ שול?** עמעס, דידאָזיקע ארבעט איז אינ א גרויסער מאָס באזונדער אויסצופילנ דעמ לימעד געזעקענטעניש אינ שול. אויסער דעמ זײַנענ נאָכ דאָ אינ שול פארשיידענע קרײַזנ, פּאָליטישער, אנטירעליגיעזער, מיליטערישער אונ אנד. צי איז אָבער דאָס גענוג? אינ א ריי שולנ ווערט דער לימעד געזעקענטעניש אונטערגעטראָגנ די שילער זייער טרוקנ, אינ פאָרמ פונ טרוקענע לעקציעס, אָדער אינ פאָרמ פונ לאבאראטאָרער באארבעטונג פונ טרוקענעמ ביכער־מאטעריאל, גייענ טאקע דעריבער די לעקציעס דורכ נודנע, אומעטיק, אָנ דער געהעריקער דיסציפּלינ, אונ א הונדערטפּראָצענטי־קער עפעקט איז שוינ, בעמיילע אויסגעשלאָסנ.

נעמענ מיר די קרײַזנ, זײַנענ די פארנעמונגענ אינ זיי אינ א ריי שולנ פאקטיש א פאָרזעצונג פונ די לעקציעס אינ קלאס סײַ לויט זייער אינהאלט, סײַ לויט זייער פאָרמע. אונ דאָס איז אויכ נאָר אינ יענע פאלנ, ווענ די קרײַזנ ארבעטנ רעגולער. אינ א ריי שולנ אָבער פירנ דורכ די קרײַזנ פארנ גאנצנ יאָר נאָר א פּאָר פארנע־מונגענ, אָדער דאָס אויכ ניט. **אינ דער שול־ארבעט בכלל אונ אינ די קרײַזנ־ארבעט בפרט, פעלט יענער עמאָציאָנעל־קינסטלערישער שטראָמ וואָס וואָלט די ארבעט אופגעלעבט אונ אָפּגעשאפט די טרוקנקײַט אונ נודנעקײַט אינ איר.**

אלזאָ, קומענ מיר צומ אויספיר, אז דאָס אליינ איז ניט גענוג, צוהילפ מוזנ נאָכ קומענ פארשיידענע עמאָציאָנעל־קינסטלערישע מיטלענ.

**אינ א גרויסער מאָס קענ אינ דער הינזיכט אויסגענוצט ווערנ דאָס קינסטלערישע וואָרט, די עמאָציאָנעל־קינסטלערישע ליטערא־טור.** די סאָוועטישע ליטעראטור אינ אלע שפּראכנ פארמאָגט שוינ בא הײַנטיקנ טאָג א היפּשע צאָל אידעאָלאָגיש־אויסגעהאלטענע, עמאציאָנעל ווירקנדיקע ווערק, וואָס ווענדנ א סינע צומ קלאסנ־סוינע: צומ נעפּמאנ, באלעגופ, קלעריקאל אונ אנד. סאָנימ פונ דער ראטנמאכט. ווערק, וואָס באשרײַבנ די גרויסע סאָצבויונג בא אונדז אינ לאנד, דעמ ענטוזיִאזמ פונ די ארבעטער, די סאָציִאליסטישע ארבעט־מעטאָדנ אינ אונדזערע פאבריקנ, זאוואָדנ, סאָווירטנ אונ קאָלווירטנ: ווערק, וואָס פירנ ארויס אינ דער גאנצער גרויס דעמ העלד פונ פּינפּיאָר, דעמ שלאָגלער, קאָמוניסט אונ קאָמיוגיסט. מיר פארמאָגנ שוינ צענדליקער ווערק מיט אנ אינטערנאציִאָנאלנ אונ אנטירעליגיעזנ אינהאלט, וואָס מאָביליזירנ צומ קאמפ פאר דער ארבעטער־זאכ אינ דער גאנצער וועלט, צומ קאמפ קעגנ דער רעליגיע אונ אירע מעשאָרסימ. מיט איינ וואָרט, מיר פארמאָגנ בא הײַנטיקנ טאָג א ליטעראטור, וואָס אנטהאלט

ל. האנקינ.

# דער קינסטלערישער עלעמענט אינ דער פּאָליט-דערציִערישער ארבעט אינ שול.

דער פארשארפטער קלאסנקאמפ, וואָס מיר האָבנ בא אונדז, אינ צוזאמענהאנג
מיט דער דערפאָלגרײַכער סאָציִאליסטישער בויונג אינ לאנד, אינ צוזאמענהאנג מיט
דער ליקווידירונג פונ די לעצטע רעשטלעכ פונ קאפיטאליזם, קומט פאָר אפ אלע
געביטנ פונ אונדזער בויונג, סײַ עקאָנאָמישער אונ סײַ קולטורעלער.

פונ דעמ איז קלאָר, אז דער קלאסנקאמפ האָט אויכ אנ אָרט אינ דער סאָוועט-
שישער שול. די קאפיטאליסטישע רעשטלעכ, באמיִענ זיכ אויסנדרינגענ אינ שול
אונ ארײַנציִענ אינ דער ספערע פונ זײער אופווירקונג וואָס מער שילער, קעדיי
פונ אינעווייניק אונטערצורײַסנ די פּאָליט-דערציִערישע ארבעט פונ שול.

אינ דער באריסאָווער שול האָט א שילער פונ דער 6-טער גרופּע, א קינד פונ
א געוועזענעמ קלייקוידעש, געלערנט די שילער מאָלנ דעמ ציִאָניסטיש-פאשיסטישנ
מאָגנדאָוויד. דערזעלבער שילער פלעגט אפ די האפסאָקעס דערציילנ די שילער
מײַסעלעכ פונ כומעש אונ טאנאכ. א גאנצע ריי שולנ קענענ ברענגענ פאקטנ, ווענ
שילער באזוכנ ניט די שול אינ די טעג פונ רעליגיעזע יאָנטויווימ, נעמענ אנ אָנ-
טייל אינ צוגרייטנ אונ פײַערנ זיי. דאָס האָבנ מיר געהאט אינ אייניקע שולנ אפילע
האיאָר אינ דער צײַט פונ די הארבסטיקע רעליגיעזע יאָנטויווימ.

פאקטנ קענ מענ ברענגענ אינ די צענדליקער. נאָר די אויבנדערמאָנטע זײַנענ
שוינ פולקאָמ גענוג אפ צו באשטעטיקנ אונ דערווײַזנ די אגרעסיווקײַט פונ די
קאפּיטאליסטישע עלעמענטנ, אז זיי פירנ אנ אקטיוונ קאמפ פאר
באהערשנ דעמ יונגנ דאָר, אז זיי פירנ אנ אקטיווע ארבעט אפ אונ-
טעררײַסנ די פּאָליט-דערציִערישע ארבעט פונ שול.

פאר דער סאָוועטישער שול שטעלט זיכ אפ אזא אופנ אינ דער גאנצער גרויס
די פראגע: „ווער וועמענ"? ווי אפנ עקאָנאָמישנ פראָנט, מוז אזוי אויכ דאָ די פרא-
גע געלייזט ווערנ לעטובֿוועס דער קאָמוניסטישער דערציונג. פונ זיכ אליינ אָבער
קומט דאָס ניט קומענ. ס'פאָדערט זיכ מיצאד דער שול, מיצאד דער פּראָלעטא-
רישער געזעלשאפטלעכקײַט א שטארקער ווידערשטאנד, אנ אקטיווע דערציִע-
רישע ארבעט.

צו טוענ אונדזערע שולנ עפּעס אפ דעמ געביט?

דער צוגאנג איז דאָ בא פארשיידענע שולנ א פארשיידענער. אייניקע שולנ
(אזעלכע זײַנענ איינצלנע) טוענ אינ דעמ הינזיכט גאָרניט. „צי לוינט אינדערעמעסנ
עפּעס טאָנ? אידעאָלאָגיש-פרעמדע ארויסטרעטונגענ אונ שטימונגענ זײַנענ דאָכ נאָר
א רעזולטאט פונ אלגעמיינעמ קלאסנ-קאמפ. קאָלזמאנ ס'איז דאָ קלאסנ-קאמפ, זײַנענ
דידאָזיקע דערשײַנונגענ אינ שול אוממײַדלעכ, נו, אינ וואָס קאָנ מענ דאָ טאָנ?"
האָט אזוי טײַנענ אייניקע לערער. באנוגנט מענ זיכ טאקע נאָר מיט קאָנסטאטירנ פאקטנ

*Лавейка І. Д.*

# Фізычная культура—арганічнае зьвяно народнае асьветы *)

> „У выхаваньні будучага праца і навука будуць займаць аднолькавае месца, фізычнае выхаваньне і гімнастыка, работа рук і разумовая праца павінны гарманіраваць і ўзаемна дапаўняць адно другое, таму, што гэта адзіна пэўны сродак узьняць прадукцыйнасьць грамадзкай вытворчасьці“.
>
> (К. Маркс „Капітал“, т. I, гл. XIII, стар. 463, выд. 1923 г.).

Вялікі мысьліцель і рэвалюцыянэр XIX стагодзьдзя вызначыў той шлях, па якім павінна ісьці выхаваньне чалавека сацыялістычнага грамадзтва. Тое, што К. Маркс назваў «будучым», стала сучасным і тое, што ён назваў «гімнастыкай», мы называем фізычнай культурай.

У Савецкім Саюзе існуюць зараз усе прадпасылкі для таго, каб фізычная культура стала здабыткам найшырэйшых мас працоўных, каб арганізаваць іх вакол савецкіх, прафэсыйных і грамадзкіх арганізацый у справе падвышэньня вытворчасьці працы і абароназдольнасьці краіны.

Прыдаючы вялізарнае значэньне фізычнай культуры, як аднаму са сродкаў агульнай культуры, партыя і ўрад неаднаразова падкрэсьлівалі шырокае значэньне, якое павінна мець фізычная культура ў Савецкім Саюзе.

Яшчэ ў 1925 годзе ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове зазначыў, што «Фізычную культуру неабходна разглядаць ня толькі з пункту гледжаньня фізычнага выхаваньня і аздараўленьня, але і як адзін з бакоў культурна-гаспадарчай і вайсковай падрыхтоўкі моладзі (стралковы спорт і інш.), як адзін з мэтадаў выхаваньня мас (паколькі фізычная культура разьвівае волю, выпрацоўвае калектыўныя звычкі, настойлівасьць, хладнакроўе і інш. каштоўныя якасьці) і разам з тым, як сродак згуртаваньня шырокіх рабочых і сялянскіх мас вакол тых альбо іншых партыйных арганізацый, праз якія рабоча-сялянскія масы ўцягваюцца ў грамадзка-палітычнае жыцьцё».

У 1929 годзе ЦК УсеКП(б) выносіць рашэньне аб перабудове фізкультурнага руху на асновах масавасьці і набліжэньне яго да вытворчасьці, канстатуючы, што становішча фізкультурнага руху да гэтых часоў не адпаведае задачам, якія пастаўлены перад ім сацыялістычным будаўніцтвам. На падставе гэтае паста-

---

(* Артыкул зьяўляецца ўводным да цыклю артыкулаў па фізкультуры якія будуць друкавацца ў чарговых нумарох часопісу.

новы, ЦВК СССР (3-га красавіка 1930 года) вынес сваё гістарычнае рашэньне, у якім работа фізкультуры прызнаецца «справай першапачатковай дзяржаўнай важнасьці». Адсюль шэраг законадаўчых палажэньняў (фізкультура ў ВУЗ'ах, на вытворчасьці і г. д.).

Аднак, фізычная культура і да нашага часу ня можа заняць адпаведнае ёй месца па прычыне наяўнасьці момантаў, якія звычайна ўпіраюцца ў недаацэнку і неразуменьне яе мэт, задач і сродкаў з боку некаторых арганізацый (Наркамасьветы, Прамкаапэрацыя).

Дыктатура пралетарыяту, якая будуе сваё грамадзтва ва ўмовах варожага абкружэньня, выкарыстоўвае фізычную культуру ў сваіх мэтах, як магутны сродак для свайго ўмацаваньня. Фізычная культура ўваходзіць сустаўным элемэнтам у падрыхтоўку як байца, так і камандыра. Арганізацыя фізкультуры ў Савецкім Саюзе, побач з умацаваньнем вайсковай магутнасьці, мае асноўную мэту—у максымальнай ступені стымуляваць, разгортваць сілы рабоча-сялянскіх мас, прыцягваючы іх да сацыялістычнага будаўніцтва.

Вось гэткая мэта савецкай фізычнай культуры. Зусім зразумела, што як культура, якая пранізвае асобныя сэктары Савецкага Саюзу, фізкультура мае свае непасрэдныя задачы.

Па лініі Наркамасьветы гэтыя задачы дыктуюцца жыцьцёвымі патрабаваньнямі рыхтаваць для краіны ня толькі адукаваных, але і здаровых людзей. Школа павінна даць працаздольных і энэргічных будаўнікоў сацыялізму. Фізычная культура тут ужо выступае, як неадымная частка пэдагагічнага працэсу, што канкрэтна знайшло сваё адлюстраваньне ў аснове савецкай сыстэмы фізычнай культуры, комплексе значка «Гатоў да працы і абароны». (Г.Т.О.). Размаітныя ўхілы ў фізкультурнай рабоце тлумачацца ў першую чаргу нявеяаньнем шырокімі масамі асноў фізкультурнага руху.

Да гэтага часу большасьць пэдагогаў і кіраўнікоў навучальных установаў нізводзяць паняцьце «фізычная культура» да паняцьця фізычнага аздараўленьня, г. зн. выхалашчваюць ідэю фізычнай культуры, нізводзячы яе задачы да біалёгічнага разуменьня (узьдзейнічаньне на рад органаў і сыстэм, «каррэкцыя» і г. д.). Комплекс значка «Г.Т.О.» ставіць перад іспытуемымі шэраг патрабаваньняў грамадзка-палітычнага характару, ён увязвае фізкультуру з задачамі клясавай барацьбы (гэтым комплекс «Г.Т.О.» ставіць крыж над старым разуменьнем фізычнай культуры.

Ён яднае ў сьвядомасьці вучняў ідэю ўдарніцтва з ідэяй фізычнай падрыхтоўкі. Асноўная задача фізычнага выхаваньня ў школе заключаецца ў падрыхтоўцы да працы, на грунце якой магчыма разьвіцьцё новага грамадзтва. Фізкультура і ўдарніцтва зьвязваюцца значком у адно цэлае, гэта сувязь мае вялізарнае

пэдагагічнае значэньне. Дзякуючы ёй вучні ўсьведамляюць, што фізкультурнік гэта ўдарнік, які ўмее работаць з энтузыязмам, які ўкладвае ў работу творчасьць і ініцыятыву і, наадварот ударнік—гэта фізкультурнік, які клапоціцца аб сваёй «нэрвова-цяглічнай машыне», які разьвівае карысныя для працоўнай дзейнасьці звычкі і якасьці, жыцьцё-радасны і энэргічны. Значок «Г. Т. О.» вырашае задачы палітэхнічнага выхаваньня ў школе. На жаль, пытаньне аб ролі і значэньні фізкультуры ў агульнай сыстэме народнай асьветы не пастаўлена яшчэ на належную вышыню. Ня гледзячы на тое, што кожны пэдагог знаём з славутай трыядай К. Маркса—«злучэньне абучэньня з вытворчай працай і гімнастыкай» (на нашай мове фізкультурай), апошняя не знаходзіць патрэбнае пашаны і часта глядзяць на яе, як на пабочную. Тымчасам, комплекс «ГТО» ставіць зусім яскравую і акрэсьленую мэту, ён ня толькі ахапляе здачай норм, але і пранізвае ўсю школьную работу ў цэлым (фізкультурнік ударнік на вучобе, санмінімум, інтэрнацыянальнае выхаваньне).

Нарэшце, разьдзел фізычных практыкаваньняў комплексу «ГТО», у спалучэньні з падрыхтоўчымі да яго практыкаваньнямі ў працэсе пэдагагічнага ўзьдзеяньня, дапамагае:

1) Выпрацоўцы навыкаў калектыўнай арганізацыі, пачуцьця грамадзкасьці, што дасягаецца гульнямі, парадкавымі практыкаваньнямі, калектыўнымі рухамі і правільна-арганізаванымі прагулкамі і экскурсіямі.

2) Разьвіцьцю шэрагу псыхічных маральных якасьцяй, напрыклад: настойлівасьці, сьмеласьці, рашучасьці, самаайўладаньня і г. д.

3) Навучаньню сьвядома кіраваць сваімі рухамі, дзеяньнямі і з найбольшай карысьцю ужываць накопленыя сілы.

4) Імкненьню да ўмацаваньня нэрвова-рухальных і затрымліваючых цэнтраў.

5) Дапамагае нармальнаму завяршэньню пэрыядаў роста і фармаваньню арганізма, умацаваньню мускулатуры, разьвіцьцю яе і ўдасканаленьне ў сэнсе выносьлівасьці, а таксама садзейнічае нармальнаму разьвіцьцю унутраных органаў.

Усё гэта дасягаецца сыстэматычнымі заняткамі, фізычнымі практыкаваньнямі ў выглядзе гімнастыкі, рухальных і спартыўных гульняў, фэхтаваньня, прышчапленьнем санітарна-гігіенічных навыкаў, паралельна выкарыстоўваючы натуральныя фактары прыроды. Арганізацыя гэтых практыкаваньняў афармляецца праз вучэбныя заняткі, па-за школьныя заняткі, уняджэньня фізкультурных мінутак, «зарадак» і г. д. Бязумоўна толькі даволі доўгім і разнастайным спалучэньнем усіх гэтых форм, фізкультурная работа можа даць станоўчыя вынікі ў сэнсе выяўленьня якасьцяй і ўласьцівасьцяй выхаванца.

Такім парадкам, мы бачым, што фізычныя практыкаваньні ў сыстэме фізкультуры зьяўляюцца толькі аднэй з частак і, што фізычная культура сваімі сродкамі і мэтадамі шчыльна пады-

ГПК Фд.-Ал.

ходзіць да вырашэньня задач выхаваньня моладзі ў камуністычным духу.

Калі ў сярэдняй школе фізкультура зьяўляецца часткай пэдагагічнага працэсу, то ў вышэйшай школе ня ў меншай ступені яна павінна быць ўвязана з падрыхтоўкай спэцыяліста, паколькі яе задачы выхаваўча-адукацыйныя.

У пэдагагічных ВУЗ'ах фізычная культура павінна прасякнуць усю вучэбную і па-за вучэбную сыстэму падрыхтоўкі кадраў. Паводле ўстаноўкі, якая прынята Наркамасьветы РСФСР, фізкультура павінна зрабіць студэнта ня толькі вынось лівым, рухальным, моцным, але павінна зрабіць яго актыўным паборнікам праваднікам савецкай фізычнай культуры.

Гэта льга дасягнуць толькі тады, калі кожны студэнт будзе разумець палітычнае значэньне фізычнай культуры і будзе уладаць мінімумам навыкаў, якія неабходны для арганізацыі і практычнага правядзеньня паасобных відаў фізкультуры.

Адсюль вынікае неабходнасьць увязкі фізычнай культуры з асноўнымі прадметамі ў пэдагагічным ВУЗ'е: пэдагогікай, пэдалёгіяй, фізыялёгіяй, грамадазнаўчымі навукамі і вайсковай справай. Праграмы гэтых прадметаў павінны, кожная ў сваёй частцы, асьвятляць ролю фізычнай культуры ў справе фармаваньня новага чалавека.

Скончыўшы пэдагагічны ВУЗ павінен умець тэарэтычна абгрунтаваць фізкультурны працэс і мэтадычна разумець яго, для таго, каб перанесьці ў практычную работу (у школу, на вытворчасьць) атрыманыя веды і аснаваць фізкультуру, як фактар павышэньня вытворчасьці працы і як фактар захаваньня і ўмацаваньня здароўя і г. д. Тэарэтычнае абгрунтаваньне і мэтадычныя вывады павінны базавацца на тых ведах, якія атрыманы ў працэсе ўсёй падрыхтоўкі.

Фізычная культура павінна служыць каштоўнейшым сродкам, выхоўваючым паводзіны, што дасягаецца фізычнымі практыкаваньнямі, дзе неабходна ўзгадняць свае дзеяньні з дзеяньнямі іншых і, такім парадкам, атрымліваць навыкі калектыўнага супрацоўніцтва. Фізічным практыкаваньням уласьціва эмоцыянальнасьць. Пэдагогу важна, каб заняткі праходзілі эмоцыянальна, бо эмоцыі выклікаюць фізыалёгічныя зьмены ў арганізьме і падвышаюць эфэктыўнасьць пэдагагічнага ўзьдзеяньня. Увязваючы фізычныя практыкаваньні з пэўнымі тэмамі, нам удаецца надаць кожнай фізкультурнай тэме ясную ўстаноўку, уключыць у фізкультурны працэс сацыяльныя і вытворчыя моманты, пашырыць кола паняцьцяў і замацаваць атрыманыя веды. Апрача таго, фізычная культура дае пэўныя гігіенічныя навыкі, што і складае неадымную частку значка «ГТО».

Імпэрыялістычная вайна, якая рыхтуецца супроць Савецкага саюзу, выклікае неабходнасьць у арганізацыі вайсковай падрых-

тоўкі працоўных мас. Асновы гэтай падрыхтоўкі павінны быць дадзены ў ВУЗ'е.

У праграмах па фізычнай культуры ў ВУЗ'ах мы знаходзім вялікую колькасьць вайскова-прыкладных практыкаваньняў: стравыя заняткі па статуту РСЧА, практыкаваньні, якія выпрацоўваюць хуткасьць, выносьлівасьць, сьмеласьць, рашучасьць, спосабы абароны і нападу са зброяй, уменьне перамагаць перашкоды, канавы, платы, рэкі і г. д. Усё гэта супольна з іншымі практыкаваньнямі непасрэдна ўплывае на выхаваньне баявых якасьцей ваенізаванага пэдагога, дысцыплінуе яго і навучае кіраваць масай.

Пабудова мэтодыкі фізычнай культуры, як у сярэдняй, так і вышэйшай школе ажыцьцяўляюцца, як зазначана вышэй, на аснове савецкай сыстэмы фізычнай культуры, комплексе «ГТО». У сярэдняй школе гэты комплекс носіць назву «нарматыўных» паказчыкаў і яны разьбіты па групах адпаведна ўзросту і полу, прагрэсыўна ўзрастаючы ў сваіх патрабаваньнях яны маюць канчатковую мэту падрыхтаваць канчаючага 9-годку да здачы норм па комплексе № 1 на значок «ГТО».

Падрыхтоўка вузаўца пачынаецца з комплексу № 1 і ў працэсе навучаньня пераключаецца на абучэньне па комплексе № 2, падвышанай труднасьці—і гэтым савецкая сыстэма фізкультуры ўпаўне афармляецца.

Гэта сыстэма падрыхтоўкі да працы і абароны ўжо сябе ўпаўне апраўдала, як з боку масавасьці (комплекс № 1), так і з боку сваей канкрэтнасьці, найкарацейшым шляхам вырашаючы задачы, што стаяць перад фізкультурнымі арганізацыямі.

У сучасны момант перад намі выстаўлены трудныя і ганаровыя задачы:

1. Уцягнуць да пачатку Сусьветнай Спартакіяды (1 жніўня 1933 года) у фізкультурны рух 10 млн. працоўных.

2. З іх 2 мільёны павінны поўнасьцю здаць нормы на значок № 1.

3. Павінны змагацца за хутчэйшую перабудову фізкультуры ў школе і

4. Кожны фізкультурнік—ударнік.

Па ўсім Савецкім саюзе ідзе ўзмоцненая падрыхтоўка да Сусьветнай Спартакіяды і трэба меркаваць, што фізкультурныя арганізацыі справяцца са сваімі задачамі і вытрымаюць экзамен на годнасьць масавай арганізацыі.

# К Р Ы Т Ы К А
# І Б І Б Л І Я Г Р А Ф І Я

*Сташонак З. А.*

## Аб падручніку „Гісторыя для 5-й клясы ФЗС і ШКМ“, ч. І

**Г. Я. Каханоўскі, І. П. Лубоўскі, Е. У. Няразін, А. У. Сінявока.**

*Вучпэдсэктар ДВБ 1932 г.*

Пасьля таго, як у 5-х клясах ФЗС і ШКМ на працягу першага паўгодзьдзя па гісторыі прапанаваны матар'ял прыблізна да рабаўласьніцкай грамады—вышаў у сьвет падручнік, які ахапляе гэты разьдзел праграмы.

У гэтым, бясспрэчна, ня віна аўтара, а хутчэй вынік нездавальняючай пастаноўкі працы выдавецтва.

Настаўнікі—выкладчыкі гісторыі працуюць першы год па строга акрэсьленых праграмах, якія праз пэўную сыстэматызацыю гістарычнага матар'ялу забясьпечваюць, пачынаючы з 5-га году навучаньня, паступовае набыцьцё пэўнага кола ведаў з гісторыі. Адсюль вынікае значэньне падручніка па гісторыі і асабліва для 5-й клясы, якая ў зьвязку з увядзеньнем усенавуча за 7-годку, у гэтым годзе зрабілася масавай. Амаль у кожным с-савеце цяпер маюцца 5-ыя клясы і працуюць ў іх выкладчыкі—«унівэрсалы», вядучыя па 6—7 розных дысцыплін, у тым ліку і гісторыю. Ці патрэбна пасьля гэтага даказваць, з якім задавальненьнем такі настаўнік сустрэне ўсякі вышаўшы ў сьвет падручнік для II-га канцэрту і асабліва па гісторыі, выкладаньне якой у выніку адбыўшайся філёзофскай дыскусіі і барацьбы партыі з усякімі фальсыфікатарамі, павінна быць забясьпечана марксыцка-ленінскім разуменьнем гістарычнага працэсу.

Ня лічачы сябе падрыхтаваным у такой ступені, каб даць ўсебаковую крытыку вышаўшаму падручніку па гісторыі, усё-ж я, прапрацаваўшы ўжо гэты матар'ял у 5-х клясах і азнаёміўшыся бегла з выпушчаным падручнікам, лічу неабходным адзначыць тыя недахопы і памылкі, што заўважаны ў падручніку.

Па-першае, аўтарам патрэбна было агаварыцца, што яны ў асноўным пры складаньні свайго падручніка амаль поўнасьцю выкарысталі падручнік на расійскай мове Трахтенберга, Гуковского и Бернадского» Рабочая книга для V года ФЗС і I года ШКМ» выд. 1931 г., унёсшы некаторыя дадаткі. І ў гэтых дадатках якраз і пераважаюць памылкі.

Мэту вывучэньня гісторыі аўтары зводзяць да таго, што,

1) «ня ведаючы мінулага, мы ня зможам стала глыбода зразумець сучаснае» і

2) «веды аб мінулым даюць нам магчымасьць прадбачыць будучыню».

Ітак—мэта вывучэньня гісторыі па Каханаўскаму і інш.— **зразумець** сучаснае і **прадбачыць** будучыню. Відавочна, што калі вывучаць гісторыю **толькі** з такімі мэтамі — дапускаецца мажлівасьць для вучня застацца аб'ектыўным сузіральнікам сучаснага сацыялістычнага будаўніцтва, абы ён «разумеў» і «прадбачыў». Аўтары забываюць, што рэвалюцыйная тэорыя—«руководство к действию».

Пытаньне аб грамадзка-эканамічных фармацыях у мэтадалёгіі гісторыі зараз зьяўляецца бясспрэчна актуальным. Але ці значыць яшчэ, што мы, выходзячы з гэтага, павінны заграмаджаць галаву 13-ці гадовага вучня (ды і на самых першых днях 5-га году нав.) такімі формуламі, якія знаходзім у падручніку «Грамадзкая фармацыя—гэта пануючы спосаб здабываньня патрэбных сродкаў для жыцьця і сукупнасьць тых вытворчых адносін паміж людзьмі, якія складаюцца пад уплывам вызначаных спосабаў здабываньня сродкаў для жыцьця. Адна грамадзкая фармацыя адрозьніваецца ад другой сваімі пэўнымі законамернасьцямі, станам прадукцыйных сіл і адпавядаючымі ім вытворчымі адносінамі» (стар. 6—7).

У такой-жа форме растлумачваюцца паняцьці аб прадукцыйных сілах і вытворчых адносінах, і наогул старонкі 6, 7, 8 варты таго, каб над ім паламаў галаву сам настаўнік (маючы на ўвазе выкладчыка—не спэцыяліста), не гаворачы ўжо **аб 13-ці гадовых дзецях.**

**Вучань**, які толькі што перайшоў з 4-й клясы, сустрэне ў кніжцы амаль на кожным радку такія словы, як «стадыя, «прагрэсыўная», «матэрыяльны», прадпасылкі», «канцэнтрацыя вытворчасьці» і г. д. (8—9 ст.). Няма чаго і казаць аб тым, што напісаны такой вучонай моваю падручнік для дзяцей 5-й групы, ня вытрымлівае ніякай крытыкі з пункту гледжаньня пэдагогікі.

Выкладаць гісторыю патрэбна бязумоўна па фармацыях, але гэта ня значыць, што дзецям, якія толькі прыступілі да вывучэньня гісторыі, патрэбна абавязкова даваць самыя **азначэньні,** якіх яны ўсёроўна зразумець ня могуць.

Незразумела, у прыватнасьці, і тое, што аўтары ўводзяць і сваю ўласную тэрміналёгію. Чаму гэта **«Першапачатковы»** камунізм, а не **першабытны?** Далей, на стар. 6-й, чытаючы аб вытворчых адносінах у грамадзе, мы знаходзім наступнае:

«У сваёй працы чалавек заўсёды зьвязан з іншымі людзьмі (бясспрэчна. С. З.).

Яны **падзяляюць паміж сабой працу, арганізоўваюць яе, разьмяркоўваюць выробленыя прадукты,** абменьваюць іх» (падкрэсьлена мною. С. З. (стар. 6).

У чытача ствараецца ўражаньне аб нейкай плянавай гаспадарцы, дзе людзі па сваім жаданьні «падзяляюць працу», «арганізоўваюць яе», «разьмяркоўваюць» прадукты, і гэта ў той час, як аўтары бяруць гэтыя адзнакі, для высьвятленьня вытворчых адносін не савецкай гаспадаркі, а з гаспадаркі наогул, што выходзіць, можна знайсьці ва ўсякай гаспадарцы, у тым ліку і ў таварна-капіталістычнай. Вось і атрымаецца, што пры капіталізьме людзі: «падзяляюць працу», «арганізоўваюць яе» і «разьмяркоўваюць» прадукты. І пасьля гэтага высьвятленьня вытворчых адносін зусім не пераканаўча гучаць ідучыя сьледам радкі, яўна супярэчлівыя таму, што сказана раней.

«Гэтыя вытворчыя адносіны складаюцца незалежна ад чалавечага жаданьня і адпавядаюць таму ці іншаму ўзроўню прадукцыйных сіл» (стар. 6).

У разьдзеле аб паходжаньні мовы, прыводзячы прыклад з жыцьця жывёл, «якія жывуць гуртам» і калі «зьбіраюцца разам, то ствараюць **розныя, але аднолькавыя (?!) гукі»** і г. д.—аўтары прыводзяць «аналёгію»: «Першабытныя людзі, як мы ўжо ведаем, жылі **таксама гуртам—ардамі»** (стар. 30). Гэтым выразам аўтары атоесамляюць арду з гуртам жывёл. Кожны, хто хоць што-небудзь цяміць у гісторыі, скажа, і самі далей аб гэтым зазначаюць, што першабытная арда—гэта ўжо даволі складаная арганізацыя чалавечага сужыцьця (з міжпалавым і міжузроставым падзелам працы і інш.) і атоесамляюць грамадзкую форму з гуртам жывёл—відавочная бязглузьдзіца. Але так па пісанаму выходзіць. Ёсьць і такія месцы ў падручніку, дзе чытачу падпушчана нават крыху гумару, бо як інача назваць падобнае тлумачэньне: «Слой тлушчы і гразі, які пакрывалі першабытных людзей, што зараз яшчэ назіраецца ў некаторых адсталых народаў палярных краін, абараняў іх ад холаду» (стар. 25).

Лепш ужо ня скажам. У вучня так і створыцца вобраз, што першабытны чалавек быў тлусты як вяпрук і «слой гразі абараняў яго ад холаду». А такі-сякі і над сабой паспрабуе ўтварыць «экспэрымэнт»—у холад хадзіць у школу нямытым.

Або чаго варта прачытаць адзін толькі подпіс пад малюнкам на стар. 74: «Бойка двух гладыятараў. Направа—трэці падбухторвае» (!) Гэта ўжо гучыць ня проста, а нешта накшталт аб'явы цыркавога канфэрансье. Але пакінем жарты.

Некалькі разоў (гаворачы аб узаемаадносінах унутры арды, аб формах грамадзкага жыцьця ў пэрыяд нэоліту) аўтары зусім правільна падкрэсьліваюць, што грамада ўсё яшчэ застаецца бясклясавай. Але ва ўсёй кніжцы ніводнага разу не памінаюць пра камуністычны характар першабытнай грамады на першых ступенях, і нават больш таго—зусім ня ўжываюць тэрміну **першабытны камунізм.**

**Як гэта разумець?**

Мо' Кахаthroughоўскі і інш. маюць свае асабістыя погляды па гэтаму пытаньню?

Падкрэсьліўшы яшчэ раз на ст. 40, што сярод людзей новакаменнага веку «няма падстаў і для эксплёатацыі чалавека чалавекам», далей ў разьдзеле «Татэмізм» (58 стар.), паходжаньне якога (татэмізму) адносіцца да пэрыяду паляваньня і зьбіраньня (значыць—да пэрыяду ранейшага чым новакаменны век), мы знаходзім сьцьвярджэньне яўна супярэчлівае першаму: «Табу ў руках кіраўнікоў становіцца сродкам эксплёатацыі». Адсюль вынікае, што яшчэ ў пэрыод паляваньня і зьбіраньня была эксплёатацыя (сутнасьць не зьмяняецца ад таго, у якой форме яна выяўлялася).

Падыходзячы да пытаньня аб узьнікненьні эканамічнай няроўнасьці, аўтары зусім не чапляюць прычын распаду першабытнага камунізму (таксама, як не паказвалі яго сутнасьці), не паказваюць паступова нарастаючага імкненьня людзей да індывідуальнага адасабленьня, па меры росту вытворчых сіл, не паказваюць паступовасьці нарастаньня прыватнай уласнасьці (зброя і прылады працы—жывёла—зямля).

Невядома, за чый кошт аднесьці і такі ляпсус, як на стар. 13—«Гэтыя казкі (рэлігійныя, наконт паходжаньня чалавека. С. З.) папы і **іх паслугачы** буржуі і кулакі шырока і ўпарта прасоўваюць ў працоўныя гушчы...».

Выходзіць, што не папы зьяўляюцца служкамі эксплёататарскіх кляс, а наадварот—эксплёататары (буржуі і кулакі) зьяўляюцца паслугачамі папоў!

Нарэшце, пераходзячы да апісаньня родавай арганізацыі, аўтары зусім не паказваюць, як зьявілася гэтая новая грамадзкая форма, а проста пакінуўшы разважаньні аб ардзе, мэханістычна бяз усякай сувязі з папярэднім пачынаюць апісваць арганізацыю жыцьця ўнутры роду.

Пасьля ўсіх пералічаных заган, толькі што вышаўшы ў сьвет падручніка па гісторыі для масавай школы нельга абмінуць словам і наш ДВС, роля якога ў выданьні памянёнага падручніка відавочна зводзілася толькі да падстаўленьня штампу: «Дапушчана ў якасьці падручніка для 5-й групы ФЗС і ШКМ». Бязумоўна, што пры адсутнасьці на кніжным рынку другіх падручнікаў прыдзецца і гэтым карыстацца, але ўся бяда якраз у тым,

што ДВС не прыцягнуў да складаньня падручніка па гісторыі людзей, якія маглі-б даць значна вышэйшую якасьць.

Дарэчы яшчэ пару заўваг аб рэцэнзіі на гэты-ж падручнік, якая зьявілася ў № 292 газэты «ЗКП» ад 18/XII—32 г. за подпісам брыгады Інстытуту БАН.

Закранаючы яшчэ цэлы шэраг недахопаў і памылак, не адзначаных мною, гэтая аўтарытэтная брыгада палічыла для сябе дробязнай справай займацца шырокай крытыкай падручніка для 5-га году навуч. і пад загалоўкам «Как не нужно писать учебник истории» па сутнасьці паказала, як не патрэбна пісаць рэцэнзіі на падручнік. Што дае іх крытыка таму настаўніку, які будзе працаваць па падручніку Кахаоўскага і інш.? Можна сьмела ўпэўніць, што нічога ў сэнсе выпраўленьня памылак, дапушчаных аўтарамі.

З усяго сказанага патрэбна зрабіць такія вывады:

1. Новыя праграмы робяць ўпор на засваеньне вучнямі акрэсьленага кола ведаў з гісторыі.

2. Бяз добраякаснага падручніка па гісторыі (улічваючы параўнаўча слабую кваліфікацыю выкладчыкаў гісторыі ў масавай школе), гэтая задача ня можа быць выканана.

3. НКАсьветы павінен да складаньня падручнікаў па гісторыі прыцягнуць лепшыя сілі. Чаму-б не зрабіць так, каб працаўнікі Інстытуту гісторыі самі заняліся складаньнем падручнікаў?

4. ДВС, бяручы на сябе адказнасьць за выпускаемыя падручнікі, павінен не штампаваць іх, а дасканала праглядаць і выпраўляць.

Настаўнік чакае добраякаснага падручніка і ў праве яго патрабаваць.

---

*В. В. Захараў.*

# За падручнік, патрэбны савецкай школе.

## „Рабочая кніга па прыродазнаўству" Кобзіста і Радкевіча

*Выд. БДВ. 1932 г.*

У справе зьнішчэньня «карэннага недахопу» нашае школы не малая роля выпадае на долю падручніка. Падручнік дае мажлівасьць вучню замацаваць тыя веды, якія яму даваліся выкладчыкам у школе, дапамагае разабрацца ў цяжкіх і ня зусім ясных для яго месцах курсу і па шэрагу практыкаваньняў дае магчымасьць праверць, або вывесьці пэўныя законы, якія падпарадкуюцца вывучаемыя зьявішчы.

Выходзячы з гэтага, запатрабаваньні да падручніка ў савецкай школе патрэбна прад'явіць наступныя: а) сыстэматычнасьць ведаў, б) яснасьць выкладаньня, в) навуковасьць зьместу, г) пра-

вільнасьць і літаратурнасьць мовы, д) увязка сыстэматычных ведаў з момантамі сацыялістычнага будаўніцтва і сацыялістычнай практыкі, е) шчыльная сувязь з асновамі сучаснай індустрыі і сельскай гаспадаркі, ж) правільнасьць мэтадычнага падыходу і з) наяўнасьць матар'ялу для самастойнай праверачнай, або дасьледчай працы. Апошні пункт набывае асабліва значэньне па так званых дакладных навуках. Але за апошнія гады было выпушчана шмат падручнікаў па гэтых прадметах з яўным перагібам, які заключаўся ў тым, што падручнік меў шэраг работ, якія вучню прапанавалася зрабіць самому, самому-ж вучню прыходзілася рабіць і вывады з гэтых работ. Ніякага выкладаньня асноў самога прадмету, ніякіх вывадаў з работ у падручніку ня было.

Да гэтага патрэбна дадаць, што і самы матар'ял работ быў цалкам падпарадкаваны грамадзкай працы вучня, ўсякая сыстэматычнасьць ведаў адпадала і вучань знаёміўся са ўсім, толькі ня з тым прадметам, назва якога стаяла на першым аркушы падручніка. Прыкладам можа служыць падручнік брыгады пад агульнай рэдакцыяй Усесьвятскага і Ігнацьцева—«Рабочая кніга па прыродазнаўству», выд. ГІЗА, які перакладзены на беларускую мову.

Разглядаемы намі падручнік па прыродазнаўству Кобзіста і Радкевіча апошняга недахопу якраз ня мае: у ім ёсьць сыстэматычнае распалажэньне матар'ялу, маецца шэраг зьвязаных з курсам дасьледчых работ, маецца пасьля работ апісальны матар'ял, нават не заўсёды, але маюцца і вывады з работ. Здаецца лепшага і жадаць не патрэбна. Але-ж, калі мы ад «зьместу» пераходзім да самога выкладаньня сыстэматычнага курсу, дык зьдзіўляе поўная няпісьменнасьць аўтараў і стыліста, якія павінны былі выправіць недахопы мовы. Знакі прыпынку шмат дзе стаяць не на месцы, ад чаго зусім мяняецца сэнс, дзейнік і выказьнік вельмі рэдка сустракаюцца ў адным сказе; «чырвоны» радок настолькі любімы радок аўтароў, што нават часта працяг аднэй і тэй-жа думкі пачынаецца з «чырвонага» радка. Ёсьць і такія здарэньні, што вывады з некалькіх довадаў робяцца, наадварот, у адным абзацы з апошнім довадам, а то з думкай, якая ніякіх адносін да вываду ня мае (стар. 116, другі абзац).

Адносна мовы наогул патрэбна сказаць, што яна на працягу ўсёй кніжкі «дубовая». (Прыклады, стар. 114: «Калі-б, як мора, так і зямля, былі-б раўнымі як дошкі, то адразу-б усё было-б відаць, а то крутыя бакі кулі засланяюць»; стар. 63: «Бо калі ў вапеннай вадзе быў докіс кальцыя, а да гарэньня вугля ў кіслародзе ўтварыўся двухвокіс вуглароду, то вось яны пры злучэньні і ўтварэньні яго». Каго? (В. З.).

«Дубовасьць» мовы часта прыводзіць да магчымасьці няверных вывадаў. Як прыклад, прывядзем 2 радкі з 30-й старонкі: «Сіла вады рэк скарыстоўваецца, як энэргія, для таго, каб пры-

водзіць у рух рухавікі нашых фабрык і заводаў—як Волхаўбуд і Днепрабуд».

(**Увага:** вытрымкі прыводзяцца тут і далей у дакладным відзе, з усімі знакамі прыпынку, якія выстаўлены ў кнізе). Не гаворачы ужо аб тым, што для вучня «сіла» і «энэргія» стануць сінонімамі, патрэбна заўважыць, што Валхаўбуд і Днепрабуд вучань, прачытаўшы кніжку, будзе лічыць за магутныя фабрыкі.

Яшчэ «пэрл» са старонкі 24-й: «Калі паветра ахладжваецца, то зьяўляюцца кроплі вады, якія ўжо ў паветры ня могуць трымацца. Гэтыя кроплі надта дробныя, яны доўга могуць трымацца ў паветры». Які-ж вывад зробіць вучань з гэтых трох радкоў? Ці могуць кроплі трымацца, ці ня могуць? Такіх «пэрлаў» у кніжцы некалькі соцень.

Пярэйдзем да разгляду «навуковасьці» паднасімага вучню матар'ялу і мэтадаў яго паднясеньня.

Тут патрэбна раней за ўсё адзначыць, што ў пагоні за папулярнасьцю аўтары часта даходзяць да вульгарызацыі ў фармуляваньнях, ад чаго атрымоўваецца рад навуковага характару памылак (стар. 24—25 амаль цалкам, стар. 28—аб падняцьці вады з непрапушчальных слояў у артэзіанскіх студнях, стар. 26—«атмасфэрныя апады—вада, якая выпароўваецца з зямлі», стар. 64—«полымя ёсьць гарачыня газу» і шмат іншых месц).

Далей, апісаньне работ выкладзена нярэдка так, што нават, спэцыялісту-пэдагогу прыходзіцца доўга думаць, што аўтар хацеў сказаць; зусім відавочна, што вучань нічога не зразумее і работу выканаць ня зможа (прыкл.—раб. 22, п. 1, 2, 3, 4).

Бывае і гэтак, што ў рабоце даецца зусім няправільнае ўказаньне на спосаб яе выкананьня: напр., у рабоце для азнаямленьня з пругкасьцю паветра прапануецца ўвагнаць паветра ў бутэльку праз гумовую трубку і ў той-жа час заціснуць заціскам трубку, праз якую паветра ўдуваецца (стар. 44, п. 6-в). Ясна, увагнаць паветра ў бутэльку не ўдаецца. Што гэта—недахоп стылю, неразуменьне работы самім аўтарам, або шкодная перапрацоўка матар'ялу рэцэнзэнтам-праўцай?

Ва ўсіх работах пытаньні ставяцца аўтарамі ў такім выглядзе: «якія вывады магчыма зрабіць з досьледаў?», або проста «Ваш вывад». Такая пастаноўка пытаньня павінна быць прызнана мэтадычна няправільнай. Пытаньні патрэбна ставіць канкрэтна, у поўнай адпаведнасьці з мэтай, так званыя, «наводзячыя», якія-б прывялі вучня да правільных вывадаў.

Пасьля работы ў кніжцы не заўсёды маюцца матар'ялы з вывадамі, якія даюць вучню мажлівасьць праверкі ўласных вывадаў з праробленай ім работы (прыкл.—ст. 18, раб. 6, 7 і 8-я). Кніжка цалкам багата пытаньнямі, якія толькі павялічваюць яе аб'ём і ні навуковага, ні мэтадычнага значэньня ня маюць; напр: «Прыходзілася Вам калі-небудзь цягнуць ваду ротам праз трубку, ці не? (стар. 47). Часта задаецца шэраг пытаньняў, з якіх толькі адно мае дотык да тэмы, пры гэтым адказаў на гэтыя пытаньні

ні аўтар не дае, ні ад вучня іх не патрабуе, ды яны і наогул не патрэбны. Прыкладам можа служыць стар. 45, § 31—«Вага паветра», дзе спачатку задаецца 4 пытаньні, з іх толькі апошняе—«Ці мае паветра вагу, як іншыя целы»,—мае дотык да тэмы. Такія «рытарычныя» прыёмы патрэбна лічыць лішнім, асабліва ў працы з дарослымі (кніга для вячэрніх школ).

У аддзеле «Зямля» не праведзена яскравая кваліфікацыя горных парод на вульканічныя, ападачныя, абломачныя, арганагенныя і г. д. і не дано іх апісаньне ў гістарычным аспэкце (узьнікненьне адных ад другіх), што не дае вучню уяўленьня аб дынаміцы зямной кары. Самое паняцьце аб горных пародах вельмі прымітыўнае і навуковае ня вытрымліваючае крытыкі. «Такія пароды, як граній, называюць горнай пародай, бо якія ўваходзяць у састаў верхняга пласта земнай кулі». Такая-ж недарэчнасьць і ў фармуляваньні «руды»: «рудай завецца горная парода, або мінэраль, у якой мэталь злучыўся з немэталем і з якой здабываюць гэты мэталь».

Зусім ня ўдаўся аўтарам аддзел «Зямная куля», дзе яны, «рухаючыся вакол саміх сябе» (выраз, які ўжываецца неаднаразова ў падручніку для азначэньня руху зямлі навакол сваёй восі) не далі ясна выкладзеных паняцьцяў аб рухах зямлі, пары году і г. д.

У гэтым аддзеле даецца вельмі цікавае паняцьце аб кліматычных паясох. Гаворачы аб халодных, гарачых і краінах з мерным кліматам, аўтары між іншым кажуць: «Вучоныя дакладна вызначылі мэты гэтых краін. Атрымалася так, што гэтыя краіны нібы паясамі падпяразваюць усю зямную кулю. Ад абодвых полюсаў да палярных кругоў ляжаць халодныя краіны, дзе вечны сьнег». «Паміж экватарамі і палярнымі кругамі праходзяць па адной лініі з аднаго і другога боку экватару, так званыя, тропікі». Не гаворачы аб тым, што ў некаторых мясцох за памерным кругам добра удаецца яшчэ ячмень, які на сьнезе не расьце, патрэбна зазначыць, што такое апісаньне паясоў выклікае ў вучня ўяўленьне аб існаваньні на зямлі нейкіх ліній—меж, пераступіў праз якую і адразу апынуўся, нават улетку, у сьнезе. Крок назад—і стаіш на зямлі і ў цяпле.

Вельмі слабы аддзел «Гісторыя зямлі». Аднак Канта-Лапласава тэорыя, ды яшчэ ў выкладаньні падручніка, ня толькі нічога ня вытлумачвае вучню, але яшчэ больш заблытвае яго. Выразы «газы на іх знаходзяцца ў туманным расьлінным стане, чаму яны і завуцца туманнасьцямі»—здольны ўбіць усякі здравы сэнс у чалавека.

Неабходна было-б даць паняцьце аб другіх тэорыях (Чэмбэрліна-Мультана, Джымэк), указаўшы на гістарычнае значэньне тэорыі Канта-Лапласа ў разьвіцьці нашага ўяўленьня аб паходжаньні сонечнай сыстэмы.

Лічбовы матар'ял кніжкі зачастую зусім ня верны. Як прыклад, прывядзем лічбы падручніка для папярочніку зямлі: по-

люсны папярочнік—11920 клм., замест 12713 км. і экватарыяльны 11960 км., замест 12756 км. Памылка толькі на 800, прыблізна, кілёмэтраў. Пры гэтым, у падручніку пасьля тысяч стаіць коска і матэматычна пісьменны вучань прачытае і запомніць, што полюсны папярочнік зямлі мае 11 цэлых і 920 тысячных доляў км. (стар. 116).

Лічбы табліц удзельнай вагі (стар. 9) і пашырэньня цел (стар. 11) для некаторых матэрый таксама дадзены ня верна (плятына, золата, сьвінец, срэбра, нікель, медзь). Няврнасьць гэтых лічб прывядзе да таго, што вучань, пры праходжаньні фізыкі, ня будзе ведаць, якія лічбы «прыродазнаўчыя», або «фізычныя» лічыць правільнымі.

Яшчэ прыклад: «Паводле грубых падлікаў камення-вугальныя багацьці СССР складаюцца з 552 мільёнаў тон». Падлік настолькі «грубы», што матэматычна сьвядомы і крытычны вучань, на падставе гэтай лічбы і лічбы здабычы ў 1932-33 г. (75 мільёнаў тон), адразу выведзе, шляхам простага дзяленьня, што каменна-вугальных «багацьцяў» нашых хопіць... толькі на 8 год (стар. 87).

З матэматыкай ў аўтароў падручніка наогул слабавата. У адным месцы (стар. 49, радок 4-ты зьверху) яны «ўмудрыліся» папярочнік слупа ртуці мераць квадратовымі см., а ў шары «адшукалі» даўжыню і шырыню (стар. 116).

З прымяненьнем фізычных законаў таксама справа ня зусім абстаіць «добра». «Калі сьціскаць паветра, то яно памяшчаецца ў аб'ёме на тры чвэрткі свайго першапачатковага аб'ёму»; гэтай вытрымкай з кніжкі (стар. 45, радок 4-ы) аўтары думаюць даць вучню нейкі «новы» закон Бойля-Марыёта.

Далей, на той-жа 45-й старонцы ўказваецца, што будова і дзеяньне вадзяных помп аснована на «уласьцівасьцях газаў мяняць свой аб'ём у залежнасьці ад ціску». Зусім нічога не гаворыцца, наадварот, аб зьменах ціску газаў у залежнасьці ад зьмен аб'ёму (у дзеяньні помпы толькі гэтыя зьмены адыгрываюць ролю). Пры далейшым апісаньні дзеяньня вадзяной помпы, аўтары абсалютна нічога не гавораць аб аб'ёмах і цісках газаў, чаму вучню будзе зусім незразумела, пры чым тут гэтыя ўласьціваьці газаў.

Акрамя гэтага, у апісаньні дзеяньня помпы маецца месца: «паветра цісьне да вады», пытаньне-ж аб ціску паветра і доказы гэтага ціску прыводзяцца двума параграфамі ніжэй. Паняцьце аб вадзяной помпе патрэбна было-б аднесьці да ціску паветра і выкласьці на падставе «старога», усім вядомага закону Бойля-Марыёта, або «ўпрашчэнскі» без яго.

Маюцца ў кнізе і такія выразы, якія дыялектычна ня зусім «прыемлемы». Напр., на стар. 119, у артыкуле, «чаму на зямлі бывае дзень і ноч», чытаем: «Апрача гэтага вучоныя вылічылі, што свой шлях вакол самой сябе зямля робіць у 24 гадзіны, чаму мы і лічым гадзіны па руху сонца». Гэтыя радкі проста наводзяць на думку аб гадзіне, як велічыні, якая існуе ў прыродзе

паміма матэрыі і рух зямлі навакол сваей восі якраз і ўкладаецца ў гэтыя 24 гадзіны часу. Такая трактоўка нікуды ня варта: яна набліжаецца да трактоўкі часу «гэніяльным аслом» (эпітэт, якім Энгельс узнагародзіў Н'ютона) і мы да яе павінны адмежавацца.

Такая-ж трактоўка і году на наступнай старонцы (120 ст., радок 3-ці зьверху).

Лепш выкладзена другая частка кнігі «Жыцьцё расьлін», як у сэнсе навуковасьці зьместу, так і ў сэнсе літаратурнасьці мовы. Але і тут маюцца тыя-ж самыя мэтадычныя «непаладкі», якімі багаты першы аддзел. Такая-ж пастаноўка агульных пытаньняў у работах, або пытаньняў, на якія вучань можа даць тысячу адказаў і ўсе будуць вернымі, а вось тысяча першы, які патрэбны, не пападзецца яму пад руку; мэта работы часта не дасягаецца, з прычыны жаданьня ахапіць аднэй работай як мага больш матар'ялу (прыклад раб. 40-й, мэта якой—выяўленьне вады ў целе расьліны); і ўрэшце вучань атрымоўвае няправільнае ўяўленьне аб колькасьці вады, дзякуючы таму, што, акрамя высушваньня расьліны, яму прапануецца зрабіць і спальваньне расьліны, для выяўленньня колькасьці арганічных матэрый, аб чым гутаркі ў рабоце няма.

Тэхніка пастаноўкі некаторых работ нездавальняючая, як напр., раб. 41-я, дзе прапануецца узяць 100 грам мукі для атрыманьня клейкавіны, зрабіць цеста і «вузялок з цестам парухаць» ў вадзе, ад чаго нібы крухмал (увесь) асядзе, а клейкавіна застанецца. З гэтага нічога ня выйдзе. Трэба даць цеста паменш, а «вузялок» не «парухаць», а добра і даволі доўга расьціраць пальцамі на якім-небудзь радне, над вадой у шклянцы.

Есьць і памылкі навуковага зьместу, напр.: «сьцябло і лісьці разьвіваюцца ў фасолі з лісьценяў» (стар. 141).

На той-жа старонцы маецца вельмі «лёгічны» вывад: «зернятка жыта ёсьць цэлы плод. Таму іх і завуць зярноўкамі».

Зусім ня маецца ў гэтым аддзеле ўвязкі тэарытычных ведаў з сельскагаспадарчай практыкай.

Патрэбна заўважыць, што і гэты аддзел вельмі павярхоўны, і ня можа даць вучню больш-менш глыбокіх ведаў у такім важным разьдзеле біялёгіі, як батаніка.

Падагульваючы ўсё вышэй пералічанае, патрэбна сказаць, што кніжка як з пункту погляду навуковага, так і мэтадычнага, павінна быць прызнана шкоднай. Кнігу патрэбна зараз-жа выключыць з ужываньня ў школах, якая калечыць нашых дзяцей. Прыходзіцца дзівіцца, як такая кніжка магла выйсьці ў сьвет.

Я. З.

# „Юны ваяўнічы бязбожнік“

**антырэлігійная хрэстаматыя для 1-га канцэнтру, ч. I, Фрэйдмана, Хайтуна, Капаевіча**

*ДВБ, Вучпэдсэктар 1932 г. Цана 1 р. 20 к.)*

У сыстэме савецкай пэдагогікі надзвычайна вялікае месца займае антырэлігійнае выхаваньне. З першага году свайго навучаньня ў школе дзіця павінна сыстэматычна і пасьлядоўна, крок за крокам, авалодваць у даступнай і папулярнай форме асновамі матар'ялістычнага сьвепогляду, уяўляць шкоднасьць і клясава-варожую сутнасьць рэлігіі, яе роль, як тормазу сацыялістычнага будаўніцтва.

Мала таго. Дзеці павінны быць ваяўнічымі бязбожнікамі, актыўнымі змагарамі на антырэлігійным фронце, барацьбітамі за новы, рэволюцыйны быт, супроць багоў, іх прыслужнікаў, рэлігійных культаў, абрадаў і сьвят. Гэта пачэсная і адказная задача кладзецца на савецкую школу.

Між тым у некаторых школах, асабліва ў вёсцы, антырэлігійнае выхаваньне не на вышыні. Частка вучняў 1-га канцэнтру не зьяўляецца вольнай ад уплыву веруючых бацькоў і наогул рэлігійнага асяродзьдзя. З гэтым мы сустракаемся менавіта там, дзе настаўнік не змагаецца за бязбожную дзетвару. Тэорыя «бязрэлігійнага выхаваньня», яшчэ дзе-ні-дзе, на практыцы знаходзіць сабе прытулак, што фактычна прыводзіць там да ўмацаваньня пазыцый клясавага ворага і пранікнавеньня ўплыву царкоўнікаў у школу.

Вось чаму выяўляецца настойлівая неабходнасьць у школьнай антырэлігійнай літаратуры, як для настаўніка, гэтак і вучняў. Трэба між іншым адзначыць, што школьныя чытанкі і нават апошнія праграмы ДВС для 1-га канцэнтру, выпушчаныя ў канцы 1932 г., зусім невыстарчальна насычаны антырэлігійным матар'ялам і з пункту погляду бязбожнага выхаваньня зьяўляюцца нездавальняючымі.

Рэцэнзуемая кніга, відаць, мае на мэце ліквідаваць гэты прабел. У прадмове аўтары вызначаюць сваю хрэстаматыю як «дапаможнік для настаўнікаў—(падкрэсьлена намі, Я. З.), дзе аднак увесь матар'ял разьлічан на вучняў... Нашай неадкладнейшай задачай, пішуць—зьяўляецца ўзброіць настаўніка марксысцкаленінскай мэтадалёгіяй антырэлігійнага выхаваньня, дапамагчы яму антырэлігійным матар'ялам».

Але дарэмна малады, часта неспрактыкаваны настаўнік 1-га канцэнтру будзе тут шукаць неабходных мэтадычных парад і заўваг аб формах і канкрэтных спосабах правядзеньня анты-

рэлігійнага выхаваньня, увязцы яго з «асновамі навук». Такіх мэтадычных матар'ялаў няма. Хрэстаматыя прызначана для дзіцячага чытаньня, прычым некаторыя артыкулы зьяўляюцца цяжкімі для дзяцей і могуць быць скарыстаны толькі як матар'ял для гутаркі з імі.

Ёсьць пэўная сыстэма ў падборы матар'ялу. Апошні згрупаваны па тэмах: 1) Рэлігія—тормаз сацыялістычнага будаўніцтва; 2) Рэлігія на службе контррэвалюцыі; 3) Папы—дармаеды; 4) Супроць рэлігійных сьвят і абрадаў; 5) Як рэлігія шкодзіць здароўю; 6) Узмацнім рады юных бязбожнікаў.

Хрэстаматыя складзена галоўным чынам з апавяданьняў і артыкулаў, перакладзеных з расійскіх крыніц. Вельмі мала скарыстаны мясцовы матар'ял аб контррэвалюцыйнай дзейнасьці царкоўнікаў і барацьбе з імі ў БССР; зусім адсутнічаюць урыўкі з каштоўных антырэлігійных твораў беларускіх пісьменьнікаў— Чарота, Коласа, Чорнага ды інш. Дарэчы, аўтары ў прадмове скардзяцца на адсутнасьць—«адпаведных вершаў, на беларускай мове», што сьведчыць аб іх малым знаёмстве з беларускай літаратурай (шматлікія антырэлігійныя вершы Крапівы з вострай сатырай на папоў і рэлігію, некаторыя вершы Бядулі і інш.).

Зусім невыстарчальна скарыстаны багатыя думкі і выказваньні Леніна аб рэлігіі. Ня высьветлена паходжаньне апошняй, ня выкрыты хаця-б некаторыя біблейскія казкі і «цуды». У кнізе заўважана шмат карэктурных памылак, незразумелых дзецям слоў (у артыкулах), якія зьмешчаны без тлумачэньняў.

Асобныя матар'ялы падабраны «на вока» без пэдагагічнага выбару, уліку асаблівасьцяй і ступені разьвіцьця першага школьнага ўзросту (8-11 г.), на які разьлічана хрэстаматыя. Так, напрыклад з артыкулу «Яўрэйскія абрады шкодзяць здароўю», вучні 1-га канцэнтру даведваюцца, што паводле рэлігійнага закону... у хлопчыкаў абрэзваецца крайняя плоць», знаёмяцца з падрабязным апісаньнем гэтай цэрэмоніі, а таксама з... доглядам за сабой рэлігійных жанчын у час мэнструацый. Наўрад ці трэба даводзіць бязглуздасьць зьмяшчэньня такіх «откровений», якія штучна стымулююць сэксуальна-паталёгічную дапытлівасьць дзяцей першага школьнага ўзросту.

З вышэйсказанага відаць, што хрэстаматыяй належыць карыстацца асьцярожна. Аўтары павінны перапрацаваць сваю кнігу, а таксама падабраць пераканальныя антырэлігійныя матар'ялы з прыродазнаўства, біялёгіі, фізыкі і геалёгіі, якія ў дадзеным выданьні не скарыстаны. Трэба таксама забясьпечыць кнігу малюнкамі, кантрольнымі пытаньнямі і сьпісам рэкамэндацыйнай літаратуры.

# ІНФАРМАЦЫЯ

*Зацьверджана Калегіяй Наркамасьветы БССР.*

## ІНСТРУКЦЫЯ

## аб парадку правядзеньня гадавых праверачных іспытаў пры пераводах і выпусках вучняў

### I Агульная частка

1. Сваячасовая падрыхтоўка і арганізаванае заканчэньне 1932-33 навуч. году зьяўляецца аднэй з неабходных умоў хутчэйшай і лепшай рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б школе. З боку АНА, Заг. школ і настаўніцтва павінна быць нададзена асаблівае значэньне добраякаснаму правядзеньню заканчэньня навучальнага году, правядзеньню гадавых праверачых іспытаў пры пераводах і выпусках вучняў.

2. Гадавыя праверачныя іспыты пры пераводах і выпусках вучняў у канцы 1932-33 навуч. году павінны зьявіцца ўлікам работы вучняў за ўвесь навучальны год, дасканала высьвятліць становішча справы з праходжаньнем праграм па кожнай дысцыпліне, павінны даць выразную ацэнку ўзроўню ведаў і навыкаў кожнага вучня, павінны стымуляваць вучняў да падвышэньня іх адказнасьці за сваю работу і да падвышэньня якасьці работы кожнага вучня.

Даныя толькі праверачных іспытаў ня могуць быць рашаючымі ў вызначэньні ступені пасьпяховасьці кожнага асобнага вучня па пройдзенаму курсу, і павінны дапаўняцца данымі сыстэматычнага ўліку пасьпяховасьці кожнага вучня, які вядзецца на працягу ўсяго навучальнага году.

3. Праверачныя іспыты зьяўляюцца таксама формай дзяржаўнага і грамадзкага кантролю ня толькі за работай вучняў, але і за якасьцю работы кожнага настаўніка і школы цалкам.

### II Падрыхтоўчая работа да правядзеньня праверачных іспытаў

1. Перад праверачнымі іспытамі павінна быць праведзена пэўная падрыхтоўчая работа, за час якой праводзіцца паўтарэньне прапрацаванага праграмнага матар'ялу. Падрыхтоўчая работа мае на мэце даць магчымасьць кожнай групе, кожнаму

вучню абагуліць, прывесьці ў сыстэму і замацаваць прапрацаваны праграмны матар'ял, папоўніць веды вучняў па паасобных тэмах ці разьдзелах курсу ў тых выпадках, калі гэтыя часткі праграмнага матар'ялу былі недастаткова засвоены значнай колькасьцю вучняў групы.

Паўтарэньне пройдзенага матар'ялу кожны настаўнік павінен правесьці на працягу апошняй чвэрткі бягучага навучальнага году, уключыўшы гэта ў плян сваёй работы. Паўтарэньне пройдзенага матар'ялу праводзіцца ў асноўным на занятках у групе, не выключаючы заданьняў вучням на дом. Пры паўтарэньні курсу настаўнік ужывае розныя формы калектыўнай і індывідуальнай прапрацоўкі матар'ялу: лекцыі, гутаркі, экскурсіі, лябараторныя прапрацоўкі, пісьмовыя работы і г. д. Пры паўтарэньні пройдзенага матар'ялу неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на адстаючых вучняў.

2. У мэтах стварэньня ў вучняў правільных адносін да праверачных іспытаў, а таксама ў мэтах правільнай арыентацыі ў гэтым пытаньні бацькоў вучняў і грамадзкасьці, загадчыкі школ і пэдагогі павінны прапрацаваць інструкцыю аб праводах і выпусках вучняў на школьным савеце, прыстасаваць яе да ўмоў сваей школы, выпрацаваць канкрэтны плян правядзеньня іспытаў у школе, давёўшы парадак і плян правядзеньня іспытаў да кожнага вучня. Пытаньне аб іспытах і пераводах абгаварыць на сходзе бацькоў вучняў школ, на сходах рабочых прадпрыемства, з якім зьвязана школа, на сходзе калгасьнікаў, на вучнёўскіх арганізацыях і г. д.

3. Для хворых вучняў іспыты пераносяцца на восень (першая шасьцідзёнка ці сямідзёнка новага навучальнага году) пастановаю загадчыка школы на падставе даведкі урача.

## III. Арганізацыя іспытаў і ацэнка вэдаў вучняў за год

1. Гадавыя праверачныя іспыты праводзяцца:

а) Пры пераводах вучняў з групы ў групу;

б) Пры выпуску вучняў са школы.

У «0» групах іспыты не праводзяцца. Перавод вучняў гэтых груп праводзіцца на падставе гадовай характарыстыкі, складзенай на даных бягучага ўліку пасьпяховасьці за год.

2. На іспыты ў пачатковай школе і 1 канц. ФЗС і ШКМ адводзіцца 10 дзён, у II канц.—15-20 дзён.

3. Праверачныя іспыты ў I канц. ФЗС і ШКМ і ў пачатковай школе праводзяцца па бел. мове, рускай мове ў беларускіх і рускіх школах; па роднай, беларускай і рускай мовах у іншых нацыянальных школах; матэматыцы, грамадазнаўству, прыродазнаўству і геаграфіі; у II канцэнтры іспыты праводзяцца па мовах і літаратуры (як і у I канц.), матэматыцы, фізыцы, хэміі, прыродазнаўству, грамадазнаўству, гісторыі, геаграфіі, красьленьню, замежнай мове і

вытворчаму навучаньню, у адпаведнасьці з плянамі і праграмамі НКА.

4. Характар іспытаў залежыць ад асаблівасьцяй кожнай асобнай дысцыпліны і групы.

У пачатковай школе па мовах і матэматыцы іспыты праводзяцца шляхам агульных для групы пісьмовых кантрольных работ і вуснага індывідуальнага апросу, па астатніх дысцыплінах толькі шляхам вуснага апросу.

Ва ўсіх групах II канцэнтру па мовах, матэматыцы і замежнай мове, апрача вуснай індывідуальнай праверкі вучняў, праводзіцца агульная для ўсіх пісьмовая кантрольная работа.

Па гэаграфіі, прыродазнаўству, грамадазнаўству і гісторыі праверачныя іспыты правадзяцца шляхам вуснага апросу.

Па фізыцы і хэміі праводзіцца пісьмовая работа. У тых выпадках, калі даныя гэтых пісьмовых работ супярэчаць паказчыкам пасьпяховасьці вучняў на працягу года, ці маюцца якія-небудзь сумненьні ў вывадзе ацэнкі, для гэтых вучняў праводзіцца дадатковы вусны апрос.

Па красьленьню праводзіцца толькі пісьмовая праверачная работа.

Па вытворчаму навучаньню праводзіцца практычныя заняткі з вучнямі ў майстэрнях, разам з гэтым праводзіцца кароткі апрос па тэхнолёгіі.

5. Неабходны для іспытаў матар'ял па кожнай дысцыпліне (віды пісьмовых работ і пытальнікі па тых дысцыплінах, на якіх будуць праводзіцца вусныя іспыты) падрыхтоўваецца: у I канц. —на групавых нарадах ці мэт'аб'яднаньнях, у II канц. ФЗС і ШКМ —на цыклавых аб'яднаньнях ці мэтадычных аб'яднаньнях па дысцыплінах.

У сельскай мясцовасьці матар'ял для праверачных іспытаў падрыхтоўваецца праз Раймэтбюро і сельмэтаб'яднаньні.

Пры вызначэньні зьместу ўсіх відаў кантрольна-праверачных работ як пісьмовых так і вусных, неабходна кіравацца праграмамі для кожнага году навучаньня.

Пры вызначэньні зьместу кантрольных работ для 4-х груп сямігодак удзельнічаюць адпаведныя выкладчыкі 5-х груп.

Усе кантрольна-праверачныя работы зацьвярджаюцца Заг. школы. Пры Раймэтбюро арганізуецца кансультацыя мэтадыстаў, вопытных пэдагогаў (прыцягваюцца ў першую чаргу работнікі ўзорных школ) па ўсіх пытаньнях правядзеньня праверачных іспытаў, асабліва па складаньню матар'яла для іспытаў.

6. У мэтах недапушчэньня перагрузкі вучняў кантрольна-праверачнымі работамі, Заг. навуч, часткі ці Заг. школы разам з групавымі арганізацыямі і выкладчыкамі складаюць цьвёрды календарны расклад гэтых работ для кожнай групы ісваечасова даводзяць гэты расклад да вучняў.

У дзень праводзіцца ня больш аднэй кантрольнай пісьмовай работы і 1—2 вусных іспытаў.

7. Пры складаньні раскладу неабходна кіравацца наступнымі паказаньнямі:

а) Кожны настаўнік абавязан скласьці дасканала прадуманы плян правядзеньня іспыту на кожны дзень.

У сваім рабочым пляне ён павінен загадзя вызначыць зьмест пытаньняў з разьлікам на агульную колькасьць вучняў у групе і нарадак апросу.

б) Агульная дзенная нагрузка не павінна правышаць норм устаноўленых пастановай НКА і НКАЗ аб рэжыме школы.

г) Работа, якая патрабуе ад вучяў значнага разумовага напружаньня, павінна чаргавацца з работай, якая патрабуе ад іх меншага напружаньня.

д) У 4-х групах пачатковай школы, ФЗС і ШКМ і ў II канц. ФЗС і ШКМ на правядзеньне пісьмовых кантрольных работ у дзень можа быць адведзена ня больш 2-х акадэм. гадзін, а ў астатніх групах—1 гадзіна.

Праверачныя іспыты праводзяцца ў звычайнай нармальнай абстаноўцы ў прысутнасьці ўсіх вучняў данай групы.

На вусных і пісьмовых іспытах, акрамя настаўніка, які працуе з групаю па даннай дысцыпліне, прысутнічае. Заг. школаю і прадстаўнікі—ад камсоду, камсамолу і АНА. На іспытах могуць таксама прысутнічаць пэдагогі, працуючыя у раўналежных групах.

Іспыты ў I і II групах пачатковай школы, ФЗС і ШКМ праводзяцца ў прысутнасьці настаўніка данай групы і Заг. школы ці яго намесьніка.

Загадчыкі АНА павінны так сплянаваць работу па правядзеньню іспытаў, каб забясьпечыць прадстаўнікамі АНА ўсе школы, прыцягваючы для гэтай мэты ў якасьці прадстаўнікоў АНА вопытных пэдагогаў.

8. Загадчыкі школ абавязаны ўлічваць усе недахопы ўзьнікаючыя ў час іспытаў, з мэтай іх выпраўленьня на хаду.

## IV Ацэнка пасьпяховасьці вучняў

1. У агульнай ацэнцы ведаў вучняў на праверачных іспытах неабходна кіравацца якасьцю пісьмовых работ, адказамі на іспытах і дадзенымі бягучага ўліку пасьпяховасьці за год.

Агульная ацэнка па кожнай дысцыпліне выводзіцца выкладчыкам у дзеньніку бягучага ўліку пасьпяховасьці.

На падставе агульнай ацэнкі па кожнай дысцыпліне вырашаецца пытаньне аб пераводзе вучня ў наступную групу ці аб сканчэньні школы.

2. У залежнасьці ад узроўню ведаў і навыкаў вучня ўстанаўліваецца наступная падагульняючая ацэнка пасьпяховасьці: **нездавальняюча, здавальняюча, добра, вельмі добра.**

Апрача паказанай ацэнкі, у гадавой характарыстыцы адзначаюцца асобныя нахілы вучня да тэй ці іншай дысцыпліны, дакладна пералічваецца, якія іменна разьдзелы курса не засвоены вучнем

і чаму (невыкананьне заданьняў на дом, няўважлівыя адносіны да работы, пропускі заняткаў па ўважлівых ці няўважлівых прычынах, спазьненьне і г. д.) і мерапрыемствы па зьнішчэньню гэтых недахопаў.

Акрамя таго ў характарыстыку ўносяцца наступныя даныя: дысцыплінаванасьць вучня, яго паводзіны, колькасьць пропускаў, колькасьць спазьненьняў, грамадзкая работа (якую і як выконваў), удзел у соцспаборніцтве і ўдарніцтве (апошнія 2 пытаньні не абавязковы для I і II груп школы).

Падагульняючая характарыстыка работы вучняў павінна быць зафіксавана ў дакумантах школы і паведамлена вучню і яго бацьком.

3. Характарыстыка вучня заносіцца ў канцы кожнай чверткі і ў канцы года ў спэцыяльную вучотную картку вучня, форма якой наступная:

1. Прадметы (пералічваюцца ў вертыкальным слупку ўсе прадметы і ацэнка пасьпяховасьці па кожнаму).
2. Якія прабелы маюцца па прадметах.
3. Дысцыплінаванасьць.
4. Колькасьць пропускаў.
5. Колькасьць спазьненьняў.
6. Грамадзкая работа (якую і як выконваў).

## V Пераход і выпуск вучняў

1. Да праверачных іспытаў не дапускаюцца і астаюцца на другі год у той-жа групе вучні, якія па даным бягучага ўліку пасьпяховасьці маюць па трох і больш дысцыплінах нездавальняючую ацэнку.

2. Вучні астаюцца на другі год у той-жа групе, калі ў выніку іспытаў атрымалі нездавальняючую ацэнку па такіх двух дысцыплінах, як родная мова і матэматыка ці па трох з наступных дысцыплін: родная мова, матэматыка, грамадазнаўства, геаграфія, прыродазнаўства (ў пачатковай школе і ва ўсіх групах ФЗС і ШКМ) і акрамя таго—фізыка, хэмія, працоўнае навучаньне, замежная мова ў II канц. ФЗС і ШКМ.

Пры нездавальняючай ацэнцы толькі па роднай мове, матэматыцы, грамадазнаўству, або па двух з астатніх дысцыплін вучні трымаюць у другі раз іспыты ў восень спачатку новага навучальнага году. Характар іспытаў у восень такі самы, як і ў канцы навучальнага году. Паўторныя асеньнія іспыты праводзяцца на працягу першай 6-цідзёнкі ці 7-мідзёнкі новага навучальнага году.

3. Школа павінна прыняць меры да таго, каб дапушчаныя да паўторных іспытаў вучні ў летні час маглі атрымаць неабходную дапамогу і ўказаньні з боку настаўнікаў школы.

4. Умоўныя пераводы не дапускаюцца.

5. Астаўленьня вучняў на 3-ці год не дазваляецца.

Гэтыя вучні пераводзяцца ў сыстэму вячэрняй асьветы ці ў дапаможныя школы.

6. Выпускнікі ФЗС і ШКМ, атрымаўшыя на паўторных іспытах нездавальняючую ацэнку па аднэй з асноўных дысцыплін (мова, матэматыка, грамадазнаўства, гісторыя, геаграфія, фізыка, хэмія, біолёгія) астаўляюцца на другі год. Калі маецца нездавальняючая ацэнка па двух і больш з пералічаных дысцыплін, вучні звальняюцца са школы і атрымоўваюць даведку са школы з указаньнем, якія дысцыпліны вучнем засвоены і па якім ён ня можа лічыцца засвоіўшым школьнага курсу.

---

**Ад рэдакцыі: Інструкцыя аб уліку пасьпяховасьці і іспытах студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў БССР будзе надрукавана ў часапісу «КВ» № 3—4.**

---

**Адказны рэдактар У. І. ХОМО**

# ЗЬМЕСТ